ЛІТАРАТУРА
І МАСТАЦТВА

# ЛіМ

ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

10 красавіка 1998 г. № 15/3943 Кошт 4 000 руб.





# Авацыі і праблемы

Ягоныя дасягненні ў развіцці нацыянальнага музычнага мастацтва, ягонае прафесійнае майстэрства атрымалі заслужанае прызнанне. Анатоль ЛАПУНОЎ, мастацкі кіраўнік — галоўны дырыжор Сімфанічнага аркестра Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Беларусі, ганараваны званнем заслужанага дзеяча мастацтваў краіны.

Пяць гадоў таму, у маі 93-га, ён узначаліў Сімфанічны аркестр Дзяржтэлерадыё. Камунікабельнасць Анатоля Лапунова, ягонае ўменне арганізаваць і настроіць выканаўцаў на арыгінальную творчую інтэрпрэтацыю кожнага музычнага твора паспрыялі прафесійнаму сталенню калектыву.

Дарэчы, праца такога калектыву, як вядома, мае сваю адметнасць. Яго рэпертуар па разнастайнасці музычных форм, стыляў і працягласці гучання неверагодна вялікі. Адно пералічэнне прозвішчаў беларускіх аўтараў, творы якіх запісваліся аркестрам у студыі, было б ці не бясконцым, бо спатрэбіцца пералічыць увесь склад Саюза кампазітараў. І калі мець на ўвазе, што без агучвання твора, які існуе толькі ў нотах, музыкі няма, дык без выканання нібыта не існуе і кампазітара. Таму дырыжора можна лічыць хросным бацькам для ўсіх нашых творцаў. Іхнія опусы рэгулярна запісваюцца на магнітную стужку, паступаюць у фонд, гучаць па радыё і ў тэлевізійным эфіры, скарыстоўваюцца ў самых розных праграмах.

Аркестр запісвае таксама песні, арыі і ансамблі з опер і аперэт — з удзелам салістаў радыё і тэлебачання, сталічнай філармоніі, Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы, Дзяржаўнага тэатра музычнай камедыі. Былі і выступленні ў “жывым” эфіры: выконваліся творы Я. Цікоцкага і П. Чайкоўскага. Зроблены відэазапісы сімфоній Г. Вагнера і С. Бельцюкова, Канцэрта для трубы з аркестрам У. Дамарацкага, кантаты “Вяселле” А. Літвіноўскага. Працягваючы добрыя традыцыі, калектыў шмат выступае і перад публікай, а цяпер яшчэ і гастралюе за межамі краіны.

— Апошнія нашы гастролі, — расказвае Анатоль Лапуноў, — праходзілі ў Германіі і Іспаніі. У Іспаніі было сем канцэртаў, тры з іх у Мадрыдзе, а ў Германіі — 15 канцэртаў, за два тыдні ў розных гарадах. Выступалі ў цудоўных залах, абсталяваных для слухання сімфанічнай музыкі — у залах на 1000 месцаў! Поспех узрадаваў і акрыліў,

*(Працяг на стар. 3)*

## ЛіМ КОЛА ДЗЁН

***"Вясна-98" абяцала быць адносна спакойнай. Аднак, хоць да кульмінацыі — чарговай гадавіны чарнобыльскай катастрофы яшчэ два тыдні, можна канстатаваць: маштабы "веснавога наступу" не меншыя, чым летась... А тут яшчэ прайшла чутка пра магчымыя парламенцкія выбары ўвосень... Значыць, і лета спакойнага не будзе...***

### ФЕСТЫВАЛЬ ТЫДНЯ

Пачатак гэтай традыцыі паклаў конкурс таленавітых дзяцей Заводскага раёна, які ўпершыню ладзіўся ў 1992 годзе. Сёлета фестываль дзіцячай творчасці "Усміхніся, зорачка!" праходзіць у рамках святкавання 60-годдзя Заводскага раёна сталіцы. 3 красавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё. У праграме фестывалю — спектаклі дзіцячых лялечных і тэатральных студый, музычная вечарына, конкурсы, гала-канцэрт. Афіцыйнае закрыццё — сёння, 10 красавіка.

### АДМОВА ТЫДНЯ

Вышэйшы орган заканадаўчай улады, створаны восенню 1996 года, адмовіўся ўключыць у парадак дня сесіі пытанні аб ратыфікацыі беларуска-нямецкага пагаднення "Аб доглядзе за ваеннымі магіламі", падпісанага два гады назад. Калі б пагадненне ўступіла ў сілу, нямецкі бок меў бы магчымасць (за свой кошт) закласці магілкі нямецкіх салдатаў, што загінулі ў Беларусі ў часе дзвюх сусветных войнаў. Пагадненне прадугледжвае таксама забеспячэнне ўрадам ФРГ дагляду беларускіх магіл на тэрыторыі Нямеччыны. Ратыфікацыя адкладзена на няпэўны час.

### ЗАГАД ТЫДНЯ

Магілёўскае гарадское ўпраўленне гандлю выпусціла загад тэрмінова замяніць на ўсіх гандлёвых кропках іншамоўныя назвы. Надпісаў на расійскай мове гэта не датычыць.

### "ШЛЯХ" ТЫДНЯ

У Берасцейскім Палацы культуры прафсаюзаў працуе выстава пад назвай "Крыжовы шлях". Яе наладзілі Беларускі Хельсінкскі камітэт і Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій. Экспануюцца матэрыялы аб палітычным тэрory 20—50-ых гадоў. Выстава прывезена ў абласны цэнтр з Мінска і тут дапоўнена новымі экспанатамі.

### МІЛАСЭРНАСЦЬ ТЫДНЯ

Як вядома, Брэсцкая крэпасць, дакладней, тое, што ад яе засталося, плюс мемарыял "Брэсцкая крэпасць-герой" стаіць на руінах старажытнага горада, знішчанага па загадзе імператара Мікалая І. Знішчыць горад, каб пабудаваць крэпасць — такога ў гісторыі яшчэ не было. Але імперская логіка простая — "самадзяржаўе, праваслаўе, народнасць". А значыць, сцерці каля 30 касцёлаў і манастыроў старога горада — каменных сведкаў Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года. Ды вось святасць вяртаецца на гэтую зямлю. Па рашэнні берасцейскіх уладаў Свята-Мікалаеўскі сабор атрымаў паўразбураныя будынкі вайсковай часці, непадалёк ад мяжы. Тут будзе пабудаваны дзіцячы прытулак. Наколькі хутка гэта адбудзецца, залежыць ад фінансавання.

### ЮБІЛЯРЫ ТЫДНЯ

Колькі было юбіляраў у зале, на сцэне ды за кулісамі падчас імпрэзаў, што адбываліся ў сталічнай філармоніі 6 і 7 красавіка, — ніхто не лічыў. Да свята спрычыніліся ўсе: артысты-музыкі, дырыжоры — колішнія і цяперашнія, меламаны, кампазітары, крытыкі, сябры ды сваякі. А юбілеяў было два: Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі адзначаў сваё 70-годдзе, назаўтра спраўляў імяніны Дзяржаўны камерны аркестр, якому споўнілася 30. Падзеі для айчыннага мастацтва выбітныя, вартыя шырэйшага аповеду, які мы прапануем чытачам праз тыдзень.

### НЕБЯСПЕКА ТЫДНЯ

Намеснік дырэктара Чарнобыльскай АЭС заявіў, што пашкоджаныя выбухам канструкцыі чацвёртага энергаблока, якія знаходзяцца ўнутры "саркафага", могуць абрынуцца ў любы дзень. Захад гатовы выдаткаваць сродкі, каб быў пабудаваны "саркафаг" над "саркафагам", але спецыялісты пакуль не маюць адзінай думкі адносна таго, якім ён мае быць. Калі ж Чарнобыль зноў выбухне, беларусы, як і ў 1986 годзе, будуць першымі, хто гэта адчуе.

### КАНЦЭРТ ТЫДНЯ

4 красавіка ў Архікафедральным касцёле імя Найяснейшай Марыі Панны адбыўся канцэрт вялікапостнай музыкі. Акрамя названага касцёла, у арганізацыі канцэрта бралі ўдзел калектыў "Беларускай Капэлы" і Інстытут польскай культуры. У праграме — помнікі беларускай і польскай музычных культур XVII—XVIII стст. А дакладней — планкты. Гэта невялікія вакальна-інструментальныя творы, тэматычна звязаныя з Хрыстовымі Пакутамі. Большасць планктаў ананімная. Перад аматарамі музыкі, што прыйшлі ў гэты дзень у касцёл, выступілі вядомыя выканаўцы — Тацццяна Цыбульская, Алена Шведава, Рыгор Палішчук, Віктар Скорабагатаў, ансамбль салістаў "Класік-Авангард".

Зусім нядаўна рэстаўратары і будаўнікі вярнулі Архікафедральнаму касцёлу ягонае архітэктурнае аблічча, толькі нядаўна ўзняліся вежы з крыжамі. А сёння касцёл пажынае славу адной з лепшых у сталіцы канцэртных залаў. Сапраўды, адраджэнне рэлігійнасці і культуры ўзаемазвязана, узаемаабумоўлена.

### СМУТАК ТЫДНЯ

15 гадоў таму, 7 красавіка 1983 года, памерла вялікая жанчына Беларусі, паэтка і грамадска-палітычная дзяячка Ларыса Геніюш. Да самага скону спадарыня Геніюш заставалася грамадзянкай Беларускай Народнай Рэспублікі. Грамадзянства СССР (БССР) яна прыняць адмовілася.

---

НОВАЕ

# У "Залатой серыі" — "золата" Баравіковай

Выдавецкі праект аб выданні лепшых набыткаў беларускай літаратуры дваццатага стагоддзя, пра які апошнім часам вялося нямала размоў, нарэшце стаў рэальнасцю. Першынцам у "Залатой серыі", выпуск якой узяло на сябе выдавецтва "Мастацкая літаратура", стаў аднатомнік выбраных твораў Раісы Баравіковай "Сад на капялюшыку каханай". Да назвы яго вельмі ўдала стасуецца рэпрадукцыя з карціны М. Селешчука "Восень", вынесеная на вокладку. На ёй прывабны твар жанчыны ў капялюшыку, на якім і квітнее сад.

Сад жыцця, сад кахання, сад светлых мрояў і спадзяванняў... Гэтксама, як і ў творчасці Р. Баравіковай, у якой так моцна гучаць матывы любві, сяброўства. Разам з тым, у чым пераконвае і аднатомнік выбранага, паэтэса смела зазірае ў падзеі сівой даўніны, як, для прыкладу, у драматычнай паэме ў дзвюх дзеях "Барбара Радзівіл".

І ўвогуле лірычная гераіня Р. Баравіковай — гэта жанчына, якая жыве сёння. Жанчына, якая жыла некалі. Жанчына, якой жыць у будучым... Здавалася б, гэта спалучэнне немагчымага, але на тое і ёсць сапраўдная паэзія, каб немагчымасць ператвараць у рэальнасць. А паэзія сапраўдная там, дзе і талент — сапраўдны, жыццядайны. Як у Раісы Андрэеўны, якая, як вядома, за лепшыя свае кнігі адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы і Літаратурнай прэміяй імя Аркадзя Куляшова.

Як сказаў дырэктар "Мастацкай літаратуры" Георгій Марчук, услед за кнігай Р. Баравіковай выходзіць аднатомнік выбранага Леаніда Дранько-Майсюка. Хутка пабачаць свет кнігі Еўдакіі Лось, Віктара Казько, Уладзіміра Караткевіча. Запланаваны на бліжэйшы час выбраныя творы Васіля Быкава, Уладзіміра Дубоўкі, Ларысы Геніюш, іншых аўтараў — базале нацыянальная літаратура багатая на яркія, самабытныя таленты.

Дарэчы, пра афармленне серыі. Распрацавана яно мастаком А. Царовым, і на вокладку кожнай кнігі абавязкова будзе выносіцца рэпрадукцыя з карціны якога-небудзь вядомага мастака. На самім жа "карэнчыку" пераплёта ўслед за назвай "Залатая серыя" будзе ўдакладненне: "Паэзія XX стагоддзя" ці "Проза XX стагоддзя".

**А. М.**

---

УРАЖАННЕ

# Апошняя восень Марфы

Рассыпаныя па доле спелыя яблыкі... Восень года. Восень, а хутчэй перадзім'е жыцця. Час азірацца і ўспамінаць, падбіваць рахункі. Для Марфы, гераіні п'есы А. Петрашкевіча "Дагарэла свечачка...", гэтая восень стане апошняй. Занадта моцна ўрасла яна каранямі ў глебу, што засыпана чарнобыльскім попелам.

Увасобленая на Малой сцэне Купалаўскага тэатра як монаспектакль Галіны Бальчэўскай, п'еса непазбежна штосьці траціць — найперш сюжэтныя павароты, разнастайнасць персанажаў, — але ў ёй застаецца галоўнае: праўда народнага характару, праўда народнага жыцця.

Марфа то ўзіраецца ўдалечыню, нібыта маладосць сваю выглядае, то светла згадвае матулю, загінуўшага ў канцлагеры мужа, дзяцей... Па сыне-палкоўніку, што склаў галаву ў Афгане за нейкі "доўг", у адзіноце спраўляе гадавіну. Раз-пораз гукае, як у лесе: здалося, што нехта блізка. Раз-пораз вымаўляе нязвыклае слова "эвакуацыя". Адно месца ў яе, сказалі. Адно і ёсць: "кавалачак зямлі ля родных на могілках". Успамінае, як жылі ў калгасе да вайны, як немцы "заезджы двор" з іхняй вёскі зрабілі. "Стольки было смешнага... Як успомніш — слязьмі зальешся". То мужа перад немцамі бароніць, то падушку адбірае ва ўпаўнаважанага, то пляменніцу-"курву" ўшчувае... Увесь спектакль мы разам з актрысай балансуем паміж двух полюсаў чалавечага існавання. Ад усмешкі да слязы, ад калядак да "сиреневого тумана", ад побыту да палітыкі, ад пацвельвання да гневу. І нідзе Г. Бальчэўская не "пераціскае", нідзе рэжысёр (Г. Баравік) і кампазітар (У. Кур'ян) не пагрэшылі супроць меры і густу.

Іншая справа, наколькі адпавядае такому характару трагічны фінал. Каб наша жанчына зламалася, рукі на сябе налажыла?! Ды не ў хворым — у сваім розуме? Тут мне бачыцца перагукванне са Сцепанідай са "Знака бяды" В. Быкава. Але там была ў безвыходным становішчы, у аблозе, гэтая ж не жадае пакідаць родныя магілы. Дык многія і не пакідалі — жывуць у зоне, збіраюць апады, плятуць цыбулю ў вянкі, кормяць здзічэлых катоў...

Пераблыталіся часы і поры года (ці то Вялікдзень, ці то Радаўніца), думкі скачуць з мінулага ў сённяшняе — збірацца трэба, эвакуацыя, а збірацца няма сілы: "Стамілася я". Праз жаль да сябе, праз горыч і боль страт прабіваецца самае безнадзейнае з пытанняў (бо тая інстанцыя звычайна не азываецца): "Божа, за што? З такім цяжарам і на той свет не пусцяць".

Не ведаю, ці спрычыніўся драматург да выстройвання маналога, але эпізоды з жыцця гераіні маглі б быць не такімі раскіданымі, а сама яна больш рухавай. Цяжкавата ўявіць вясковую кабету без занятку. Ці сапраўды — так стамілася, што і яблык той паднясць цяжка, цыбулю сплесці?.. Тым не менш, актрыса на працягу гадзіны цалкам валодае глядацкай увагай. Гэтаму спрыяе як натуральнасць сцэнічных паводзінаў, так і вакальныя здольнасці Галіны Бальчэўскай: народнымі песнямі яна славілася змоладу...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

---

ПРЭМ'ЕРЫ

# Шагал. Забораў... Хто наступны?

Не бывае мастак без пашаны. Хіба толькі ў бацькаўшчыне сваёй... Гэтая думка стала лейтматывам новага дакументальнага фільма "Дамова з Гітлерам" (рэж. У. Колас). Прэм'еру ладзілі на мінулым тыдні ў Беларускім культурным гуманітарна-адукацыйным цэнтры.

"Дамова з Гітлерам" — тэматычны працяг дакументальнай стужкі В. Рубінчыка "Мастак Барыс Забораў". Летась гэты фільм "адкрыў" беларусам таленавітага суайчынніка. Тое, што малюе Б. Забораў, — сапраўднае адкрыццё ў жывапісе. Яго карціны — своеасаблівая імітацыя старых фотаздымкаў, праз якія мастак імкнецца разгадаць тайну часу, тайну жыцця і смерці.

У цэнтры ўвагі У. Коласа — мінскія мастакі І. Цішын, Н. Залозная, Р. Вашкевіч, С. Малішэўскі, С. Рымашэўскі, А. Дзямідаў. Іх карціны распавядаюць пра дзіўны незвычайны свет, дзе пануе казачны тэатр. Аднак, калі В. Рубінчыка цікавіць толькі асоба мастака і яго творчасць, дык У. Коласа — праблема адаптацыі мастака ў грамадстве. Рэжысёр супастаўляе індывідуалістычны свет мастакоў (па словах аднаго з іх, карціны — гэта вяртанне на ўлонне маці, дзе было цёпла і ўтульна) з рэчаіснасцю. Вуліцы з шэрымі тварамі, убогасць быту, крывавыя дэманстрацыі — вось што бачыць рэжысёр, а з ім — глядач карціны. Жудасна чуць, як алкаголік кажа пра сваё захапленне Гітлерам, фюрэр лепшы за Сталіна, бо змагаўся за нацыянальную ідэю, за чысціню нацыі.

У карціне ёсць эпізод, калі адзін з мастакоў чытае кнігу, у якой галоўны герой падчас вайны дамовіўся з Гітлерам, што той будзе кожны дзень лупцаваць яго па мяккім месцы. Супастаўленне літаратурнага персанажа з нашым сучаснікам лічу цікавай знаходкай рэжысёра. Беларускі народ і цяпер з ахвотай падстаўляе мяккае месца для лупцоўкі.

Каму патрэбны сёння маладыя беларускія мастакі? Народу, які на дэманстрацыях змагаецца за адраджэнне Бацькаўшчыны? А, можа, тым, хто лупцуе дэманстрантаў гумавымі дубінкамі? У. Колас робіць сумны вынік: у беларускіх мастаках мае патрэбу толькі галандскі мецэнат. Ён хоча, каб палотны беларускіх фігуратыстаў знайшлі пакупнікоў. Спачатку ў Галандыі, потым у Францыі. Усё вяртаецца зноў...

Ужо семнаццаць гадоў, як з'ехаў з Беларусі ў Парыж Б. Забораў. Нездарма яго лёс параўноўваюць з лёсам М. Шагала. Бо не бывае мастак без пашаны. Хіба толькі ў Бацькаўшчыне сваёй...

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

---

## Ліст у рэдакцыю газеты "Літаратура і мастацтва"

Паважаны таварыш рэдактар!

У "ЛіМе" (N 14 ад 3 красавіка 1998 г.) змешчана карэспандэнцыя "Прыйшлі да згоды". Аўтар матэрыялу, які схаваўся пад літарамі Г. К., сцвярджае, "што Арсенневу, Сяднёва і Геніюш выкінулі з праграмы з санкцыі такіх салідных асоб, як І. Навуменка, У. Гніламёдаў, В. Рагойша".

Просім паведаміць чытачам газеты, што ў "салідных асоб", г.з. І. Навуменкі, У. Гніламёдава, В. Рагойшы ніхто не пытаў згоды ні на ўключэнне ў праграму для сярэдняй школы твораў названых вышэй пісьменнікаў, ні на іх выключэнне.

Аб усім гэтым мы даведаліся з Вашай газеты.

З павагай!

**І. Навуменка, У. Гніламёдаў, В. Рагойша**

АНКЕТА

# Што з'езд чарговы нам рыхтуе?

***Да з'езда засталося зусім няшмат часу. Прэзідыум, аднак жа, ніхто збіраць не спяшаецца. У кулуарах абмяркоўваюцца магчымыя кандыдатуры.***

***А з пісьменніцкіх анкет вымалёўваецца агульны настрой — захаваць нашу суполку, знайсці тое, што нас аб'ядноўвае.***

***Нагадваем, што пытанні былі такія:***

***1. Якой вам уяўляецца бліжэйшая будучыня Саюза пісьменнікаў і што для яе павінен зрабіць з'езд?***

***2. З якімі асобамі (альбо генерацыяй) звязваеце вы магчымае абнаўленне дзейнасці пісьменніцкай суполкі?***

## Алесь КАСКО

**1.** Будучыня трывожная, але не безнадзейная. Нават калі саюз распадзецца на кавалкі — такая небяспека, на жаль, існуе, — дык застанецца непахіснай яго аснова, а гэта Васіль Быкаў, Янка Брыль, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Анатоль Вярцінскі, Ніл Гілевіч, шмат хто з маладзейшых і зусім маладых. Яны не здрадзяць нацыянальнай ідэі, іхні аўтарытэт непахісны і не дасць згубіць арыенціры, якімі б амаральнымі нападкамі гэтыя арыенціры ні выпрабоўваліся.

Сіла духоўная дазволіць лягчэй перанесці цяжкасці матэрыяльныя. Аднак не аднымі малітвамі (і ўжо ж не слёзнымі лістамі-мольбамі на "гару") трэба жыць. Творчы саюз (такія абставіны) мусіць быць і прафсаюзам. І складкі павінны стаць большымі, і ўменне зарабляць грошы — таксама. Цяпер мы нават не просім: перадайце адно з дзяржаўных кнігавыдавецтваў нам! А каб стварыць самім — дык і не думалі. Навошта, калі выгадней набыць піўзаводзік і грэцца дзенебудзь на Кіпры...

Я не ідэаліст. Ідэалістка — дзяржава, якая хоча цалкам прыручыць ці "раскалашмаціць" саюз творчых людзей, каб вылушчыць з яго суполку "беззаветно преданных". Адданымі былі тыя сто з невялікім гакам нямецкіх літаратараў, якіх у канцы 30-х гадоў фюрэр склікаў у новы Саюз пісьменнікаў Германіі. Ды хто цяпер ведае іхнія імёны, іхнія творы? А Томас Ман, антыфашыст-эмігрант, як быў, так і застаўся гонарам нацыі.

Не дай Бог, канечне, нам такога... Але ж пакуль збіраюцца грошы на народную "кнігу" Васіля Быкава, пакуль Ніна Мацяш думае-гадае, дзе б надрукаваць хоць адзін з трох новых паэтычных рукапісаў, графаманы-прайдзісветы выдаюць ледзь не выбранае. Накшталт аднаго нашага берасцейца, былога саў-, партфункцыянера з яго ідэйна вытрыманымі, але абсурднымі вершамі:

*Позалезали в щели тараканы,*
*Не видно их в обставленных домах.*
*Лишь ночью,*
*когда дремлют ветераны,*
*Они кишат в сервантах*
*и шкафах...*

На гэтакіх — стаўка дзяржавы?! Смешна і... горка.

**2.** Імёны я назваў вышэй. Найперш за імі — лёс сапраўднага Саюза беларускіх пісьменнікаў.

## Алесь ПЕТРАШКЕВІЧ

**1.** Пра бліжэйшую будучыню Саюза пісьменнікаў гаварыць не даводзіцца: гэтай будучыні проста няма, бо няма ўжо і самога Саюза як грамадскай сілы. На сённяшні дзень застаўся бадай што толькі тэлефонны даведнік беларускіх пісьменнікаў. Самі ж пісьменнікі, як мне здаецца, па большасці сваёй з'ехалі ва "ўнутраную эміграцыю". З'ехалі як крыўды за няшчасную Айчыну, з'ехалі ад бязладдзя жыцця, ад немагчымасці сустрэчы з чытачом, ад хамства і нахабства да нацыянальных святыняў — а найперш да гісторыі народа, да яго культуры, да яго мовы.

Можа, і не ўсе выжывуць у эміграцыі, але тыя, што не зломяцца, спадзяюся, пакінуць пасля сябе годныя духоўныя здабыткі. Гэтыя здабыткі і застануцца калі не велічнымі помнікамі (а чаму б і не?) нацыянальнай трагедыі беларусаў, то добрымі зарубкамі на людской памяці аб агрэсіі супраць святыняў, аб здрадзе свайму народу і яго культуры, аб масавай дэградацыі людскога ў чалавеку ад нялюдскага жыцця.

Найбольш глыбокія зарубкі ўжо сёння пакідае паэзія. Добра ж трэба было дапячы паэта-сучасніка, каб ён усклікнуў, каб закрычаў у роспачы:

*Што зрабілася*
*з нашай Айчынай?*
*Хто пакаецца ў цяжкіх грахах?*
*І па волі чыёй блудным сынам*
*Крочу з торбай па горкіх шляхах?*
*О, Радзіма! Як прыкра ўсё гэта.*
*Дай нам веру і дай нам спакой.*
*А калі не патрэбны паэты —*
*То й не трэба Радзімы такой!..*

**2.** Дзейнасць пісьменніцкай суполкі як жывога, актыўнага арганізма, як структуры грамадства, што яднае творчыя сілы нацыі ў барацьбе за яе існаванне і росквіт, пачнецца з вяртаннем творцаў — у першую чаргу маладых — з той самай няшчаснай эміграцыі. Адбыцца ж гэта можа тады, калі ў бацькоўскім краі засвецяцца хоць кволыя пробліскі элементарнай свабоды, сапраўднай незалежнасці і чалавечай павагі. Рызыкі і самаахвярнасці чакаць не варта...

## Кастусь ЦВІРКА

**1.** Мне ўяўляецца Саюз пісьменнікаў незалежным прафесійным аб'яднаннем літаратараў. Галоўнай задачай яго павінна быць дапамога пісьменнікам у выданні і распаўсюджванні іх твораў. Дзеля гэтага неабходна: 1) знайсці спосаб цеснага супрацоўніцтва з дзяржаўнымі выдавецтвамі з тым, каб ніводная таленавітая кніга не заставалася ў сталах, а чым хутчэй станавілася набыткам шырокай грамадскасці; 2) арганізаваць уласную выдавецкую дзейнасць.

**2.** Абнаўленне СП я звязваю з правільным выбарам яго кіраўніцтва. Гэта павінен быць: 1) аўтарытэтны, агульнапрызнаны літаратар; дзелавы, ініцыятыўны, з "прадпрымальніцкай жылкай" чалавек; смелая, бескампрамісная і настойлівая ў адстойванні правоў пісьменніка асоба.

## Леанід ЯЎМЕНАЎ

**1.** З'езд павінен настроіць свой саюз, каб ён не быў кісялепадобным, аморфным НЕЧЫМ, якое ўвогуле незразумела дзеля чаго існуе. Калі яму быць (а быць трэба!), дык ён павінен:

а) стаць абаронцам правоў пісьменніка як асобы, як грамадзяніна і як творцы, у тым ліку права на думку, права на перакананне, права на аб'ектыўную інфармацыю, права на ўдзел у грамадскім і дзяржаўным жыцці, права на выданне твораў у дзяржаўных СМІ і выдавецтвах без ДЫСКРЫМІНАЦЫІ па адзнацы палітычных перакананняў, права на годную аплату сваёй творчай працы;

б) быць (заставацца) асяродкам творчага жыцця і творчага выхавання і старых, і падлеску;

в) быць калектыўна адказным за тое, што робіцца ў грамадстве, у дзяржаве, у краіне; рабіць пісьменніка маральна адказным за лёс народа, яго дзяржаўнасці і культуры.

**2.** Выдатных асоб сярод беларускіх пісьменнікаў нямала. Хаця хапае і прыкарытнай гнюсі, і палітычных цемрашалаў, і юродзівых ад дэмакратыі. Лепшае, самае актыўнае, самае сумленнае з усіх генерацый у колькаснай раўнавазе іх прадстаўнікоў у кіраўніцтве саюза павінна надаць яму патрэбны для ўзвышэння імпульс.

АБСЯГІ

## ГРОДНА...

### "Пярсцёнак"

Ала Мікалаеўна Петрушкевіч выкладае беларускую літаратуру ў Гродзенскім універсітэце. Кандыдат філалагічных навук. У 1997 годзе ў Гродне яна выдала прыгожую кніжку эсэ "Іду па слядах", у якой здолела неяк па-жаночы далікатна напісаць пра жанчын у беларускай літаратуры — і пра гераінь класічных твораў, і пра паэтак, і пра маці Максіма Багдановіча Марыю, і пра Алаізу Пашкевіч. Атрымалася вельмі змястоўная кніга, якую можа прачытаць і настаўнік і вучань. Яна выддзена накладам 500 асобнікаў.

Летась у той жа аўтаркі выйшаў і зборнік вершаў "Пярсцёнак" накладам у тры тысячы асобнікаў.

**Алена ГАЙКО**

## ГОМЕЛЬ...

### Рудабелка памятае...

Рашэннем Акцябрскага райвыканкама ўстаноўлена званне "Ганаровы грамадзянін гарпасёлка Акцябрскі". Першым такога гонару ўдастоены пісьменнік Сяргей Іванавіч Грахоўскі — аўтар аповесці "Рудабельская Рэспубліка". Ганаровымі грамадзянамі сталі таксама мастак Леанід Дробаў і ветэран Вялікай Айчыннай Міхаіл Качан — аўтар некалькіх дакументальных кніг пра сваё мінулае.

### "Чорны бусел..." пабачыў свет

Гомельскі пісьменнік Анатоль Бароўскі напісаў новую кнігу публіцыстыкі, якую назваў трывожна і загадкава — "Чорны бусел — белы цень". Яна — пра Чарнобыль, пра людзей, лёс якіх ён апаліў. Асаблівасць гэтага дакументальнага расповеду ў тым, што ён пра энергетыкаў — ліквідатараў аварыі, подзвіг якіх і паспрыяў таму, каб "Чорны бусел..." пабачыў свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" накладам сем тысяч асобнікаў.

Прэзентацыя кнігі адбылася ў цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Герцэна.

**Ігар ЛЯСНЫ**

## ВІЦЕБСК...

### "Заранка" гастралюе

Віцебскі ўзорны вакальна-харэаграфічны ансамбль "Заранка" днямі вярнуўся з Екацерынбургу, дзе прымаў удзел у VII Міжнародным фестывалі дзіцячай музычнай творчасці "Зямля — наш агульны дом". Кіраўнік ансамбля Наталля Чарнюк распавяла журналістам, што яе прыемна здзівілі чулыя адносіны мясцовых уладаў да дзіцячай творчасці. "Заранка" атрымала запрашэнне выступіць у расійскіх гарадах у 2000 годзе.

### Вось дык Пушкін...

У Оршы прайшла тэматычная выстава Алеся Пушкіна, прысвечаная жанчыне. Нягледзячы на тое, што прыватную галерэю Пушкіна ў Віцебску закрылі, мастак плённа працуе над хрысціянскай тэматыкай. Займаўся рэстаўрацыяй Магілёўскага кафедральнага сабора, распісваў царкву Святога Мікалая на радзіме (у вёсцы Бобр Мінскай вобласці). Апошнім часам Алесь удзельнічае ў выставах, якія ладзяцца ў Мінску, Санкт-Пецярбургу, Маскве, Лейпцыгу.

**Святлана ГУК**

## БРЭСТ...

### Улады — з насцярогаю, чытачы — з захапленнем

Менавіта гэтак прымалі ў Брэсце пісьменніцкі "дэсант" з Мінска, накіраваны Таварыствам беларускай мовы імя Скарыны. Графік літаратурных выступленняў, прапанаваны гарвыканкаму, некалькі разоў перагледжваўся і ўдакладняўся. Пераправяраліся кніжкі, выстаўленыя на продаж. Затое з радасцю віталі гасцей — У. Арлова, Л. Баршчэўскага, А. Вольскага, А. Разанава, В. Сёмуху, М. Скоблу — у дзяржуніверсітэце і політэхнічным інстытуце, у школах, гімназіях, ліцэях. Вялікая вечарына адбылася 7 красавіка ў абласной бібліятэцы імя Горкага. Пісьменнікі знаёмілі берасцейцаў са сваёй творчасцю, закраналі праблемы сучаснага літаратурнага працэсу, адказвалі на пытанні. Узамен атрымалі ветлыя ўсмешкі, кветкі.

У Брэсце мінскія літаратары прабылі два дні. Па дарозе дадому завіталі ў Белаазёрск, дзе наладзілі некалькі сустрэч з чытачамі разам з Нінаю Мацяш. А ў памяшканні абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў не пераставаў звінець тэлефон: чытачы з іншых гарадоў вобласці прасілі арганізаваць падобныя сустрэчы і ў іх...

### Подых мінуўшчыны

Кожны куток Бацькаўшчыны багаты на гістарычныя імёны і падзеі — сцвярджае сваімі даследаваннямі вядучы спецыяліст па ахове гістарычна-культурнай спадчыны абласнога ўпраўлення культуры, старшыня грамадскага фонду Т. Касцюшкі, кандыдат гістарычных навук Леанід Несцярчук. Нядаўна ў Брэсце выйшла яго чарговая кніга "Гарадзечна. Матэрыяльная і духоўная спадчына", прысвечаная асаблівасцям гэтай і навакольных вёсак Пружанскага раёна — радзімы аўтара. У нарысе цікава падаецца храналогія падзей мінуўшчыны, засяроджваецца ўвага на найбольш яркіх з іх — паўстаннях 1794 і 1863-64 гг., Гарадзечніцкай бітве 1812 года (дарэчы, Несцярчук унёс вялікі ўклад у аднаўленне храма і капліцы на месцы гэтай бітвы), лёсах вяскоўцаў. Асобны раздзел кнігі прысвечаны знакамітым людзям, так ці інакш звязаным з гэтым краем, — Т. Касцюшку, П. Баграціёну, Р. Шырму і іншым.

**Сымон АКСЕНІН**

### Выязная выстава

Дом рамёстваў адкрыўся ў Ганцавічах з лёгкай рукі загадчыцы раённага аддзела культуры І. Марцінкевіч. Дырэктарам стала Марыя Муха, сама выдатная вышывальшчыца. Тут вучаць дзяўчаток вышываць, працуюць па аднаўленні традыцыйнага арнаменту ручнікоў. У далейшым, калі знойдуцца сродкі, плануецца адкрыць гурткі ткацтва, разьбы па дрэве, ганчарства, а ў вёсцы Хатынічы — філіял па ткацтве традыцыйнага строю і паясоў.

За гэты час адбылося некалькі персанальных выстаў майстроў народнай творчасці раёна: Фені Крысюк (ткацтва і вышыўка), Міхаіла Міхлюка (лазапляценне), Вольгі Зазяркоўскай (дэкаратыўнае пано з бяросты), Надзеі Панінай (ткацтва і вышыўка) і іншых.

У рамках І-га Нацыянальнага фестывалю "Беларусь — мая песня" арганізавана агульная вялікая выстава майстроў.

**Святлана КАРЖУК**

# Авацыі і праблемы

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

бо залы былі паўнюткія, і пасля кожнага выступлення — авацыі, авацыі ў гонар нашай культуры... Што можа быць лепшай узнагародай?

**— У вашым нядаўнім філарманічным канцэрце выконваліся новыя бліскучыя сімфанічныя творы беларускіх кампазітараў Уладзіміра Дарохіна і Дзмітрыя Смольскага, а таксама выключна складаны і маштабны твор — сцэнічная кантата для сапрана, хору і сімфанічнага аркестра італьянскага кампазітара Леанарда Гамберыні, напісаная паводле вядомага "Дзённіка Ганны Франк". Выкананне паказала вялікія патэнцыяльныя мажлівасці аркестра.. Няўжо вы працуеце без складанасцяў?**

— Што датычыць бліскучых твораў беларускіх кампазітараў, дык іх, як разумееце, шмат. Бліскучы твор — Трэцяя сімфонія Елісеенкава, бліскучыя творы ёсць у Цесакова, Ермачэнкава... Гэтымі днямі, ды прыкладу, запісвалі выключна арыгінальны твор ці не ва ўсёй сімфанічнай музыцы — Трэцюю сімфонію Вячаслава Кузняцова. Па форме гэта сімфанічны канон — канон па гарманічнай вертыкалі і меладычнай гарызанталі. Спецыялісты зразумеюць: па вертыкалі канон утвараецца гарманічнымі аркестравымі слупамі, якія накладаюцца паступова адно на адна́го, а па гарызанталі — кожная аркестравая група грае рознай метра-рытмікай! І ўсё гучыць адначасова, ствараючы сімфонію сучаснага напружанага і супярэчлівага жыцця.

А што да складанасцяў, дык дзе і ў каго іх няма? Адна з праблем — абнаўленне інструментарыя. Бо нашы інструменты даўно адслужылі належны тэрмін — яны пенсіянеры і нават калекі... Дзякуючы прафесійнаму майстэрству і ўлюбёнасці ў музыку і ў свой аркестр, а значыць — дзякуючы патрыятызму выканаўцаў, мы яшчэ на нешта здатныя. Але ж ёсць мяжа дазволенага і магчымага... Каштуюць жа інструменты, калі закрануць толькі духавыя: труба — 12 000, габой — 8 000, фагот — 7 000, флейта — 2 000. Гэта ўсё ў доларах! І памножым на некалькі разоў, бо ў аркестры ж не па адным такім інструменце, ды прыплюсуем сюды струнныя, ударныя... У аркестры ж 100 чалавек!

**— Зразумела, у вашага калектыву, акрамя творчых задач, існуюць праблема нізкай зарплаты, праблема правядзення гастроляў, праблема сучаснага тэхнічнага абсталявання студыі запісу і г. д. Тым не менш ваш "музычны карабель" насуперак цяжкасцям плыве наперад. І за гэта вам, Анатоль Максімавіч, як таленавітаму капітану, вялікі дзякуй. Далейшых поспехаў і вырашэння ўсіх праблем!**

**Леанід КАЧАНКА**

## Шукальнік шчасця

**7 красавіка ў Саюзе кінематаграфістаў адбылася вечарына, прысвечаная 100-годдзю з дня нараджэння беларускага драматурга, сцэнарыста Рыгора Кобеца. Цяпер гэта імя згадваюць не часта. Але ў 30-я гады Р. Кобеца ведалі як аўтара славутай п'есы "Гута" (спектакль "Гута" ў пастаноўцы Нацыянальнага тэатра імя Я. Купалы атрымаў прыз на Усесаюзнай алімпіядзе нацыянальных тэатраў). Па сцэнарыях Р. Кобеца пастаўлены фільмы "Двойчы народжаны" (Э. Аршанскі), "Шукальнікі шчасця" (У. Корш-Саблін). Р. Кобец быў першы, хто ўзначаліў сцэнарны аддзел на ленінградскай кінастудыі "Савецкая Беларусь". Разам з рэжысёрам У. Корш-Сабліным ён распачаў эру гукавога кіно на Беларусі. У 1938 годзе Р. Кобец быў рэпрэсіраваны. Фільм "Шукальнікі шчасця" забаранілі аж да 60-х гадоў, калі прыйшла доўгачаканая рэабілітацыя.**

**Падчас вечарыны ўспамінамі дзяліліся дачка Р. Кобеца, пісьменніца А. Кобец-Філімонава, мастацтвазнаўца Т. Лявонава, кінакрытык Е. Бондарава, тэатразнаўца А. Сабалеўскі. Пад заслону глядзелі фільм "Шукальнікі шчасця", пра які ў свой час казаў А. Даўжэнка: "Не было б такога сцэнарыя, не было б і фільма".**

**В. Б.**

## Гэта хвалюе кожнага...

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, каля стэндаў рэспубліканскай выставы "Беларуская кніга-97" адбылася прэзентацыя кнігі вядомага пісьменніка Леаніда Левановіча "Вяртанне ў радыяцыю", якая выйшла ў выдавецтве "Юнацтва". Выданне ажыццёўлена пры фундатарскім удзеле Міністэрства па надзвычайных сітуацыях і ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС, а таксама Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя.**

**Вёў прэзентацыю кнігі, а таксама сказаў уступнае слова галоўны рэдактар "Юнацтва", вядомы пісьменнік Міхась Пазнякоў. З аглядам кнігі, якую склалі апавяданні, нарысы і аповесць "Узяць пад варту ў зале суда" выступіла старшы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры АН Беларусі, кандыдат філалагічных навук Вольга Козіч. Цёплае настаўніцкае слова пра Л. Левановіча і яго творчасць сказаў народны пісьменнік Беларусі Іван Шамякін. Аб сваім хвалюючым прачытанні кнігі "Вяртанне ў радыяцыю", у якой згадваецца яго вёска, расказаў зямляк пісьменніка, вядомы паэт Алесь Пісьмянкоў. Сардэчна віншавала аўтара намеснік старшыні Беларускага таварыства дружбы з замежнымі краінамі Ніна Іванова. У заключэнне Леанід Левановіч расказаў аб тым, як стваралася гэта кніга, падзяліўся творчымі планамі, адказаў на пытанні прысутных.**

**Міхась БЫХАВЕЦ**

## Люстэрка музычнай гісторыі

**З 8 па 10 красавіка ў Беларускай акадэміі музыкі праходзяць VII Навуковыя чытанні памяці Л. Мухарынскай (1906—1987), выдатнага навукоўца і педагога. Як вядома, дзякуючы яе дзейнасці ў межах колішняй кансерваторыі (цяпер — акадэмія музыкі) распачаліся этнамузыкалагічныя даследаванні, арыентаваныя на беларускую народную музычную культуру. Цэлы шэраг даследчыкаў, вучняў, выхаваных Л. Мухарынскай, працягваюць яе справу і рэгулярна паведамляюць вынікі сваёй дзейнасці на мемарыяльных навуковых чытаннях, якія арганізоўвае кафедрай беларускай музыкі з 1991 г. Іх сёлетняя назва — "Музычная культура Беларусі: пошукі і знаходкі" — адлюстроўвае багацце з'яў беларускай культуры, у тым ліку і адкрытых нядаўна, пошукі новых поглядаў на ўжо вядомыя рэчы — на музычны фальклор і прафесійную творчасць Беларусі XVIII—XX стст. Праца ладзіцца ў дзвюх секцыях: этнамузыкалогіі і гісторыі музыкі.**

**Сярод удзельнікаў чытанняў замоўлены знаныя даследчыкі і педагогі Беларускай акадэміі музыкі (Т. Якіменка, І. Назіна, В. Дадзіёмава, Н. Сцяпанская, Р. Аладава ды інш.), Брэсцкага музычнага каледжа імя Р. Шырмы, Беларускага універсітэта культуры (В. Трамбіцкая, Н. Яканюк), аспіранты, студэнты, навучэнцы Мінскага музычнага вучылішча. Прадстаўленыя імі матэрыялы зацікавяць не толькі спецыялістаў, але і ўсіх, хто захапляецца музычнай культурай Беларусі.**

**Вольга ЯНКОЎСКАЯ, студэнтка БАМ**

АРХІВАРЫУС

# Колькі гета было ў Мінску?

Сёлета ва ўсім свеце будуць адзначаць 53-ю гадавіну Перамогі над германскім фашызмам. Гэтая перамога была дасягнута дарагой цаной. Загінуў кожны трэці жыхар Беларусі. Але, на вялікі жаль, да цяперашняга часу ў даследаванні нацысцкай палітыкі генацыду на беларускай зямлі ў 1941—1944 гадах яшчэ нямала "белых плям".

Адна з гэтых "белых плям" — колькасць гета на тэрыторыі Беларусі ў час Вялікай Айчыннай вайны. У другую сусветную вайну гета былі адроджаны ва Усходняй Еўропе нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў якасці лагераў смерці, канцлагераў для ізаляцыі, а потым і масавага знішчэння яўрэйскага насельніцтва. У гады вайны ахвярамі нацыстаў і іх пасобнікаў на беларускай зямлі стала больш за 800 тысяч яўрэяў, у тым ліку грамадзян Германіі, Аўстрыі, Чэхаславакіі, Польшчы, Францыі, Галандыі, Венгрыі.

У 1941—1944-х гадах, па няпоўных звестках, на тэрыторыі 172 населеных пунктаў Беларусі (у сучасных межах) знаходзілася 184 гета.

Да нядаўняга часу лічылася, што самым буйным на беларускай зямлі было Мінскае гета, у якім налічвалася каля 100 тысяч вязняў. Прычым, мелася на ўвазе, што ў Мінску было адно гета.

Даследаванні, праведзеныя ў апошнія гады, даюць падставы для вываду аб існаванні ў Мінску яшчэ аднаго гета. Нядаўнія пошукі завяршыліся знаходкай новага архіўнага дакумента аб існаванні ў сталіцы Беларусі яшчэ аднаго, дакладней, трэцяга гета.

Дык колькі ж гета знаходзілася ў Мінску ў гады Вялікай Айчыннай вайны?

Паспрабуем адказаць на гэта пытанне на падставе розных крыніц, прычым у першую чаргу шляхам аналізу архіўных і музейных дакументаў.

Нямецкія войскі ахапілі Мінск 28 чэрвеня 1941 года, а роўна праз тры тыдні — 19 ліпеня палявы камендант горада выдаў распараджэнне аб стварэнні гета ў горадзе Мінску. У ім гаварылася:

"1. З моманту выдання дадзенага распараджэння ў Мінску ствараецца яўрэйскі раён, дзе будуць пражываць выключна яўрэі.

...4. Адведзены для жыхарства раён абмежаваны наступнымі вуліцамі: Калгасны зав., Калгасная вул., якая праходзіць уздоўж ракі. Нямігская вул., выключаючы праваслаўную царкву, Рэспубліканская вул., Шорная вул., Калектарная вул., Мебельны зав., Перакопская вул., Нізавая вул., сцяна яўрэйскіх могілак, Абутковая вул., 2-і зав. Апанскага, Заслаўская вул. аж да вугла Калгаснага зав.

5. Пасля завяршэння працэсу перасялення ўвесь квартал, адведзены для жыхарства яўрэям, падлягае ізаляцыі ад астатняй часткі горада шляхам узвядзення сцяны з сухой кладкі. Будаванне гэтых сцэнаў ажыццяўляецца самімі жыхарамі яўрэйскага жылога квартала з прымяненнем каменю і цэглы разбураных будынкаў" (Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей — НА РБ). Фонд фашысцкіх друкаваных выданняў. Папка 3. АРК. 45. Пер. з ням.).

У 1991-м годзе аўтару гэтых радкоў стала вядома аб існаванні ў Мінску другога гета. Яно размяшчалася на тэрыторыі радыёзавода імя Молатава (тэрыторыя сучаснага завода імя Леніна). Даследчыкі называюць яго "малым гета". Як і "вялікае гета", яно існавала з лета 1941 года. Там знаходзіліся ў асноўным былыя работнікі радыёзавода з сем'ямі (яны пераехалі ў Мінск з Вільні пасля верасня 1939 года).

Мне ўдалося сустрэцца з былымі вязнямі "малога гета" Іосіфам Аўсеевічам Грайферам і Таццянай Самойлаўнай Гільдзінер.

І. А. Грайфер успамінае: "Калі немцы акупіравалі Мінск, наша вуліца патрапіла ў зону гета. Так з першага дня існавання гета я стаў яго вязнем. 12 ліпеня 1941 года мне споўнілася 15 год. Я быў дастаткова рослым хлопчыкам і мяне ўключылі ў рабочую каманду.

...З 1942 да лета 1943 года мяне вадзілі на работу на Мінскую ТЭЦ-І, дзе я вывозіў ваганеткі з попелам.

...Летам 1943 года, вечарам, калі наша калона вярнулася ў гета, ля варотаў стаяла група немцаў. Яны загадалі выйсці некальким чалавекам — мне, Зяме Кушнеру, Фіме Князеву і яшчэ некаторым. Нам сказалі: "Заўтра з раніцы трэба прыйсці да месца фарміравання калон, дзе вас сустрэне зондэрфюрэр СС".

Назаўтра нас павялі на работу на радыёзавод (завод імя Молатава). Гэта было "малое гета", якое існавала на заводзе з 1941 года. Мы выконвалі падсобныя работы. Я дапамагаў муляру Іосіфу Глазу...

Тут таксама былі здзекі, збіццё, некалькі чалавек былі расстраляны публічна. Шульмана з жонкай расстралялі толькі за тое, што яны выйшлі з барака без лат. Сістэматычна на заводзе праводзілася так званая селекцыя, гэта значыць людзей адпраўлялі ў канцлагер на вуліцу Шырокую для знішчэння. Разам з намі працавалі нямецкія і чэшскія яўрэі. Нам было забаронена свабоднае перамяшчэнне, а раніцай і вечарам праводзілася праверка.

На заводзе нас зарэгістравалі і выдалі пасведчанні, дзе ўказваліся прозвішча і імя, а імя па бацьку ва ўсіх адно — Ізраіль. На пасведчанні яшчэ быў зроблены адбітак пальцаў.

Прыкладна за паўтара месяца да ліквідацыі гета на Юбілейнай плошчы нас не павезлі туды, а прывялі ў верхні інтэрнат радыёзавода і паказалі койкі, дзе нам начаваць. Пасля гэтага нас перасталі вадзіць у "вялікае гета".

Як я потым даведаўся, на тэрыторыі завода, акрамя нямецкай радыётэхнічнай воінскай часці, знаходзіўся філіял фірмы "Тэлефункен" на чале з гаўптманам Цізам. Прычынай арганізацыі гета на заводзе быў, хутчэй за ўсё, філіял "Тэлефункена", таму што былыя работнікі радыёзавода раней рабілі радыёпрыёмнікі.

Нас было больш сотні чалавек, але колькасць вязняў увесь час памяншалася. Мы знаходзіліся ў заводскім гета да канца чэрвеня 1944 года. Потым завод пачалі эвакуіраваць. Нас прымусілі грузіць на машыну маёмасць. На адной з апошніх машын нас павезлі да станцыі Масюкоўшчына, дзе загналі ў вагоны. Гэта было 30 чэрвеня 1944 года.

У гэты час наляцелі савецкія самалёты і пачалі бамбіць цягнік і пуці. Пачалася паніка. Мы скарысталіся гэтым і збеглі ў поле, дзе ў густой пшаніцы праседзелі двое сутак. Нас было каля 25 чалавек. На трэція суткі мы сустрэлі чырвонаармейцаў. З імі мы ўвайшлі ў Мінск. Было 3 ліпеня 1944 года. Астатніх вязняў "малога гета" адвезлі ў Германію, дзе большасць іх загінула ў канцлагеры.

Сярод вязняў "малога гета" на радыёзаводзе была Таццяна Самойлаўна Гільдзінер. Ёй не ўдалося збегчы ў час бамбёжкі на Масюкоўшчыне. У гутарцы Т. С. Гільдзінер нагадала: "Нас засталося 40-42 чалавекі. Хутка мы апынуліся ў турме польскага горада Піїне. Там мы знаходзіліся да канца кастрычніка 1944 года. Затым нас павезлі ў Германію, у канцлагер Берген-Бельзен. Гэта быў лагер знішчэння. Тут працаваў крэматорый. Мне цудам удалося дажыць да 16 красавіка 1945 года, калі нас вызвалілі англійскія войскі. 25 жніўня 1945 года я вярнулася дамоў".

У Нацыянальным архіве Рэспублікі Беларусь захоўваецца вельмі цікавы дакумент. Гэта данясенне савецкага разведчыка (подпіс неразборлівы), які дзейнічаў у Смалявіцкім раёне. Дакумент датуецца 13 жніўня 1943 года. У ім ёсць такія радкі:

"У горадзе (гаворка ідзе пра Мінск. — **Э.І.**) на аэрадроме Малая Сляпянка было раней гета для яўрэяў з Францыі, Германіі і БССР. Прывозілі эшалонамі і там замучвалі. За гэты час знішчана да 50 000 чалавек... Вельмі шмат прывезлі з Заходняй (Еўропы (?) — **Э. І.**), потым знаходзяцца з р.р. Плешчаніцы і Лагойска. На работу ганяюць пад вінтоўкай усіх старых і малых. З 7 год знаходзяцца ў бараках як скот загнаны. Кормяць 1/2 літра ў суткі баланды і 200 гр. хлеба. Наогул вельмі жудасна..."

Гэтае данясенне савецкага разведчыка дае поўную падставу лічыць, што ў Мінску, акрамя "вялікага гета" ў раёне Юбілейнай плошчы і "малога гета" ў раёне завода імя Молатава сучаснага завода імя Леніна, існавала яшчэ і трэцяе гета ў раёне Малая Сляпянка. Гэта новы факт для даследчыкаў Халакоста беларускага яўрэйства і для даследчыкаў гісторыі Беларусі перыяда 1941—1945-х гадоў.

Данясенне савецкага разведчыка аб існаванні даволі вялікага гета ў Мінску ў раёне аэрадрома Малая Сляпянка можа садзейнічаць больш аб'ектыўнаму, поўнаму і праўдзіваму даследаванню нацысцкай палітыкі генацыду на беларускай зямлі ў грозныя гады мінуўшай вайны.

**Эмануіл ІОФЕ,**
**доктар гістарычных навук**

ПОШТА

# Абсурд у кубе

Хачу зноў выказаць свае меркаванні наконт назваў суб'ектаў гаспадарання ў нашай рэспубліцы. Вельмі ж шмат тут наноснага, аджыўшага, а то і бяздумнага.

Возьмем адно імя, якім названы шэсць аб'ектаў у Мінску. Гэта Крупская Н. К. — удзельніца рэвалюцыйнага руху, савецкі, дзяржаўны і партыйны дзеяч, доктар педагагічных навук, ганаровы член АН СССР, жонка У. І. Леніна. Гэтым імем названа бібліятэка, школа N 18 (1939 г.), вуліца (1977 г.). Аказваецца, і гэтага было мала. Імя, скажам так, доктара педагагічных навук было нададзена яшчэ і трэм (!) фабрыкам — птушкафабрыцы, швейнай і шчацінна-шчотачнай!

Перада мной "Тэлефонны бізнес-каталог Мінск і Мінская вобласць-96—97 гг.". На старонках 116—123 пералічаны калгасы і саўгасы вобласці. Зрабіў некаторы аналіз назваў гэтых сельскагаспадарчых аб'ектаў (прадпрыемстваў). Вядома, што калектывізацыя ва ўсходніх раёнах пачалася ў канцы дваццатых гадоў, а ў заходніх — у 1939-40 гадах. Дык вось. Імем Леніна названа адзінаццаць калгасаў і болей за 10 — вытворным ад гэтага імя: па тры — Ульянава, "Памяць Леніна", "Ленінскі шлях" і "Шлях Леніна". Ёсць яшчэ калгасы: "Памяць Ільіча", "Шлях Ільіча", імя Ільіча, "Ленінец", "Ленінскія дні"...

Дзесяць калгасаў маюць назву "І Мая", дзевяць — "Беларусь", па восем — "Бальшавік", "Кірава", "Праўда", сем — "Рассвет". Шэсць калгасаў носяць імя фельдмаршала расійскай арміі 19-га стагоддзя Суворава (буйнога памешчыка) і адзін калгас — імя Кутузава (таксама царскага фельдмаршала і памешчыка). Па пяць калгасаў носяць назвы "Дружба", імя Дзяржынскага, імя Калініна і "Радзіма". Дарэчы, чамусьці абсалютная большасць назваў гэтых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў пададзены ў рускамоўнай форме.

Сем калгасаў сталічнай вобласці ахрышчаны "Победой", але ёсць і адзін "Перамога" (Старадарожскі раён): па чатыры — "Красным Октябрем" і "Новой жизнью", па адным — "Чырвоным Кастрычнікам" і "Новым жыццём". А ў Пухавіцкім раёне ёсць калгас (і шыльда на памяшканні праўлення аб гэтым значыць) "Боротьба". Ну няўжо гэтага абсурду не заўважаюць мясцовыя людзі, скажам — настаўнікі?!

Ёсць калгас "Борец" у Вілейскім раёне і "Барацьбіт" — у Старадарожскім.

Шмат і іншых назваў-дублёраў. Большасць іх названы ў гонар "славутых" бальшавікоў, пісьменнікаў, герояў вайны. Тры калгасы носяць імя К. Маркса (з іх у аднаго калгаса цэнтральная сядзіба — вёска Леніна Слуцкага раёна), два калгасы — імя Ф. Энгельса.

Шэраг калгасаў названы ў гонар вучоных-аграрнікаў — чатыры імя Мічурына і два — імя Ціміразева.

З кіраўнікоў рэспублікі адзін калгас названы імем Машэрава.

І толькі недзе пятая частка калгасаў і саўгасаў носяць назву вёскі — цэнтральнай сядзібы гаспадаркі. А між тым, гэта найбольш і слушна, і зручна. З аднаго боку — "малы" патрыятызм для мясцовых людзей, з другога — арыенціроўка "ў прасторы" для іншых.

Калі ж мы пазбавімся ад гэтай таталітарнай спадчыны на карце нашай краіны? Пэўна, разам з адыходам у нябыт самой калгасна-саўгаснай сістэмы.

**А. АНЦІПОВІЧ**

# Крыж ля весніц...

МУЗЕЯЎ пад адкрытым небам у Еўропе процьма. Драўлянае дойлідства продкаў, іх немудроныя прылады працы, прадметы побыту чымсьці прыцягваюць-магнетызуюць урбанізаванага і зацюканага стрэсамі абывацеля. Чым? Першародствам, чысцінёй, набліжанасцю да жыццёвае ісціны, да маці-зямлі, якая і сама не схлусіць і сынам сваім няшчырасці не даруе? Мабыць... Вырві любога гараджаніна з мітуслівага натоўпу, падалей ад чэргаў, метро і палітычных боек на плошчах, прымусь прыслухацца да крыкаў груганняў над вясковымі кладамі, да "акадэмічнага вакалізу" хутарскага пеўня на золку. Глядзіш, штосьці ды й схамянецца ў ягонай душы, падштурхне задумацца, што на зямлі гэтай мы толькі госці ды не вельмі старанныя вучні. А ў непісьменнага продка, далёкага ад рафінаванага эстэцтва, з розумам у мазалях, усё без падману. У любым кроку — сэнс. Ад сахі. Практычны, жыццёвы. Буслянка на дрэве побач з ганкам — каб дзеці былі і шчасце вялося. Дзверы нізкія — каб хаціна ўзімку не выстуджвалася і госць каб галаву заўжды нахіляў (жытло тут, людзі — да іх без павагі толькі чужынцу лезці). Крыж ля весніц (дубовы, на стагоддзі) — каб тутэйшыя і суседзі з веку ў век і дзецям сваім згадвалі: Бог жыве на Беларусі, і ў гэтай вёсцы ён не госць, схіліся, сюды заходзячы, падумай, ці дабро за душой нясеш... Мудры продак, чаму спадкаемцы твае заблукалі ў пошуках "новае" зямлі? У чужое шчасце мухай не наліпнеш. Сваё трэба дабудоўваць. З буслянкай, дзвярыма нізкімі і крыжом ля весніц. І каб сонейка заўжды ў акенца... Дзе вы, сучасныя дойліды?

А музей такі, дзякуй Богу, ёсць цяпер і ў нас...

У аўтобусе на Азярцо хтосьці са старых пакпіў-пажартаваў: "За некалькі кіламетраў ад Мінска новая Беларусь узводзіцца. Так бы мовіць, у чарнавым варыянце, з аглядкай на мінулае". Падумалася знянацку: тое, што ствараецца вось ужо больш за дваццаць гадоў ля вёскі Строчыца, — нібыта сапраўды нейкі сумны адбітак нашай пакутнай радзімы. Старажытнай, надзвычай, на першы погляд, ад нас аддаленай, але — шчымліва роднай... На стопяцідзесяцігектарным пляцы, панайменаваным "Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту", час быццам прымусова спынены, заціснуты ў прыгаршчы рэчышчамі Пцічы і Менкі, нізінамі, узгоркамі, лугам. Сярод іх векавой спадчынай прыхіліліся там-сям хаткі з чаротавымі стрэхамі, гумны, ветракі, цэрквы. Не сімвалам старажытнай занядбанасці, заціснутай у рамкі ландшафтнага помніка, а шчырым сімвалам надзеі. У тое, што памяць — далёка не абстрактна-разумовае паняцце, і даецца чалавеку для таго, каб заставаўся той сапраўды чалавекам. Забудзешся на ўчора, не пабачыш заўтра. А сёння — толькі імгненне, своеасаблівае пераасэнсаванне свядомасці, матэрыялізаванае хаця б і ў тым крыжы ля музейных весніц...

Ці не пра гэта думаў Сяргей Сергачоў, калі ў 76-м рабіў першыя крокі, "засяляючы" маленькую музейную Беларусь? Паводле пастановы Саўміна тады яшчэ савецкай рэспублікі было вырашана ўрэшце стварыць Дзяржаўны музей драўлянага дойлідства і побыту, эфектыўную навукова-даследчую і культурна-асветніцкую ўстанову, якая б збірала, даследавала і экспанавала рэліквіі нашай старажытнай архітэктуры і побыту. Мара слынных беларускіх гісторыкаў, энтографаў ды мастакоў стварыць музей пад адкрытым небам (яшчэ з дваццатых гадоў) пачала станавіцца яваю. Ды і сорамна ўжо было з гэтым марудзіць: Беларусь сярод еўрапейскіх суседак у азначанай справе заставалася пакуль на апошнім месцы. Выпраўляць становішча ўзялася спецыяльна створаная рабочая група. І ў крыжы са святымі спадзяваннямі патрэбы покуль не было. Грашыма ў поўнай меры дапамагаў Машэраў. Падключыўся Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі. Адпаведныя спецыялісты ўзяліся за тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне праекта, за распрацоўку яго архітэктурна-планіровачнага рашэння. Першаму дырэктару свой архітэктурны дыплом абараняць прыйшлося двойчы. І другі раз — не перад інстытуцкай аўдыторыяй калег-архітэктараў, як раней, а на 150-гектарным лапіку побач з Менкай. Са згоды таго ж Машэрава. І невыпадковым было гэтае месца. Зусім побач амаль тысячу гадоў таму браў свой пачатак старажытны Менск. Ці прыгадаў бы хто больш здатны варыянт? Ды і сама прырода прапанавала, бадай што, самы маляўнічы куток Міншчыны. Таму і "прывязаўся" будучы музей надта ўжо арганічна да мясцовасці і па ландшафце, і па гістарычным прадвызначэнні.

Размахнуліся шырока: хацелася прадставіць у рамках музея ўсе этнаграфічныя рэгіёны Беларусі з найбольш характэрнымі архітэктурнымі забудовамі. Больш за дзесяць год збіраўся першасны матэрыял: узоры дойлідства, прадметы побыту, прылады працы, адзенне. У 87-ым адкрылася першая экспазіцыя, на якой музейшчыкі прадставілі сядзібную забудову пагоннай планіроўкі двароў, характэрную для старадаўняй цэнтральнай Беларусі. Кожная экспедыцыя за набыццём экспазіцыйнага матэрыялу, як успамінаюць супрацоўнікі, — была калі не подзвігам навукова-гаспадарчай разваротлівасці, то сапраўднай з'явай у творчым жыцці нованароджанай установы.

Уніяцкая трохзрубная царква з вёскі Логнавічы Клецкага раёна... Дзвесце гадоў ёй. Так бы і знікла, калі б не музейшчыкі. Натрапілі на яе ў 83-ім, калі да храмаў і вернікаў адносіны бязлітаснымі былі. Абразы разрабаваныя, у памяшканні — сховішча для гаспадарчых патрэб. Дамовіліся навукоўцы з уладамі. Разабралі зруб (кожнае бервяно пад нумарам, каб са зборкай праблем не было), транспарт нанялі. А бабулькі вясковыя, убачыўшы, што царкве другое жыццё наканавана, і абразы знайшлі ды вярнулі. Вось так царква гэтая і паўстала побач са Строчыцай. А за некалькі метраў ад яе неўзабаве і крыж-сімвал (з якога гаворка пачалася) узнялі. Як напамін, што месца гэтае — святое, асяродак старажытнай культуры, а таму толькі з павагай ды падтрымкай сюды. А далей па вулачцы — гумно, дзе жыта абмалочвалася, правейвалася і арфавалася. Як працяг музейнай забудовы — грамадскі свіран, царкоўнапрыходская школка, карчма, хаты з гародчыкамі. Зайдзі ў кожную: інтэр'ер з такой любоўю захаваны, што, здаецца, праз хвілю і гаспадар вернецца (даруйце, маўляў, да жывёлы выходзіў) і да стала госця жаданага запросіць... А ўсё названае разам — частка экспазіцыі пад назвай "Дойлідства і побыт цэнтральнай Беларусі". А яшчэ ў музеі-запаведніку плануюць давесці да ладу экспазіцыі з характэрнымі забудовамі Падняпроўя, Паазер'я, Панямоння, Заходняга і Усходняга Палесся. Збіраюцца аднаўляць беларускае мястэчка, прыстань з калекцыяй чоўнаў. Калі б усё добра, убачылі б гэта наведвальнікі ў поўным аб'ёме яшчэ летась. Але... Гэтае славутае "але" на дзесяцігоддзі асела ў кожным артыкуле, які так альбо інакш закранае нашу шматпакутную культуру. І ўвабрала гэтае кароценькае "але" і халодна недасканалую палітыку па адраджэнні беларушчыны, і заўжды дзіравую дзяржаўную кішэню, калі гаворка пра тэатр, музей, бібліятэку...



Вось ужо некалькі гадоў запар у музейшчыкаў толькі адна надзея на той крыж: абарані ад абыякавасці, вярні сумленне тым, хто пра сваё па-бацькоўску клапаціцца павінен, не дай загінуць душы беларускай. Пашырэнне фондаў і экспазіцый музея спынена з-за збяднелага фінансавання. Ды і як пашырацца, калі ў дырэкцыі адзін клопат: наскрэбці грошай супрацоўнікам на штомесячны заробак. Апошнім часам дабіраюцца яны сюды з Мінска за свой кошт у любую непагадзь. Памяшканне для дзяжурных навукоўцаў (экскурсію прыняць, "кіношнікаў", якія амаль штотыдзень на натуру наязджаюць) нагадвае бытоўку на жывёлагадоўчай ферме. Любая суседняя "нежылая" хатка-экспанат больш шыкоўная па ўбранні. А тут і вада прывазная, і электрычнасць раз-пораз "выбівае", і ацяплення людскага няма. На экспедыцыі ў музеі забыліся: захаваць бы тое, што ёсць. Але і яно гіне амаль няўмольна. Працякаюць у непагадзь саламяныя стрэхі. Лужыны на падлогах экспазіцыйных забудоў — не вялікае ўжо дзіва, а змаганне з цвіллю — клопат амаль штодзённы. Па ўсёй тэрыторыі (якая толькі сёлета дзякуючы энтузіязму супрацоўнікаў будзе канчаткова агароджана) тры пасты аховы, а тэлефон адзін. Пазалетась лазня згарэла — схамянуцца не паспелі...

Водзіць мяне па музейных падвор'ях Валянціна Якімовіч, тутэйшая супрацоўніца аддзела народнай творчасці, архітэктар і этнограф. Расказвае, што на кожным гародчыку бульба вырошчваецца — як жа інакш, бо ўсё тут павінна натуральным быць, жывым. Аддзел азелянення працуе: дрэўцамі займаецца, кветкамі. Севазварот на музейнай зямлі захоўваецца строгі. Плошчы, якія не пад папарам, жытам засяваюцца, лёнам. Трымаецца ўсё на знакамітым інтэлігенцкім энтузіязме, амаль ніяк пакуль не падмацаваным матэрыяльна. Месячны заробак навуковага супрацоўніка (а іх у музейным штаце 70) пасля ўсіх павышэнняў ніяк не перавышае і двух мільёнаў.

— Навукоўцамі нашымі сабраны багацейшы матэрыял, — працягвае сыпаць праблемамі Якімовіч. — Але дзе яго захоўваць на сёння? Запісаныя гаворкі, прыдбаныя іншым разам за свой кошт рэчы, асобныя з якіх датуюцца аж семнаццатым стагоддзем, здымкі і апісанні забудоў, абутак, світкі, кажухі — усё паступова прыйдзе ў непрыдатнасць, калі дзяржава тэрмінова не дапаможа. Была ў Варшаўскім этнаграфічным музеі, дык там адносіны зусім іншыя. Рэстаўратары з народнымі ўмельцамі супрацоўнічаюць, у кожнага экспаната — копія, усё захоўваецца надзейна. Ды і навукоўцы тамтэйшыя, як мы, па бібліятэках не бадзяюцца, у кожнага — рабочае месца...

Дзень быў, як і размовы нашы, пахмурны, не па-вясноваму няўдалы. Сыплецца з неба штосьці вільготна-брыдкае. Развезла глей на музейных сцежках. Праз імжу ўсё старажытнае — толькі сілуэтам-ценню. Ды яшчэ і адчайна-самотны сабачы брэх з боку Строчыцы. Самае падыходзячае для нечага непрадказальна-неверагоднага. Так і глядзі, што вынесе зараз на пагорак конь-агонь вершніка ў чорным плашчы. Вылеціць ластаўкай шабля з похваў, пакліча пад інсургенцкія штандары. Вынесла... Толькі не легендарнага ваяра, а дзядзьку строчыцкага. Крыху п'янаватага, а таму вясёлага, нягледзячы на пахмурны дзень. Праўду казалі, месца тут чарадзейнае. Дзень учарашні так сённяшнім пераплецены, што і не разабраць ужо нічога... Строчыца — частка музейнай экспазіцыі (забудова XIX стагоддзя), неад'емны фрагмент музейнага ландшафту. А значыць, і дзядзька напатканы, п'яны і вясёлы, — самы што ні ёсць "экспанат". А значыць, зноў-ткі, балючы сімвал нашай п'янай з-за роспачы і безнадзейнасці беларускай вёскі. Зрэшты, мо і не дзядзька строчыцкі, а быкаўскі Пятрок са "Знака бяды", паспытаўшы на апошняе гарэлкі, зноў завітаў на сваю Галгофу, каб вымаліць у дубовага крыжа хоць драбніцу шчасця... Усё змяшалася на гэтай зямлі. Адбурчэў вясёлы дзядзька, і зноў запанавала ціша, якая толькі ў музеях і бывае...

***Былое-святое, як дальнія зоры,***
***Вядзе ў таямніцы і ўдзень, і ўначы...***
***Музейная ціша, пра што ты гаворыш?***
***Музейная ціша, аб чым ты маўчыш?***

***Гаворыш званамі святыняў царкоўных,***
***Калі спавядаемся словам імшы,***
***Гаворыш пяшчотаю песень народных,***
***Калі разгуляецца свята ў душы.***

***Маўчыш ветракамі на ўзгорках пакатых,***
***Як перад адлётам у вырай буслы,***
***Маўчыш абразамі на покуце хаты,***
***Дзе белым абрусам засланы сталы.***

***Маўчыш ручнікамі з бабуліных куфраў,***
***Што сцелем з мінулага ў заўтрашні дзень,***
***Маўчыш і гаворыш папросту і мудра***
***Слядамі глыбокімі даўніх падзей...***

***Якім ты было, наша слаўнае ўчора?..***
***Скажы, пакажы, мудрым быць навучы!..***
***Музейная ціша, пра што ты гаворыш,***
***Музейная ціша, аб чым ты маўчыш?***

Меў, напэўна, рацыю Уладзімір Пецюкевіч, музейны супрацоўнік і паэт, калі пісаў гэтыя радкі. Сапраўды, душы нашай больш сказаць можа музейная ціша, чым воклічы пустых сцвярджэнняў, што жыццё на Беларусі з кожным днём усё лепш. Вучыцца трэба мудрасці ў продкаў. Сціскаць сківіцы і запіраць на замок душу, каб не згубіць светлае, не дапусціць злое. Маліцца на крыж і рабіць сабе свята самім...

Завітайце ў музей не ў дрэннае надвор'е. Цудоўна, калі зробіце гэта ў адно з нашых свят. Паверце, нічога сумнага і безнадзейнага не пабачыце. Усё кола народных гулянняў тут, як вянок з палявых красак замест кальцавой музейнай агароджы. І гуканне вясны, і Юр'е, і Купалле, і дажынкі з зажынкамі, і Каляды. Усё наваколле сюды збіраецца, сапраўднае свята душы наладжваецца. Самі супрацоўнікі бяруць у гэтым удзел, прафесійныя фальклорныя калектывы запрашаюць. "Дзянніцу", напрыклад, "Госціцу". Школьнікаў шмат, студэнтаў. Вясной ды летам па дзесятку "Ікарусаў" выстройваецца вакол. А, апрача заказных экскурсій, колькі яшчэ наведвальнікаў. Стыхійных, саматужных. Для якіх Строчыца і музей побач з ёй — не знак векавой бяды-прыніжэння, а сімвал з'яднання, адраджэння і вялікае надзеі ў заўтрашні светлы дзень...

І не быў бы расповед пра музей гэты поўным, калі б не гаворка з яго трэцім ужо дырэктарам Георгіем Ткацэвічам. Кіруе ён сваім музейным "фальваркам" са снежня 86-га, да гэтага дырэктарнічаў у Мікалаеўшчыне, у музеі Якуба Коласа.

— Георгій Андрэевіч, вы ў высокіх кабінетах не стукалі кулаком па начальніцкіх сталах у пошуках грошай?

— Не толькі кулаком. Іншым разам і дзвярыма. Але разумею, што не адзін наш музей на ўрэзаным фінансавым пайку. Калі грошай на заработную плату не хапае, цяжка думаць пра нейкую перспектыву. Захаваць бы ў людскім выглядзе тое, што назапашана. Хоць у Кракаве, скажам, аналагічнаму музею, як суседзям цяжка ні было, фінансаванне дзяржава ніколі не змяншала... Не, грошы Міністэрства культуры выдаткоўвае нам. Выдзелілі тры мільярды на ўзвядзенне пажарнага дэпо, два мільярды з пачатку года атрымалі на капітальны рамонт помнікаў. Але гэтага яўна недастаткова. На адну нашу царкву, каб захаваць яе ў патрэбным стане, бадай мільярд патрэбен. А што казаць пра тыя помнікі дойлідства, якія прывезены з экспедыцый і ляжаць у музейных сховішчах несабранымі з-за недахопу сродкаў? Гэта і мячэць беларускіх татар, і чыгуначная станцыя, і сядзібная хата. Усяго з дзесятак збудаванняў, якія невядома калі зоймуць месца ў экспазіцыі...

— Галаўнога болю хапае?

— І ворагу не пажадаеш. Як паветра, патрэбен нам сацыяльна-культурны цэнтр. Існуючая бытоўка для супрацоўнікаў — ганьба ўсім нашым намаганням. Немагчыма музею і без сучаснага фондасховішча з адкрытым паказам экспанатаў. Без рэстаўрацыйных майстэрань...

— Дарэчы, у якім стане на сёння сэрца музея — яго фонды?

— У самым хваравітым. Больш за 20 тысяч адзінак асноўнага фонду захавання (гэта сапраўдныя рэліквіі XVII—XIX стагоддзяў: прадметы побыту, старажытныя вырабы прыкладнога народнага мастацтва, нацыянальныя строі і г. д.) утрымліваюцца ва ўмовах страшэнных. Не тое што спецыяльнага, але і пастаяннага сховішча няма. Нават і падлічыць цяжка, колькі разоў нас выганялі, як

(Працяг на стар. 12)

ЛіМ ЧАСАПІС

## Кніга прозы... крытыка

**Таццяна Мушынская (дарэчы, у свой час працавала ў "ЛіМе") — тэатральны крытык. Выступае з артыкуламі не толькі ў беларускай перыёдыцы, але і ў польскіх, рускіх, украінскіх выданнях. У яе літаратурным запісе выйшла кніга ўспамінаў Г. Абуховіч "Полвека на сцэне". Т. Мушынская выдала кнігі "Гармония дуэта", "Гаркавы смак ісціны", кнігі-альбомы "Страсці" ("Рагнеда"), "Валянцін Елізар'еў", зборнік казак і апавяданняў для дзяцей "Віця Неслух у краіне мурашоў". І вось першая кніга "дарослай" прозы Т. Мушынскай, якая папоўніла "Бібліятэку часопіса "Маладосць" за снежань мінулага года. Змест зборніка "Доўгае развітанне" склала аднайменная "аповесць у маналогах і дыялогах" (паводле вызначэння аўтара) і апавяданне "Верачка". Прадмову да кнігі напісаў Генрых Далідовіч. Ён, у прыватнасці, зазначае: "Не буду таіцца, пачаў чытаць гэтыя творы з некаторым скептыцызмам, ставячыся да іх, як да прозы крытыкаў, якія, бывае, пішуць вельмі ж па літаратурных канонах. Але Таццяна Мушынская мяне, чытача, аўтара кнігі "Жанр кахання. Апавяданні пра жанчын" здзівіла, як, лічу, хораша здзівіць і іншых: па-першае, у яе прозе няма ніякіх стэрэатыпаў ці празмернай навукі, гэта — натуральная сучасная, гарадская проза, а па-другое, яна, аўтар-жанчына, сказала тое пра жанчыну (дачку, жонку, маці, спявачку, якая спазнала, што такое хадзіць па зямлі і лётаць у мастацкіх аблоках, што такое каханне і чалавечы эгаізм, а то і здрада), што нам, мужчынам, шмат чаго сказаць проста не па сіле..."**
**А завяршае Г. Далідовіч свае развагі так: "Аповесць "Доўгае развітанне", бясспрэчна, не толькі зацікавіць чытача, але і хораша дапоўніць пэўныя нюансы паказу сродкамі прозы жыцця, кахання сучаснай жанчыны і дзякуючы мастацтва, якіх, мы, здараецца, калі не зусім, дык мала разумеем... Не можа не крануць чулае сэрца і апавяданне "Верачка", у якім сфакусіравалася матчына радасць і боль..."**

## У Браслаўскім музеі



**У Браслаўскім музеі рамёстваў не толькі можна пазнаёміцца з гісторыяй рамёстваў краю, але і паназіраць за работай майстроў салома- і лазапляцення, керамікі, ткацтва. Адзін з майстроў Браслаўшчыны Уладзімір Канстанцінавіч Лук'янец за работай (на здымку).**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## "Маладосць", N 1

**Багата ў нумары паэзіі — творы юнай В. Куставай, Я. Квяткоўскай, М. Мятліцкага, Н. Гальпяровіча, М. Пазнякова. Наколькі жанр аповесці пры сваёй абмежаванай плошчы пад пяром таленавітага аўтара можа сказаць шмат, лёгка ўпэўніцца, калі пазнаёміцца з аповесцямі В. Кадзетавай "Ля трох пуцявін", А. Казлова "Перакуліся, перакуленае". І. Сяргейчыка "На "дарозе смерці". Прозу дапаўняюць апавяданні "Хутар" і "Першая ахвяра" С. Сяргея, "Грабавыя" С. Патаранскага. Змешчаны чарговыя раздзелы з кнігі М. Ермаловіча "Старажытная Беларусь", "Дыялогі з людзьмі ад зямлі" К. Ладуцькі, успаміны Р. Галавачэнкі "Азарычы — боль і гнеў беларускага Палесся", мастацкая аўтабіяграфія В. Ткачова "Мой рай зямны", нарыс А. Карлюкевіча "Пухавіцкі характар" (расповед пра літаратурную Пухаўшчыну), анатацыі на кнігі пад рубрыкай "Папытай у кнігарні".**

РЭЗАНАНС

ВЯДОМА Ж, штуршок да роздуму далі артыкулы, не выказаць думку наконт якіх у апошні месяц стала... ну, проста "моветонам". Але калі хто чакае агляду навамодных спроб спісаць усё і ўся ў архіў, ён памыляецца. Гаварыць трэба не пра інтэрпрэтацыі, якія прыходзяць і сыходзяць, а пра літаратуру. Якая — застаецца.

Каб разабрацца, у чым справа, чаму ўзнікае спакуса спісаць у архіў былыя пакаленні і чаму падобныя спробы перыядычна набываюць характар шумных кампаній (і кампаніі гэтыя, адзначым, мінаюць, не наносячы прыкметнай шкоды сапраўды вартым творам), паспрабуем акрэсліць механізм развіцця (эвалюцыі) літаратурных прынцыпаў і прыёмаў.

Тут магчымыя пярэчанні з боку патэнцыяльнага апанента: эвалюцыя... Не, прынцыпова яе прысутнасць у літаратуры пад сумненне не ставіцца, але адносна сучаснага вопыту... Маўляў, творы Горкага, Шолахава, Пруста, Камю сёння зусім не выглядаюць несучаснымі, яны — нібы ўчора напісаныя!

там даследавання тэорыі літаратуры прызнаецца аўтарская пазіцыя (пункт погляду, стаўленне да матэрыялу і г. д.), у літаратуру гэтая нібыта страчаная цяга да самаабнаўлення прынцыпаў пранікнення ў таямніцы Сусвету вяртаецца адразу ж.

Любая (падкрэслім — любая) аўтарская пазіцыя аказваецца вычарпальнай, бясконцасць мастацкага пазнання па сутнасці азначае бясконцасць змен гэтых самых вычарпальных пазіцый, кожная з якіх адкрывае новыя, недаступныя з папярэдніх "становішчаў назіральніка" грані і зрэзы жыцця. Пісаць лепш, чым Шэкспір нельга, калі заставацца на яго ацэначнай пазіцыі, — але можна паспрабаваць змяніць ракурс бачання рэчаіснасці. І як толькі нейкая з пазіцый аказваецца адпрацаванай да такой ступені, што кардынальнае паляпшэнне ўжо атрыманых вынікаў становіцца маламагчымым, пачынаецца пошук нечага новага...

Дадзеная змена ракурсаў і прадвызначае эвалюцыю літаратурных прынцыпаў, намацванне новых аўтарскіх пазіцый адразу вад? Не, быццам усё як мае быць: сыходзяцца не толькі тон артыкулаў, не толькі папулярнасць амаль аналагічных заклікаў, супадае нават дынаміка выспявання гэтага самага татальнага адмаўлення (у асноўных, тыпалагічных момантах): суцэльнаму "спісванню ў архіў" і ў адным і ў другім выпадках папярэднічае этап фармалістычных пошукаў, своеасаблівая фаза "перадрасчаравання"...

Звернем увагу: папулярнасць фармалістычных цячэнняў рэзка памяншаецца, як толькі літаратура вызначаецца з выбарам перспектыўнай аўтарскай пазіцыі: калі ёсць пра што гаварыць, пісьменніка менш хвалюе праблема — як, у якой форме выказвацца. Было "перадрасчараванне" на пачатку стагоддзя? І хіба не паўтарылася карціна (у іншых, безумоўна, праявах) у канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў? Выпадковае супадзенне?

Паспрабуем разабрацца — дзеля вызначэння, вядома, найперш тэндэнцый нашага, "сённяшняга" ўсплеску адмаўляльніцтва, якое праходзіць пад лозунгамі "адвяржэн-

# Цень ідэальнай піраміды

### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА І ЯЕ СУЧАСНЫЯ ІНТЭРПРЭТАЦЫІ

Так, пакуль структура бачання мастаком свету выкарыстоўваецца ў літаратуры практычна тая ж самая, што і дзесяцігоддзі назад, і гэта лёгка тлумачыцца: стагоддзе праходзіла пад знакам інтэнсіўнай распрацоўкі літаратурай магчымасцяў той літаратурнай мадэлі рэчаіснасці, выбудова якой завершана была якраз на пачатку XX ст. Калі ўлічыць, што фарміраванне мадэлі расцягнулася на стагоддзі (пры гэтым змены адбываліся паступова і насілі пераважна невыбуховы, паслядоўны характар), што ў выніку атрымана была ёмістая (багатая на патэнцыяльна даступныя зрэзы мастацкага асэнсавання) мадэль-схема, ужо не выглядае дзіўным той факт, што ў літаратуры (і ў літаратуразнаўстве) запанавала пачуццё трываласці і нязменнасці большасці канонаў, узнікла адчуванне стабільнасці, адсутнасці глыбінных эвалюцыйных зрухаў.

Але ж гэта не так! Эвалюцыя была (дастаткова прыгадаць розніцу норм паэтыкі Сярэднявечча і сучасных правілаў літаратурнай умоўнасці) — і раптам знікла? Не магла яна быць адменена маніфестамі і дэкларацыямі пачатку стагоддзя, любая, нават самая ёмістая мадэль — вычарпальная!

Вось толькі яшчэ — у літаратуразнаўстве адсутнічае метадалагічная прычына, якая б рабіла зрухі ў прынцыпах літаратурнага асэнсавання свету непазбежнымі, унутрана неабходнымі для развіцця самой літаратуры...

Аднак у выпадку, калі асноўным прадметам... становіцца цалкам заканамерным працэсам, у сувязі з чым элементы адмаўлення з боку наступных пакаленняў натуральныя, больш таго — непазбежныя. Кампаніі татальнага адмаўлення адзначаны ў гісторыі неаднойчы, у выпадку з нашымі "інтэрпрэтацыямі" сягаць далёка ў мінулае не даводзіцца — успомнім лозунгі маладых літаратараў 20-х гадоў...

І зноў ажывае патэнцыяльны апанент: а як з тым, што ў літаратуразнаўстве феномену адмаўлення творчасці папярэднікаў нададзены пераважна псіхалагічны падтэкст? У цэлым гэта так, вось толькі падобнае дапушчэнне ніяк не тлумачыць, чаму ў нейкія з момантаў перманентнае "баруканне са старымі" (а яно, псіхалагічнае, не спыняецца ніколі) набывае раптам характар суцэльнага адмаўлення, да скідвання з п'едэсталаў далучаюцца ў тым ліку сталыя і прызнаныя, адбываецца нешта не зусім падыходзячае пад вызначэнне "канфлікт пакаленняў"...

Збоку выглядае на тое, што на перманентную схільнасць да адмаўлення накладаецца, уваходзячы ў такія вось моманты ў рэзананс, нейкі падспудны літаратурны працэс (прычым "эвалюцыйнае адмаўленне" на гэты працэс вельмі нават цягне) — і менавіта рэзананснае павелічэнне скіраваных у адзін бок амплітуд выклікае эфект "усеагульнага адмаўлення". Аб'ектыўна выклікае!

Найперш праверым, ці невыпадковае падабенства падзей 20-х гадоў і дыскусіі сённяшняй прымусіла нас зрабіць падобны вы-

ня ідэалогіі" — не зважаючы на тое, што ідэалогія фактарам літаратуразнаўчым у чыстым сваім, "ідэалагічным" выглядзе не з'яўляецца. Ідэалогію тэорыя літаратуры можа і павінна разглядаць як адзін толькі з момантаў усё таго ж азначанага ў якасці асноўнага прадмета даследавання літаратуразнаўства стаўлення пісьменніка да матэрыялу, як зрухі той самай аўтарскай пазіцыі (у менавіта структурным яе разуменні). І адразу становіцца відавочна: у "Ружовым тумане" як мінімум спрасцілася бачанне праблемы, гіпертрафіраваная ўвага да ідэалагічнага знішчае комплекснасць падыходу і стварае небяспеку спісання на адзін толькі фактар уздзеянняў, выкліканых прысутнасцю ш э р а г у п р ы ч ы н, няхай нават блізкіх (літаратуразнаўчых) — але розначасных.

Азначаную аўтарамі дыскусійных артыкулаў праблему (а яна, безумоўна, існуе) літаратуразнаўца павінен бачыць інакш: магчыма, звыклая структура бачання мастаком сацрэалізму свету правакавала негатыўныя моманты развіцця беларускай літаратуры; несумненна, павінна адбыцца змяненне дадзенай структуры, прычынай чаго менавіта ў цяперашнім часе маглі стаць у тым ліку і зрухі ў ідэалагічнай атмасферы...

Хаця — наўрад ці ў першую чаргу яны. Калі б структура па-ранейшаму адкрывала арыгінальныя, недаследаваныя зрэзы жыцця, з ідэалагічных (чытай — кан'юнктурных) матываў адмаўляцца ад яе... Не, сапраўдны пісьменнік гэтага ніколі не зробіць!

Напачатку патрабуецца даказаць, што сучаснае "спісванне ў архіў", як і спробы 20-х гадоў, сапраўды значныя творы, напісаныя ў папярэднюю эпоху, не закране.

Крытэрыямі траплення ў гісторыю літаратуры (а па сутнасці — у літаратуру, жывую і запатрабаваную чытачом) выступаюць — калі мы пагаджаемся і з наяўнасцю эвалюцыйных працэсаў у літаратуры, і з тым, што ў аснову такіх працэсаў пакладзена змяненне аўтарскай пазіцыі — а) выкарыстанне аўтарам арыгінальнай ацэначнай пазіцыі, з якой адкрываюцца раней недасягальныя для мастацкага асэнсавання бакі рэчаіснасці і б) максімальна поўнае выкарыстанне тых магчымасцяў, якія дадзеная пазіцыя прадастаўляе.

Арыгінальнасць, адметнасць бачання свету мастаком сацрэалізму сумненняў не выклікае, яна відавочная (аб тэхналогіі пазней) як і першапачатковая навізна граняў жыцця, адкрытых для мастацкага даследавання творамі М. Горкага, Ф. Гладкова, М. Шолахава...

Так што жыццяздольнасць лепшых твораў сацрэалізму ніякіх сумненняў не выклікае, яны застануцца фактарам не толькі гісторыка-культуралагічным. І распачынальнікі дыскусіі выдатна гэта ўсведамляюць — у адваротным выпадку, узняўшы меч ідэалогіі, лагічна было б секчы не толькі беларускія галовы, але і замахнуцца на таго ж Шолахава альбо Гладкова.

Не, відавочна ж: структура дазваляла тварыць, пісаць рэчы на свой час наватарскія і безумоўна цікавыя, гэта несумненна.

Дык што — бура маладымі і не вельмі крытыкамі ўзнята дарэмна?

Зноў жа — калі ўлічыць сам рэзананс безагляднай спробы публіцыстычнага адмаўлення... Праблема існуе, артыкулы яе зачапілі, гэта адчувае практычна кожны. Аднак лакалізацыя балявых кропак — яна па-

Раман ТАРМОЛА-МІРСКІ

### Як быць, AVE MARIA?..

*У ружовым у тумане*
*Мы былі і ёсць і будзем*
*Для з натоўпам паяднання*
*Ці для ўлад каранавання*
*Пры жыцця чарговым цудзе.*

*Таямнічы гэты колер*
*Усяму жывому вабны...*
*Колькі раз ружовасць волі*
*Паламала нашу долю,*
*З ёй мы ўляпваліся ў вапну*

*І мазгі дзяржавы цэлай*
*Размякчаліся паўсюдна:*
*Чырвань бегала за белым,*
*А душа за бедным целам,*
*Хто жывы, той і падсудны.*

*Гэты морак філасофскі*
*Не прыйшоў ніколі знізу,*
*Ён не генаў адгалоскі —*
*Для цывільных, пэўна, войска,*
*Для душэўнага стрыптызу.*

*Эх, пачаць бы ўсё нанова*
*І пад знакам таго ж герба*
*Тыя спевы, тыя словы*
*І ружовасць туманову*
*Нам з гадоў былых адчэрпаць?*

*Не, падзяка нам не свеціць*
*З ачышчэннем сэрца, плоці,*
*Колькі нам не дубавеціць,*
*Як былых не адшкілеціць,*
*Прысмак горкі будзе ў роце...*

*Нам сягоння не да спрэчак*
*Хай і самых шчырых, палкіх,*
*Не да войнаў... Столькі свечак*
*У паглядах чалавечых —*
*Што ўжо чырканне запалкай...*

*Час над музамі цыганіць,*
*Кожны прагне кукарэкаць,*
*Ды з высокім нават званнем*
*Графаман награфаманіць*
*"Лепшасць дня"... але не веку.*

*Болей стала, а не меней*
*Сёння згубнага народу,*
*Як ад іх шукаць збавення:*
*Патрабуюць жа малення*
*На іх опусаў прыроду.*

*Што ж мы з гэтымі адродзім,*
*Слова як расшчэпім атам,*
*Пры якой такой свабодзе*
*Зможам з імі жыць у згодзе*
*Ды пад іхнім патранатам.*

*Да любой душы і крэсла*
*Гэта пошасць ход прарые*
*З імі душна, збрыдна, цесна,*
*Як жа быць нам, друг балесны —*
*Любая AVE MARIA?..*

*P.S. Славу часта з рук зняславы*
*Атрымоўваць, як муку...*
*На шляхах яе крывавых,*
*У каронавай аправе*
*Могуць быць і камні з бруку...*

куль дакладна не праведзена. Спрачацца ж пра аморфнае "нешта"...

Прыгледзімся ўважліва да структуры бачання мастаком свету, да структуры, якая стала агульнаўжывальнай, звыклай для творцы эпохі сацрэалізму, прааналізуем умовы яе выспявання. Пачаць давядзецца здалёк, ад таго самага Сярэднявечча, ад паэтыкі, для нас нязвыклай і архаічнай, у якой аўтару-апавядальніку — факт з падручнікаў, агульнавядомы! — адведзена месца "нявыдзеленага назіральніка".

Ад падобнага становішча, занятага ў аднамерным, аднаплоскасным свеце, аўтар, які паспрабуе перайсці да аперыравання двума (мінімум) пластамі матэрыялу і набыць плоць у літаратурным Сусвеце (а без гэтага — ускладнення і выпячвання аўтарскага "ego" — якая літаратура Новага часу?), гіпатэтычна павінен будзе прайсці шэраг этапных пазіцый — і пазіцыі гэтыя захаваныя, адзначаныя ў гісторыі літаратуры, яны лёгка яднаюцца паміж сабой адзінай логікай унутрана заканамернага развіцця, апавядальнік набывае паступова новыя якасці, пісьменнік атрымлівае новыя навыкі і прыёмы, мяняюцца нормы літаратурнай умоўнасці.

Пасля з'яўлення гістарычнага рамана (пачатак XIX стагоддзя) рэальнай становіцца магчымасць суіснавання ў рамках аднаго твора двух рознаарганізаваных і разведзеных у часе пластоў матэрыялу, прычым не адвяргаецца перспектыва вынясення аднаго з іх у будучае.

У выніку ўжо утапічны раман XIX ст. пераходзіць да прамога супастаўлення таго, што ёсць, з тым, што будзе (быць павінна), не маскіруючы саму верагоднасць такога супастаўлення падарожжамі на невядомыя астравы ці сустрэчамі з таямнічымі апавядальнікамі; такое супастаўленне ператвараецца ў адну з норм літаратурнай умоўнасці.

У рэшце рэшт выкрышталізоўваецца мадэль-схема бачання рэчаіснасці мастаком-"сацрэалістам", ці не асноўнай адметнасцю якой становіцца наяўнасць так званага "ідэальнага аўтара-апавядальніка", які размешчаны ў настолькі ж ідэальных прасторы і часе.

Гэта звыклая для нас норма літаратурнай умоўнасці — але яе не было яшчэ ў XIX стагоддзі, і запаўненне нашай ідэалізаванай кропкі ў хранатопе лёгка прасочваецца: снамі Веры Паўлаўны, утопіямі сацыялістаў XIX стагоддзя (не толькі літаратурнымі), намаганнямі першапачынальнікаў сацрэалізму ішло тварэнне таго абсалютнага Светлага, да якога калі-небудзь прыйдзе ўсё чалавецтва.

Тут бясспрэчна структурны элемент, па сутнасці адбылося кардынальнае ўскладненне хранатопу, бо з матэрыялам увесь час давялося з той пары працаваць у звязцы двум літаратарам — рэальнаму і таму, ідэальнаму, месцазнаходжанне і сутнасныя характарыстыкі якога сталі агульнапрынятымі.

Прычым чытач пры ўспрыманні, "дэшыфроўцы" твора аперыраваў (мог аперыраваць) аналагічным аўтарскаму веданнем дадзенага, непазбежнага і універсальнага будучага — таму ніякіх цяжкасцей, ніякіх намаганняў дэшыфроўка не патрабавала, яна наогул нібы не заўважалася.

Між тым менавіта падвоенае "веданне" дазволіла спрасціць работу пісьменніка па выяўленні светлых, абнадзейваючых бакоў чалавечай натуры, існаванне "абсалютна светлага фіналу" дапамагала акрэсліць нават ледзь прыкметныя парасткі новага, лепшага (вось яны — новыя магчымасці, вось ён, прарыў да раней цяжкадаступных граняў чалавечай натуры)... Менавіта таму нават самы змрочны збег адмоўнага знешняга не забівае таго зараду ўнутранага аптымізму, які заўсёды ўтрымлівае ў сабе твор сацыялістычнага рэалізму. Структурна ўтрымлівае — у гэтым адна з яго адметнасцяў, заўважаемая практычна кожным.

Пісьменнік мае права выкарыстоўваць любую пазіцыю, няхай нават яна спрашчае ў нечым яго работу — абы толькі свет адкрываўся ў новых, нязвыклых гранях і вымярэннях. Сацрэалізм такія грані, безумоўна, адкрываў, з гэтага пункту гледжання нападкі на творы савецкага перыяду апоры ўсё яшчэ не маюць, яны нібы беспадстаўныя, але...

Так, ёсць некалькі "але". І менавіта яны, гэтыя "але", рэалізаваўшыся, і прымусілі, відаць, палыхнуць ад паднесенай Дубаўцом запалкі тое, што тлела ўжо даўно.

Найперш адзначым ад самага пачатку закладзеную ў вызначаемую сёння як сацрэалістычную структуру бачання свету аб'ёмную абмежаванасць. Падвоенасць аўтара спрашчала не толькі работу пісьменніка — спрашчаўся і той свет, у якім даводзілася суіснаваць рэальнаму і ідэальнаму аўтару. Не, малюнак не скажаўся, разгортвалася літаратурнае дзеянне ў рэальных умовах (нездарма ж — рэалізм), але, дзякуючы таму, што нейкая частка хранатопу заканамерна павінна была перадавацца ідэалізаванаму апавядальніку, рэальны аўтар вымушаны быў: а) цягнуць героя да нейкага, вядомага кожнаму парога і б) адступацца ад персанажа, як толькі той выходзіў на шлях да "выздараўлення" (г. зн. перадаваўся ідэалізаванаму апавядальніку).

Усё, далей было нецікава: набыўшы станоўчасць, герой падпадаў пад уладу схемы. Сацрэалізм парадаксальным чынам станавіўся паўнакроўным толькі пры судакрананні з адмоўным — але ён жа вобласць гэтага неабходнага яму адмоўнага ўвесь час змяншаў, перамагаючы (акрэсліўшы раз рэцэпт выйсця з нейкай сітуацыі, пісьменнік фактычна закрываў тэму і для сябе і для паслядоўнікаў).

Дарэчы, дыскусіі пра слабасць станоўчага героя, адкрытасць канцовак, хадульнасць ідэальных вобразаў — непазбежныя спадарожнікі сацрэалізму, яны ўсе адсюль, гэтыя яго адметнасці, з самой структуры бачання мастаком свету (адзначым, што ў літаратуры папярэдніх стагоддзяў і станоўчыя вобразы даваліся працай (успомнім хаця б Раланда!), і адкрытасць канцовак не назаляла).

Дазволім сабе такое вось параўнанне: наяўнасць планкі пераходу да ідэальнага скарачала прастору для манеўра, пісьменнік фактычна займаўся будаўніцтвам пірамiды, завяршэнне якой мелася ўжо ў гатовым выглядзе. І пад гэты ідэальны конус увесь час даводзілася падводзіць варыянтныя аснаванні — нібы абнаўляючы прадметнае поле нейкай дыярамы.

Вядома, не ўсё тут так проста — але ў агульных, сутнасных рысах... Пагадзіцеся, прыкладна так усё і было! Прычым тыя, хто ішоў першымі, ніякіх ціскоў і напраўдзе не адчувалі!

Але ў выніку... Асэнсаванне кожнай з тэматычных ніш фактычна закрывалася адным або некалькімі ўдалымі яе выкарыстаннямі (прасторы ж для манеўру не хапае), і пісаць, напрыклад, пра гераічны прарыў таманцаў Шэлеста, пра выспяванне "рэвалюцыйнай дысцыпліны" з партызаншчыны пасля "Жалезнага патоку" Серафімовіча... Цяжка — не тое слова, фактычна немагчыма!

Яшчэ прыклад — пасля Шолахава падобную да ўзнятай у "Цаліне" праблему цяжка было да канца арыгінальна вырашаць нават Мележу, і на нейкім з этапаў ён адчуў, што пачынае збівацца на ўжо агучаныя рэцэпты, што адпачатку зусім непадобная на данскую станіцу палеская вёска (першыя старонкі — фактычна ніякіх паралеляў!) усё больш і больш пачынае набываць тое падабенства. І пры ўсім знешнім багацці тэм...

Не ідэалогія "закрыла" сацыялістычны рэалізм, зусім не. Лепшым мастакам цесна стала ў рамках метаду яшчэ ў шасцідзесятыя, калі ні пра якую адмену, ні пра якую састарэласць ідэалогіі і гаворкі ісці не магло. Быкаў, Брыль, Мележ, Крапіва, Караткевіч — яны на трыццаць гадоў апярэдзілі сучасных "адмаўляльнікаў", адчуўшы, што пошук новага — жыццёвая неабходнасць.

Іншая справа, што цяпер, ва ўмовах, калі "ідэальны вобраз" і ўвесь ідэальны хранатоп распаўся, нават сярэдні па сілах пісьменнік адчуў — не тое. Таму менавіта сёння і набыла такі рэзананс гаворка, пра непазбежнасць якой папярэджвалі лепшыя і якая калі-небудзь усё роўна павінна была распачацца. Але якая без асэнсавання прычын і вытокаў сваіх так і застанецца голай публіцыстыкай.

Вытокі — яны, безумоўна, прыхаваны ў самой структуры, у чым пераконвае агульны крызіс метаду, які ў кожным сваім канкрэтна-нацыянальным праяўленні можа выклікацца шэрагам прычын. "Адменай ідэалогіі" — у тым ліку (але неабавязкова, кубінскі раман, напрыклад, таксама перажывае не лепшыя часы).

Пра ідэалогію ў дыскусіі сказана было, думаецца, ужо дастаткова. Мы ж зазначым наступнае. Дзякуючы спецыфіцы нашай выдавецкай сітуацыі, закладзеная ў структуру сацрэалізму магчымасць і спакуса спрасціць работу пісьменніка выявілася небяспекай не менш разбуральнай за ідэалогію. Магчыма, нават, што і больш...

Адбывалася вось што: пачынаючы літаратар атрымліваў шанс параўнальна хутка выдаць на-гара дастаткова прымальнага ўзроўню першую кніжку — скараціўшы тым самым да мінімуму перыяд такога абавязковага ў літаратурнай прафесіі вучнёўства. Далей адсутнасць адваротнай сувязі "чытацкі поспех — выданне наступнай кнігі" дазваляла, эксплуатуючы пераважна ўсё таго ж "ідэальнага аўтара", прыносіць у рэдакцыю аналагічныя першай другую і г. д. кніжкі і дамагацца, каб выдалі і іх.

Аўтар ("рэальны" апавядальнік) заставаўся з вельмі малым арсеналам тэхнічных навыкаў, дыяпазон яго пошуку быў невялікі — а пашыраць даследчыцкае поле ў перыяд менавіта сталай творчасці псіхалагічна здольны далёка не кожны.

У выніку эксплуатацыі пераважна ідэалізаванай ацэначнай пазіцыі пісаліся сапраўды аднастайныя, бы пад капірку, творы (ад такой аднастайнасці не ратавала ніякая змена жанраў), якія фармальна належалі пяру розных літаратараў, але якія збоку заканамерна нагадвалі суцэльны паток "заідэалагізаванай" (вызначэнне на Захадзе) прадукцыі.

Нізкі ж сярэдні ўзровень аб'ектыўна заніжаў і планку "класічнасці" нашых твораў, не ўсе з якіх (і тут пачынальнікі дыскусіі маюць рацыю) у свеце ацэньваліся гэтак жа высока, як у нас.

Ёсць і іншыя прычыны, думаецца, дыскусія іх выявіць і азначыць. Але гэта — мінулае, пазнанне якога неабходна, і найперш дзеля таго, каб лепш усвядоміць сучаснае і атрымаць магчымасць прагназаваць будучае.

Дарэчы, менавіта перспектыва праводзіць абгрунтаваны аналіз і рабіць прагноз на будучае застаецца найлепшым выпрабаваннем тэарэтычных пабудоў.

Назіраемая на практыцы ўскладнёнасць адыходу ад выкарыстання агульнапрынятай доўгі час мадэлі-схемы пачынае выглядаць зразумелай і непазбежнай. Справа ў тым, што першым пабуджэннем у кожнага, хто пачынае адчуваць ціскі старой мадэлі, становіцца спроба адкінуць са схемы тое, што найбольш замінае (у нашым выпадку гэта, вядома, дадатковы, ідэальны, вынесены ў абсалютнае будучае аўтар). І ў выніку? У выніку пісьменнік заканамерна вяртаецца ў XIX стагоддзе, у той час, калі пачынаюць асвойваць навыкі аперыравання з "дадатковай" ацэначнай пазіцыяй ідэалізаванага апавядальніка, у эпоху еўрапейскага натуралістычнага рамана. Для больш-менш дасведчанага ў літаратуразнаўстве чалавека характарыстыкі той прозы відавочныя: засяроджанасць на адлюстраванні анармальнага, непрывабнага, нетыповага, фіксацыя праяў (часам бязладная) "адваротнага боку" жыцця.

Для тых, хто з падручнікамі неваждаецца, характарыстыкай можа стаць наступная ацэнка: у параўнанні з тыповым натуралістычным раманам "Чэрава Парыжа" Заля — дзіцячая забаўка з выдатна арганізаваным сюжэтам. Сюжэт жа натуралістам не даваўся менавіта па прычыне неазначанасці перспектывы ўнутранага развіцця, у будучым гэтую перспектыву забяспечыла падваенне аўтара.

Дык вось, хіба капанне ў нямытай бялізне з фіксацыяй анармальнага (часам, праўда, і досыць цікавага) не паўтарылася ў беларускай літаратуры апошняга дзесяцігоддзя? Заканамерны (з пункту гледжання тэорыі) "адкат" меў месца, і не толькі ў творчасці маладых, — крытыкамі пра гэта сказана нямала.

Вядома, адкрыццём для свету, для Еўропы падобнае бачанне рэчаіснасці стаць даўно не магло. Як вынік — далейшы (альбо паралельны) крок: імкненне адкінуць ужо ўсю сістэму цалкам, як вынікі — альбо захапленне фармалістычнымі пошукамі, альбо спроба звярнуцца да вопыту заходнееўрапейскіх літаратур, альбо проста артыкулы з прапановамі закрэсліць усе набыткі мінула й эпохі.

Але ж з пункту гледжання будучага... Ну, закрэслім, забудзем — усе напрацаваныя за дзесяцігоддзі навыкі і прыёмы. Вернемся (заканамерна!) у XIX стагоддзе. Альбо паспрабуем прывіць еўрапейскую традыцыю, не зважаючы на тое, што і яна сёння заснавана, прыгледзімся ўважліва — на такім самым супастаўленні ў творы мінімум дзвюх аўтарскіх макрапазіцый, чым і забяспечваецца перспектыва ўнутранага руху — толькі на Захадзе супастаўляюцца часцей за ўсё не ідэал і норма, а норма (дакладней, нават "усярэдненасць", тыповая пазіцыя абывацеля) і нязвыклае, анармальнае ўспрыманне жыцця. Гэта больш варыянтная, але па структуры такая ж самая (прынцыпова) мадэль-схема бачання рэчаіснасці, што выкарыстоўвалася і сацрэалізмам (таму не дзіва, што творы былі ўзаемапранікальныя).

І дадзеная мадэль — таксама вычарпальная! Больш таго, як падмурак для выбудовы новага светаўспрымання (а яно непазбежна будзе імкнуцца займець вынесены ў будучае пункт назірання, ацэначную пазіцыю, зарукаю ў тым — футуралагічная скіраванасць грамадства) гэтая мадэль нават больш абмежаваная, меней прыдатная!

Так што трэба не адвяргаць, а творча развіваць навыкі сацрэалізму, пераасэнсоўваць — у прыватнасці, спрабаваць насыціць канкрэтыкай гэтага самага вынесенага ў будучае аўтара-апавядальніка. Думаецца, менавіта такім акажацца магістральны напрамак развіцця літаратуры (і не толькі беларускай) у XXI стагоддзі.

**Алесь ЛАПАТА-ЗАГОРСКІ**

АД РЭДАКЦЫІ...

# Што ёсць ісціна?..

## альбо У чаканні перакуленай канапы

Вось і наспеў час рэдакцыі "ЛіМа" ўявіць з сябе пракуратара Понція Пілата і, стаўшы над дагараючым вогнішчам "ружоватуманнай" дыскусіі, вымавіць сакраментальнае "Што ёсць ісціна?"

Бо — чый бок можна прыняць у спрэчцы вакол "праклятай спадчыны"? Размежаванне на "чыстых" і "нячыстых", "ружовых" і "бел-чырвона-белых" адбываецца, як заўсёды, "на адной канапе", той самай, на якой, па выразе Юльяны Вітан-Дубейкаўскай, можна было пасадзіць усіх свядомых віленскіх беларусаў пачатку стагоддзя.

Дарэчы, падобны матыў прасочваецца ў выступах амаль усіх дыскусантаў. Кожны лічыць патрэбным агаварыцца накшталт таго, што "жаруць адзін аднаго няхай павукі ў слоіку" (А. Аркуш), "нельга перакрэсліваць саміх сябе", належыць "будаваць... храм наш агульны і светлы" (А. Сямёнава), "часам здаецца, што мы ўсе толькі і робім, што раздзіраем Беларусь, як цэлае, на фрагменты саміх сябе" (В. Акудовіч) і да т.п.

Як вядома, дакладна сфармуляваць праблему — значыць напалову вырашыць яе. Пра што мы спрачаемся, спадарства? Якая прырода нашай дыскусіі? Можа быць, чыста інстынктыўная? З пункту гледжання эталогіі, навукі, якая разглядае чалавека як адзін з біялагічных відаў, знішчэнне "таталітарнай скульптуры" мае лекавы характар. Стоды тыранаў зусім не бясшкодныя, пакуль мы іх баімся. Іх спараджае не мастацтва, а псіхатэхніка. Гадамі падаўленая агрэсіўнасць масаў пераадрасоўваецца на стоды. У выніку — катарсіс, ачышчэнне. Праўда, тая самая эталогія сцвярджае, што "выціснуць з сябе раба" такім чынам не ўдасца — гэта трэба было рабіць рэгулярна, пакуль тыран быў жывы...

Так што ўсё заканамерна і як заўсёды трохі абсурдна. Кансіліум цацачнай краіны:

"Пацыент хутчэй жывы, чым мёртвы..."

"Пацыент хутчэй мёртвы, чым жывы..."

"А чым лячыць, шаноўныя дактары?"

"Касторкай..."

Ёсць вядомая прыпавесць пра пабудову Сабора парыжскай Багамаці. Прахожы задае пытанне кожнаму рабочаму: "Што ты тут робіш?" Адзін адказвае: "Я важу камені", другі — "Укладваю цэглу" і да т.п. Толькі адзін пралетар даў адказ "Я будую Сабор Нотр-Дам".

Зараз ты, наш праніклівы чытач, падумаеш, што "ЛіМ" пачне патэтычна заклікаць усіх дыскусантаў забыць на спрэчкі і пачаць будаваць адзін вялікі Храм Беларускай Літаратуры.

Ты памыліўся, праніклівы чытач. Перачытай хаця б бізнес-псіхолага Дэйла Карнегі, каб аднавіць у памяці яго залатое правіла: **нікога, ніколі і ні ў чым нельга пераканаць.** Прынамсі, у спрэчцы. Таму і мы не збіраемся займацца марнай справай. Усё роўна кожны з тых, хто прымаў удзел у дыскусіі, як і кожны з рознакаляровых (але беларускіх!) літаратараў робіць сваю справу ў пабудове таго "агульнага храма". І калі нехта спецыялізуецца на ўкладцы цэглы, трэба ж некаму і выграбаць будаўнічы друз...

Таму — дзякуй усім. Дыскусія прыпыняецца — скончыцца пэўнай высновай яна, відаць, у прынцыпе не можа, як самадастатковая рэч. Сумнівы ў яе выніковасці ўзнікалі ў саміх удзельнікаў: "дыскусія, не вартая выедзенага яйка" (А. Аркуш), "штучная праблема" (Ю. Станкевіч), "палемічны тэкст не можа мець рацыю" (А. Акудовіч). Але, як любая вербалізацыя духоўных праблемаў, дыскусія наша мела стваральны характар — нягледзячы на фармальную разбуральнасць ідэй.

Хаця дыспут узнік спантанна, ён падаецца невыпадковым у якасці "прэлюдыі" да маючага адбыцца ў хуткім часе з'езда "архітэктараў і будаўнікоў" вышэйзгаданага "літаратурнага храма". Прасцей кажучы, з'езда Саюза пісьменнікаў Беларусі. Чарговага. Магчыма, апошняга. Бо не выключана, што там матэрыялізуюцца некаторыя тэарэтычныя вышукі шаноўных літаратуразнаўцаў. Не выключана многае. Бо няма благіх ідэй. Благія, страшныя толькі фанатызм, зацятасць, нецярпімасць. Паглядзім, што будзе з нашай міфічнай "канапай" для прафесійных пісьменнікаў — перакуляць яе, распілуюць, перафарбуюць, прададуць, перададуць?.. І ці ўдасца, ці дарэчы будзе тады Понцій-Пілатаўская незаангажаванасць?

А пакуль на старонках "ЛіМа" — заключныя выступы па "ружова-туманнай" дыскусіі. Алесь Лапата-Загорскі спрабуе прааналізаваць сённяшні літаратурны кантэкст чыста навуковымі метадамі, адкінуўшы ўсялякія эмоцыі і ацэнкі, Раман Тармола-Мірскі паэтычным радком...

Дарэчы, як вядома, Понцій Пілат, з яго безнадзейным рытарызаваннем "Што ёсць ісціна?", усёткі памыляўся...

## Студзеньскае "Полымя"

Хоць і запазніўся сёлета першы нумар часопіса "Полымя", але ад гэтага, як кажуць, сутнасць не мяняецца. Старэйшына сярод літаратурна-мастацкіх выданняў нашай краіны паказвае па-ранейшаму прыклад, якія матэрыялы трэба змяшчаць, каб зацікавіць чытача. Канечне ж, найперш вызначаюцца асноўныя раздзелы — паэзіі і прозы. Ёсць мажлівасць пазнаёміцца з вершамі А. Вярцінскага, Н. Гальпяровіча, М. Башлакова, А. Хатэнкі, апавяданнямі "Баёк" А. Кудраўца, "Памыліўся..." А. Петрашкевіча, "Крыж" А. Варановіча. Р. Барадулін жа пераклаў з польскай мовы шэраг твораў Я. Баршчэўскага — пісьменніка, творчасць якога масавы чытач, на жаль, ведае слаба і многае з яго мастакоўскай спадчыны вядома толькі даследчыкам. Балазе гэтая "памылка" выпраўляецца. Бадай, немагчыма назваць сёння любое "сур'ёзнае" выданне, якое б не працавала менавіта ў гэтым кірунку — вяртанні забытага. "Полымя" не абмежавалася творамі Я. Баршчэўскага. Многіх зацікавяць і "Запіскі і дыярыуш Яна Уладзіслава Пачобута-Адляніцкага" (пераклад з польскай мовы, прадмова і каментарыі В. Таранеўскага). Лепш зразумець літаратурную атмасферу пачатку 20-х гадоў дапамагаюць "Лісты Юркі Віцьбіча да Пятра Глебкі" (уступнае слова, падрыхтоўка да друку і публікацыя Я. Кісялёвай). Адначасова гэта і магчымасць высвятліць некаторыя старонкі жыцця і творчасці самога Ю. Віцьбіча, які пазней, як вядома, апынуўся ў эміграцыі. Г. Лыч ("Нашчадкі не даруюць") закранае надзённыя пытанні нашага паўсядзённага жыцця. С. Скаруліс ("Нататкі на палях судовых спраў") вяртае да таго, што, хацелася б, каб ніколі не паўтарылася. Развагамі ў сувязі з выхадам "Тлумачальнага слоўніка беларускай літаратурнай мовы" дзеліцца П. Сцяцко. В. Коўтун ("Нягасная тэма таленту") гаворыць слова пра А. Васілевіч і яе творчасць. А завяршаюць нумар рэцэнзіі на новыя кнігі.

## "Лаза" — хрысціянскі альманах

А чаму менавіта "Лаза" ён называецца, можна даведацца з артыкула галоўнага рэдактара Ю. Смірнова "Для ўсіх папараць-кветка ўзыходзіць": "І былі і ёсць на Беларусі людзі, якія бачылі і бачаць у сваім родным куце, што ім вельмі мілы, не толькі дубы і явары з калінамі, а і Лазу, без якой чалавек не можа рабіць нічога, без якой ён — дрэва, што не ведае, чаго жыве, і памірае толькі дзеля таго, каб згарэць ці спарахнець... А можа нашая папараць-кветка — гэта і ёсць Лаза? Проста не давалі нам чытаць Біблію, вось і прыдумалі мы сабе гэтую неіснуючую кветку, якая цвіце раз у год невядома для каго і невядома дзе. А Лаза ціха сабе расце — круглы год, для ўсіх і паўсюды. І галіны гэтай Лазы могуць распусціцца і ў Іўі, у Дуброўне, у Ельску, на берагах Бярэзіны і нават у кафэ "Бярозка".

Альманах выдаецца на добраахвотныя ахвяраванні, таму будзе выходзіць не рэгулярна, а распаўсюджвацца бясплатна. У першым нумары, пазначаным лютым сёлетняга года, можна пазнаёміцца з вершам А. Вольскага "Калі гучыць "Магутны Божа", абразком В. Барабаншчыкавай "Я люблю цябе, Беларусь!", гутаркай Ю. Смірнова з Ю. Хадыкам "Калі б ведалі вы...", гістарычнымі нарысамі "Рэфармацыя ў Беларусі М. Барабаншчыкавай і "Зброя хрысціяніна" А. Дылюка, вялікай падборкай твораў Н. Арсенневай, іншымі матэрыяламі.

## І на беларускай ніве

Абагульніў і беларускія працы рускі літаратуразнаўца, этнограф, фалькларыст, акадэмік Пецярбургскай акадэміі навук Аляксандр Пыпін, калі пісаў сваю чатырохтомную "Гісторыю рускай этнаграфіі" (1890—1892). У прыватнасці, у сямі раздзелах апошняга тома ўпершыню абагульнены і ахарактарызаваны важнейшыя працы па беларускай этнаграфіі і фальклоры, прааналізавана дзейнасць Е. Раманава, І. Насовіча, П. Шэйна і іншых даследчыкаў. Увогуле, даследаванне вызначаецца багаццем фактычнага матэрыялу, у многіх выпадках унікальнага. Вядомы А. Пыпін і як аўтар "Гісторыі славянскіх літаратур" у двух тамах, якая вытрымала два выданні і была напісана сумесна з нашым земляком, вядомым адвакатам, правобразам абаронцы Міці Карамазава ў знакамітым рамане Фёдара Дастаеўскага "Браты Карамазавы" Уладзімірам Спасовічам. 6 красавіка з дня нараджэння А. Пыпіна споўнілася 165 гадоў (памёр Аляксандр Мікалаевіч 9 снежня 1904 года).

ПАЭЗІЯ

Васіль МАКАРЭВІЧ



# Крэскі да партрэтаў

## Ветэран

Васілю БЫКАВУ

*А што за навалач кантузія,*
*Калі ні легчы і ні ўстаць,*
*Не скажуць ордэны Кутузава*
*І медалёў іканастас.*

*Зарыты ў одум і заглыблены,*
*Жыві і словам дні гартай,*
*Хоць і задушшам, нібы глыбаю,*
*Даўно завалена гартань.*

*А дні, ад стомы заскарузлыя,*
*З былою смагай заадно*
*Кіравагградскай кукурузаю*
*Шумяць і лезуць пад акно.*

*Прамёрзлай восенню няяркаю,*
*Што не паспела стэп разуць,*
*Насустрач смертнымі жняяркамі*
*Страшыдлы грозныя паўзуць.*

*Зубрыў і грыз вайны граматыку*
*Узводны тактык і стратэг.*
*Але з прыземістай гарматкаю*
*Ці ж разгрызеш брані арэх?!*

*У кукурузе,*
*З чэзлай траўкаю,*
*Нібыта крылле жураўля,*
*Наўзбоч жавалі танкі тракамі*
*Сырое крыссе шыняля.*

*Вайна*
*З марознай яснай восенню,*
*Дзе рэха блудзіць, бы ў дзяжы,*
*Як у душу улезла з восямі,*
*Так і не вылезе з душы.*

*Ці не таму начамі душнымі,*
*Пакуль з паднеб'я ціш цячэ,*
*Таўкач дзябёлы і удушлівы*
*У грудзі здрадліва таўчэ?*

*А ён багач,*
*Хоць ледзь трымаецца,*
*Ды ні на снег і ні на град.*
*З вайны ў байца магіла маецца*
*Там, дзе чуцён Кіраваград.*

*Сініца, бач, за шыбай ценькае,*
*Адна стараецца за дзвюх.*
*Жыццё салдата — свечка ценькая,*
*Што лёгка ветрыкам задзьмуць.*

*Ў яго душы з бядой, з ускрыкамі*
*Вайны ляжыць глухі тартак.*
*А матавіла дзён паскрыпвае,*
*І веку круціцца вятрак...*

## Доўгажыхар

Памяці А. ЗВОНАКА

*Не ад замежных*
*Хапуноў і фірм,*
*А па заказу пільнаму, набегам,*
*Рабілі мы тэлевізійны фільм*
*Пра Звонака — удвух*
*З Алесем Шлегам.*

*Усім нягодам*
*На вялікі здзек*
*Сядзеў у крэсле з маладой усмешкай*
*Былы сібірскі і калымскі зэк,*
*Ды калываўся прыпамінаў*
*Сцежкай.*

*З пытаннямі*
*Мой друг у вочы лез:*
*Як там было, у котлішчы ГУЛАГа?*
*А ён казаў: "Ды слаў упокат лес,*
*І горыч піў, як п'юць з цабэрка*
*Брагу...*

*Калоў мароз,*
*Як джаламі цвікоў.*
*Любога з нас за ноч ён мог там зжэрці.*
*Выносілі з барака мерцвякоў,*
*Апруцянелых і даўгіх,*
*Як жэрдзе..."*

*Са стажам*
*І зняважаю пакут,*
*Калі з бярлога нараў часам вуркаў,*
*Лез напралом ад страху*
*Ў цёмны кут,*
*Як заяц палахлівы,*
*Хіжы урка.*

*А ён з мятлой*
*Патлатай бароды*
*Кіркой пасля і пад зямлёй арудваў.*
*І столькі выдаў тлустае руды, —*
*Усталі б да нябёс Манбланы*
*Рудаў.*

*Казаў:*
*"Скарынку снежня дажую, —*
*І паглядзеў у цемень ночы з намі, —*
*А там да каляды ці дажыву..."*
*Маўляў, дальбог, не ведаю,*
*Не знаю.*

*Ён быў слабы,*
*А духам не слабак.*
*Кацілася яму пад дзевяноста, —*
*Мы асушылі пакрысе каньяк,*
*Ды закусілі зноў крамольным*
*Тостам.*

*І я, дзівак,*
*Слязіны не стрымаў.*
*Яна з вачэй скацілася, нямая.*
*А ён сказаў: "Хто ў лагеры трымаў,*
*На тых я зла і каліва*
*Не маю...*

*Хапала там*
*Бяды і сатаны*
*Ды усялякай погані-заразы.*
*А што да вертухаяў, то яны*
*Пякліся і гібелі з намі*
*Разам..."*

*Ён нам абодвум шчыра абяцаў*
*Увагай забяспечыць і начлегам,*
*Ды ўжо світання клекатаў бацян, —*
*Пайшлі з яго гасподы*
*Мы са Шлегам.*

*Яму суддзя*
*Сягоння толькі Бог.*
*Над ім зара інакшая світае.*
*І згадка — не жалобны некралог,*
*А запіс сумны ў кнігу*
*Развітання.*

## Святар

*Ні змагар,*
*Ні вязень,*
*Ні падпольшчык,*
*А рыбак заядлы, грыбазбір.*
*Жыў сабе ды быў —*
*Пад белапанскай Польшчай:*
*Пры Саветах — дыбай*
*У Сібір!*

*На яго казённых*
*Мулкіх нарах,*
*Ад радні за трыдзевяць зямель,*
*Пад рыззём, нібы пад чорнай хмарай,*
*Колькі год пакінуў там*
*Бітэль!*

*Адтрубіў,*
*Адбыў,*
*Адбухаў тэрмін,*
*Дзе калісьці лютаваў Калчак.*
*І з навукай вязняў Камінтэрна*
*Едзь дамоў у кірзачах-*
*Карчах!*

*Чуў спіною*
*Халадзіну дула.*
*Зверху халадзіла і знутры.*
*і знутры.*
*Хочаш зноў настаўнічаць?*
*А — дулю!*
*Лепей падавайся*
*Ў святары!*

*Звадыяш, відно,*
*Не памыліўся:*
*Навык быў, на вуха не глухі.*
*За марксістаў-д'яблаў памаліся,*
*Можа, Бог адпусціць ім*
*Грахі.*

*Хоць дыміла*
*Да нябёс кадзіла,*
*Вышаўшы з сялян, лічы, з нізоў,*
*Жыў ён у стагоддзях Радзівілаў,*
*Каралёў літоўскіх*
*І князёў.*

*Запаліўшы*
*Зыркую паходню,*
*З латнікамі разам неўспадзеў,*
*Колькі раз хадзіў ён у паходы,*
*У засадах дзень пры дні*
*Сядзеў.*

*Бітвы*
*Усё-ткі дзіду не зламалі.*
*Акрыяўшы целам і душой,*
*Ён да веку нашага памалу*
*Праз стагоддзяў буралом*
*Дайшоў.*

*Не засохла*
*Радаслоўнай дрэва*
*З белакорай чыстай белізной.*
*Цягнецца яго сцяга з-пад Крэва*
*Роўнаю глыбокай*
*Баразной.*



КАЛІ ВЫ ХОЧАЦЕ ўявіць мой твар (папера, на жаль, не можа прадаставіць гэткай магчымасці), то, калі ласка, паглядзіцеся ў люстэрка. Поспех амаль што будзе забяспечаны, вядома, толькі ў тым выпадку, калі вам крыху за пяцьдзесят гадоў, вы мала бываеце на паветры, апошнім часам (амаль трыццаць гадоў) не займаецеся фізічнай працай (акрамя брыдкага выбівання дываноў пад прыглядам незадаволеных суседзяў), а калі і з'яўляліся на спартыўнай пляцоўцы, то толькі ва ўласным уяўленні перад экранам тэлевізара.

Я ўяўляю блазенскую ўсмешку на вашым твары пасля таго, як вы прачыталі гэтыя радкі. Вам можа здацца, што іх напісаў нейкі дзівак, які збіраецца абвергнуць неаспрэчную ісціну — у свеце няма ніводнага чалавека, які б быў як дзве кроплі падобны да другога (калі яны, вядома, не з'явіліся на свет у адзін дзень, а да гэтага дзевяць месяцаў раслі ў чэраве маці, карыстаючыся аднымі і тымі ж жыццёвымі сокамі). Аднак не спяшайцеся рабіць вывады. У момант напісання гэтых радкоў я апынуўся (нечакана для сябе самога) насупраць вялікага люстэрка ў драўлянай, пад даўніну, раме і час ад часу перада мной у тыя моманты, калі я адрываўся ад паперы, міжволі з'яўляўся мой твар. І вось тут (зноў жа нечакана) я зразумеў, што бачу не толькі сябе, а многіх іншых людзей, іх твары, углядаюся ў іхнія стомленыя, пажаўцелыя вочы і сярод іх знаходжу таксама і ваш твар, быццам мы ўсе разам раслі ў адным штучным пітомніку падназіраннем адных і тых жа селекцыянераў.

Так што давайце прыгледзімся да сябе больш уважліва, а ў якасці нашага агульнага твару возьмем мой (зноў жа не хвалюйцеся — гэта часова). У вачах (хочаш ці не хочаш, яны з'яўляюцца перада мной) яскрава напісана абыякавасць да ўсяго поўнага, мы старанна прыкрываем гэта стомленасцю (пражыта, што ні кажыце, нямала). Нашы вочы не могуць здзіўляцца, аднак яны ў пэўныя моманты валодаюць уменнем раптоўна ажыўляцца і нават па-маладому свяціцца. Гэта адбываецца тады, калі мы можам сказаць сабе — так, мы шчаслівыя, мы радуемся жыццю (нягледзячы на ягоную хуткаплыннасць), у нас усё добра... Але па сабе ведаю, што гэтыя моманты ствараюцца штучна і пасля таго, як штучнасць раптоўна знікае (ужо без дадатковага загаду), на душы робіцца яшчэ больш цяжка, на сэрцы (недзе ля самага нізу) з'яўляецца пустэча і само сэрца меціць разам з вамі некуды ў бязважкасць, не адчуваючы пакуль што фінішу. Але здараецца і так, што мы, прыкрыўшы вочы, адчуваем набліжэнне гэтага загадкавага фінішу (момант, і сэрца сустрэне шчыльную, неадольную сцяну). І чакаем мы гэтага без страху, а нават са спадзяваннем. Потым гэтая думка (пасля таго, як пустата на сэрцы знікае) адганяецца прэч — не, да фінішу яшчэ далёка, жыццё наўкола яшчэ мае сэнс, трэба толькі больш уважліва прыгледзецца да яго і ты адкрыеш неверагодную колькасць радасцей, як, напрыклад: 1) добры апетыт; 2) выдатны сон; 3) рыбалка; 4) сустрэчы з сябрамі; 5) задавальненне ад работы; 6) павага начальства. І яшчэ. Калі меркаваць па тым, дзе ты знаходзішся большую частку жыцця, чым ты займаешся, можна зрабіць вывад, што ты (калі карыстацца гучнай газетнай тэрміналогіяй) яшчэ патрэбны грамадству, якое дало табе не адну вышэйшую адукацыю (божухна, і навошта іх столькі?!) і ўскладала пры гэтым вялікія спадзяванні (ва ўсякім разе табе пра гэта шмат разоў любілі паўтараць у розных па памерах кабінетах), і ты, можна з упэўненасцю сказаць, большую частку з іх выканаў. Праўда, цяжка сёння сказаць (гэтак жа, як гэта было і ўчора), чым ты займаўся канкрэтна большую частку свайго жыцця. І сапраўды... Некаторыя твае (прабачце, мае) калегі, людзі, відаць, больш спрактыкаваныя, не выкідваюць свае штодзённікі, яны збіраюць іх за ўсе гады службы (усе ж мы служым, а не працуем), а потым маюць магчымасць угледзецца ў кожны пражыты дзень, з асалодай слухаць музыку, якая складалася з бясконцай колькасці нумароў тэлефонаў, прозвішчаў (многія іхнія носьбіты зніклі назаўсёды ў самыя розныя адбіткі вашага жыцця), і гады, нават такія немалыя адрэзкі жыцця, здаюцца ў запісах яшчэ больш хуткаплыннымі, месяцамі, а, можа, нават тыднямі.

Але я (не ведаю, як вы) сваіх штодзённікаў не захоўваў і цяпер не парушаю старую традыцыю. Я кожны раз з радасцю чакаў канца года (штодзённік маўкліва танеў з кожным днём), я бачыў сваю

Міхась КАЦЮШЭНКА

# ПАРНІКОВЫ ЭФЕКТ



## УРЫВАК З РАМАНА

***З таго часу, як не па сваім жаданні — “па ўласным жаданні” развітаўся з журналістыкай, напісаў два раманы, кніжку апавяданняў. Дзякуй вядомаму чалавеку, які падпісаў не менш вядомы ўказ аб маім звальненні —у рэшце рэшт з’явіўся час пісаць. Першы раман называецца “Парніковы эфект”, другі — “Маленькае падарожжа па вялікім горадзе”. Па сутнасці, гэта раманы-хронікі 80-х і 90-х гадоў. Раманы гарадскія, падзеі адбываюцца ў Мінску. Не хачу хавацца і прызнаюся, што ў аснову іх пакладзена шмат асабістага. Чытачы ўзгадаюць шматлікія падзеі, пазнаюць у персанажах некаторых людзей, адны з якіх былі вядомымі ў ранейшыя гады, другія — у наш пустэльны час.***

***Прапаную чытачам “ЛіМа” ўрывак з рамана “Парніковы эфект”.***

**АЎТАР**

блізкую перамогу над ім і перакрэсліваў, старанна, удумліва пражытыя дні — яшчэ адзін, яшчэ... Потым я збіраў штодзённікі на дачы і ціха, каб, далібог, не ўбачыў ніхто з суседзяў (іх шмат у нашым дачным доме, складзеным з аднапакаёвых кватэр) і паліў у печцы. Я глядзеў, як ператвараюцца ў попел спісаныя, нядаўна яшчэ жывыя старонкі і радаваўся — вось знік яшчэ адзін год жыцця, я пазбавіўся ад яго, як ад вялікага цяжару, потым, пройдзе яшчэ адзін год, яшчэ, зноў я буду адчуваць пазбаўленне, як ад нечага цяжкога, непатрэбнага. Вы можаце спытаць: чаго ж у гэткім выпадку мне хочацца, пра што я мару? Сам не ведаю. Я ні на што іншае не здольны, нічога не ўмею рабіць ды і не хачу, акрамя таго, як з выразам поўнай гатоўнасці выканаць любое даручэнне (са словамі: “Ёсць! Ёсць!”). Дарэчы, выконваць даручэнні я магу самыя розныя: а) выклікаць і пакараць (не мае значэння за што і па якой прычыне); б) праверыць выкананне любой пастановы; в) падрыхтаваць паперу любога прызначэння (кола маёй спецыялізацыі вельмі шырокае). Яшчэ я магу (навучыцца гэтаму, паверце, нялёгка) пераконваць сябе, што ўсё адбываецца аўтаматычна, што любая чужая думка (як бы спраектаваная на мяне) робіцца маёй уласнай. Усё ўдаецца! Я сапраўдны майстра ў такой справе, я нават не задумваюся, усё адбываецца амаль аўтаматычна, і толькі час ад часу мая жонка (прашу прабачэння за напамін пра яе) задуменна гаворыць (жончыны вочы набываюць нейкі дзіўны колер) пра тое, што яна ўвесь час думае — ці надакучыць мне калі-небудзь усё... Апошні раз яна паўтарала сваё выказванне ў час нашага знаходжання ў адпачынку ў адной з цудоўных расійскіх мясцін (цэлая стужка азёраў, некранутыя берагі, манастыр, заснаваны самім Ніканам). Сярод непаўторнай прыгажосці асобныя дачы і вялізны, складзены з фінскай цэглы дом адпачынку. Усярэдзіне ўсё таксама фінскае — і дываны, і люстры, і мэбля. Дарэчы, вы гэтаксама маглі бываць у тым доме адпачынку, абкружаным з усіх бакоў забароннымі знакамі (“заезд, заплыў не дазволены!”). Вы маглі пераканацца, што і жыхарам дома адпачынку таксама забаронена заплываць у іншыя, больш прыгожыя мясціны, перад якімі розных знакаў яшчэ больш, як некалі мясцовым сялянам уваходзіць у валоданні манастыра... Дык вось, мы якраз адплывалі ад манастыра (паўразбуранага, закінутага) і слухалі размову накшталт таго, што гіне помнік старажытнарускай культуры і ўсім напляваць. І наогул лепей было вярнуць манастыр зноў царкве, якая гэтага даўно дамагаецца, а ў дзяржавы пакуль што ёсць грошы толькі на дамы адпачынку (для нямногіх людзей), пабудаваныя фінамі, а да манастыроў мы дойдзем праз многія гады... Пры апошніх словах я зрабіў выгляд, што не чую размовы (няведама адкуль незнаёмцы, і хто яны?!), а мая жонка нечакана ўціснула ў іх размову некалькі фраз пра тое, што людзі павінны памятаць сваю даўніну, берагчы яе, інакш яны могуць страціць вялізнае — адчуванне Радзімы.

Я адхіснуўся ад яе, падставіў твар пругкім халодным струменям паветра, каб крыху астыць ад гарачыні, якая ахапіла мой твар (хто-хто, а вы разумееце ў чым справа!).

І тут я пераканаўся, што невыпадкова ўсхваляваўся. Поўная жанчына з мужчынскімі вусамі сказала жонцы, што яе прапанова будзе садзейнічаць аднаўленню царкоўнага культу, з якім вось ужо колькі гадоў змагаецца наша дзяржава. Жонка насмешліва паглядзела на незнаёмую, спакойна адказала, што культ царквы яшчэ не самае горшае, што можа быць (я адчуў, як неверагодна падскочыў мой ціск). Я з жахам чакаў працягу спрэчкі і міжволі яшчэ адсунуўся ад жонкі, але поўная жанчына замаўчала, а жонка з выглядам пераможцы пагледала на яе. Калі мы крануліся ўздоўж берага, я адразу ж выказаў ёй усё пра тое, што яна нічога не разумее, не пра тое гаворыць з незнаёмым чалавекам, тым больш у такім месцы, якое можна параўнаць з кабінетам, ці ва ўсякім разе калідорам адказнай установы, чым балбатня можа скончыцца для мяне, яе, усіх НАС?!

І тады жонка (зноў жа вельмі спакойна) спытала, ці не надакучыла мне ўсё ГЭТА?! Я ў сваю чаргу (хоць і не так спакойна) пацікавіўся, што ж яна мае на ўвазе. З яе пасыпалася ў адказ усё — і тое, што я ўсё жыццё цягаю па кабінетах нікому непатрэбныя паперкі і баюся ўласнага ценю, і тое, што яна апошнія дзесяцігоддзі не можа ўспомніць ніводнай маёй уласнай думкі. У аўтобусе мы сядзелі моўчкі. Прыкладна мінут праз дваццаць язды я паказаў ёй на маленькія, счарнелыя ад часу драўляныя дамы на беразе возера (відаць, база нейкага завода). Я сказаў: “Паглядзі на гэтыя домікі”. Яна паглядзела і здзіўлена ўскінула на мяне вочы. Я спытаў: “Ты што ж, хочаш адпачываць вось такім чынам?!” Яна нічога не адказала.

Жонка маўчала да позняга вечара. Нарэшце яна сказала (пагладзіўшы мяне па галаве, як дзіця), што не хацела пакрыўдзіць мяне, яна наадварот цэніць усё тое добрае, што я раблю для яе і сына, ягонай сям’і, але ж (тут яе вочы зноў змянілі колер) ёсць людзі (і іх нямала), якія на маім месцы паводзяць сябе інакш, маюць сваю думку і смела выказваюць яе, нягледзячы на абставіны.

Нечакана мяне ахапіў блазенскі смех. Вось дык выказалася... Па-першае, гэтыя людзі займаюць іншыя пасады, па-другое, многія з іх даўно вядомыя цытатамі з газет: “Вызвалены ад абавязкаў па ўласным жаданні...”, а па-трэцяе (і самае галоўнае), навошта мне рызыкаваць, ведаючы, што нічога не зменіцца. Да таго ж я сумленна раблю сваю работу, выконваю ўсё, што ад мяне патрабуюць.

Яна ўважліва слухала мяне. Я чакаў, што яна пачне спрачацца, абвяргаць мае словы, але жонка толькі стомлена ўздыхнула і сказала, што лепей пакінуць надакучлівую тэму. Яе позірк зноў пацяплеў і я скарыстаў момант, каб папрасіць яе не выказвацца больш у такім тоне, як тады, у час падарожжа па возеры, бо нягледзячы, што час у некаторым сэнсе новы, вынікі гэткіх выказванняў могуць стаць даволі непрыемнымі для нас: з’явіцца пісьмо ў высокую інстанцыю, разглядаць яго, вядома, не будуць, але абавязкова возьмуць на паперку, альбо ў якой-небудзь прыватнай размове тая самая поўная жанчына скажа, што ў нашым асяроддзі сустракаюцца не зусім шчырыя людзі, вось, напрыклад, жонка аднаго адказнага работніка вельмі арыгінальна ставіцца да рэлігіі і ваяўнічага атэізму...

Далей я не працягваў (а можа, і наогул маўчаў, а гэта былі мае ўласныя думкі). Мы адпачылі і пайшлі ў бар, яна зноў сказала, што ніколі не была ў больш утульным месцы, асабліва падабаецца ёй інтэр’ер, падабраны з густам, мяккія фінскія крэслы ў холе, в’етнамскія дываны (на жаль яны амаль зніклі з продажу) і выкананыя пад даўніну люстры. Я слухаў яе і думаў, што, мажліва, гэтымі словамі яна яшчэ раз хоча паздзекавацца з мяне, але нічога не адказаў, бо ведаў, што менавіта цяпер можа здарыцца непрыемная, працяглая па часе сварка. Яна пачне пераконваць мяне, што гаворыць шчыра, я ж зрабіўся занадта падазроным (уздзеянне невыноснай службы), чапляюся да кожнага слова быццам перада мной чалавек, персанальную справу якога я збіраюся (вядома, не адзін, а ў кампаніі падобных службовых людзей) і павінен разглядаць.

— Ты глядзіш на мяне так, быццам вывучаеш маю персанальную справу, — нечакана гаворыць яна.

Так, добра, што я разгадаў яе думку... Сваркі было не пазбегнуць. Я маўчу і ўспамінаю адну персанальную справу, пра якую я не вельмі люблю ўспамінаць (што, праўда, мне не ўдаецца). Не занадта, упэўнены, любяць успамінаць пра яе і мае калегі... Яшчэ я падумаў — добра, што няма побач майго сына (вядома, малодшага). Ён дакладна б не прапусціў міма вушэй словы маці, пачаў бы з’едліва пагдядаць на мяне сваімі пранізлівымі вачыма (у мяне некалі таксама былі гэткія ж), а пасля пачаў бы гаварыць словамі ўсіх артыкулаў і артыкульчыкаў апошняга часу, у якіх панавала адно самае страшнае для чалавечай цывілізацыі (яна інакш і не лічыць) слова “апарат”. Я не ведаю адкуль непрыязнасць да ўсяго, што акружала мяне, узялася ў сыне, дачка больш спакойная, абыякавая да таго, чым, скажам, займаюся я ці маці, яна прымае ўсё, як належыць, яе цікавіць экалогія, працэнты забруджвання паветра, акіянаў, усё астатняе яна лічыць пустым і непатрэбным. Яе муж, маўклівы, засяроджаны малады чалавек па маёй, вядома ж, падказцы пачаў рабіць значныя поспехі на камсамольскай рабоце, аднак хутка яму ўсё надакучыла і ён успрыняў прапанову (мне нялёгка было арганізаваць яе ў наш няпросты час, калі столькі вачэй сочаць за табой штодня) узначаліць мясцовы камітэт на ягоным прадпрыемстве. Служыць ён старанна і, што вельмі прыемна, не задае дадатковых пытанняў наконт свайго далейшага жыцця, яму хапіла маіх слоў:

— Працуй, а потым пабачым...

Малодшы чын раптам уздумаў, што нешта зможа напісаць і падаўся на філалагічны ва універсітэт, але тады ніпто яшчэ не абяцала пагрозы нашым адносінам. У тыя дні, калі я выказаў толькі спачуванне з нагоды ягонага выбару (“ты не будзеш мець надзейнага кавалка хлеба ў жыцці”), і не ведаў, колькі хваляванняў выпадзе на маю душу. Відаць, усё пачалося ў той дзень, калі з ягонага пакоя, сярод гукаў нейкай заходняй музыкі з’явілася дзяўчына, стройная, з дзівоснымі вачыма, а я і падумаць не мог, што гэта дачка аднаго чалавека, добра мне знаёмага, чалавека, які па сутнасці знаходзіўся на аперацыйным стале, а я разам з іншымі па камандзе маладога шэфа трымаў у руцэ скальпель і гатовы быў распачаць...

Пасля слоў жонкі пра персанальную справу, якія выклікалі ў мяне непрыемныя эмоцыі, я зірнуў на гадзіннік і ўспомніў, што праз некалькі імгненняў у мяне наведанне лазні і страшэнна ўзрадаваўся: дзве гадзіны запар можна будзе забыцца на ўсё на свеце, піць духмяны чай з выдатнага збору траў, плаваць у басейне і, галоўнае, дыхаць гарачай парай...

— Я пайду ў лазню, — сказаў я жонцы, але яна быццам не пачула мяне. Жонка была захоплена чытаннем рамана амерыканца Кінга, галоўная гераіня якога валодала талентам пірагенеза — магла пры дапамозе позірку падпальваць рэчы і людзей.

— Вось гэткі б позірк людзям, персанальныя справы якіх ты вёў, — раптам сказала жонка. — Усе вашы супрацоўнікі даўно б ператварыліся ў попел...

— Мы ачышчаем грамадства ад шкоднікаў, — падрэзаў я жончына мармытанне словамі свайго шэфа.

Яна засмяялася:

— Ды вы крадзяцеся ў душы людзей, як злодзеі... А рабіць гэта, мякка кажучы, непрыгожа, — адказала яна і перагарнула старонку рамана.

Я ў той раз доўга круціў педалі веласіпеда і на крутым віражы ледзь не падбіў вядомага каментатара-амерыканіста, які сваім манатонным, рыпучым голасам гадоў дваццаць запар ганьбіў па тэлебачанні амерыканскі лад жыцця (самога ж было не зацягнуць дамоў з працяглай камандзіроўкі ў Амерыку), а цяпер пераканаўча гаварыў пра шкоднасць недаверу ў час якога з абодвух бакоў быў створаны вобраз ворага. Ён нават пракручваў па тэлебачанні старыя свае каментарыі, перадачы і як мог здзекаваўся з іх. Што б ты, дарагі, загаварыў на камісіі, шкада толькі, я не магу выклікаць цябе на яе...

А цяпер не трэба рызыкаваць жыццём сваім і чужым, я апранаю махровы халат і праз некалькі хвілін падарожжа па стадыённых холах пераступаю парог лазні. Некалькі чалавек, абкручаныя вялізнымі ручнікамі, уладкаваліся ўжо на верхняй паліцы. Яны памахалі мне рукамі і паказалі, што ёсць свабоднае месца. Я сеў побач, закрыў вочы і пачаў з палёгкай набіраць у лёгкія гарачае паветра.

Сядзелі моўчкі, толькі нехта крактануў пра тое, што пара сёння добрая, мяккая, заўсёды варта прыходзіць у гэты час, а не пазней. Я не звярнуў увагі на таго, хто гаварыў, вочы мае былі шчыльна заплюшчаныя. Мы не ведалі ні імёнаў, ні прозвішчаў адзін аднаго, у гэткіх месцах не прынята адразу знаёміцца. Хоць, прабачце, мой нябачны субяседнік і калега. Я зусім забыўся прадставіцца сам і вяду гаворку ад нейкага абстрактнага тыпажу — Піліп Мікалаевіч Карзуба. Пра астатняе вы ведаеце, альбо даведаецеся ў працэсе нашага знаёмства. Ёсць і яшчэ адзін варыянт, калі мы з вамі калегі, то вы вельмі проста (зноў жа, калі мы дакладна калегі і ў вас ёсць нядрэнныя сябры сярод іншых нашых калег, то вы зможаце пры жаданні нават патрымаць у руках маю асабістую справу).

Дык вось, у лазні панаваў пах эўкаліпта, ён ахінаў мяне з усіх бакоў, а чалавек (цяпер ужо са знаёмым голасам) зноў загаварыў:

— Мы плывём у невядомым напрамку. І гэта добра...

— А чаму гэта добра? — спытаў цяпер ужо другі голас.

Мне падалося, што гэта быў міжнародны каментатар, але я не паглядзеў у ягоны бок — вочы мае па-ранейшаму былі заплюшчаныя. Відаць, размова працягвалася даўно. І калі паспелі?!

— Таму што лепей плыць у невядомасць, чым у няправільным кірунку. Плывеш і ведаеш, што не туды. Але напрамак не мяняецца!..

Ніводнага слова ў адказ. Можа, той, другі, заўважыў, што побач з’явіўся я?!

Не ведаю, якія напрамкі яны мелі на ўвазе, але ў лазні на гэтую тэму (як і на многія іншыя — вы ведаеце чаму) лепш не размаўляць. Усе жыхары па доме адпачынку (гэтак мне здавалася) выдатна ведалі такую акалічнасць і дазвалялі сабе размаўляць у лазні толькі на бытавыя тэмы. Але, можа, яны якраз і маюць на ўвазе наша штодзённае хатняе існаванне?

Я адчуваў, як пот, прабіваючыся скрозь скуру, плыве ручайкамі па твары, шыі.

— Так, добрая пара, — кажу я міжволі.

— Можна і адпачыць, — гаворыць нехта нябачны. — Для пачатку хопіць...

*(Працяг на стар. 14—15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## "Вясеннія галасы"

**Пад такой назвай праходзіў у Мінску Міжнародны фестываль аўтарскай песні. На працягу двух дзён у памяшканні Рэспубліканскага Палаца культуры "Юнацтва" спаборнічалі прадстаўнікі з Мінска і Віцебска, Гомеля і Гродна, Маладзечна і Барысава, Магілёва і Калінінграда па розных намінацыях: выканаўцы, дуэты, ансамблі, кампазітары, аўтары. Журы ўзначаліў удзельнік вядомага дуэта Барыс Вайханскі.**

**Андрэй Каралёў з Віцебска выступаў у намінацыі "аўтар". У простых, трошкі наіўных словах было штосьці ад дзяцінства, ад юнацкай бесклапотнасці. Другі раз удзельнічае Андрэй у фестывалі аўтарскай песні. А пачыналася ўсё з турысцкіх паходаў па родным краі, калі быў яшчэ школьнікам. Цяпер ён выкладае ў школе англійскую мову і вучыцца на філфаку Віцебскага універсітэта.**

**Уладзімір Цвіка выступаў як аўтар, кампазітар. Па прафесіі настаўнік рускай мовы і літаратуры, ён кіруе студыяй аўтарскай песні культурнага цэнтра. Уразіў яго прыгожы, добра пастаўлены голас, меладычнасць ягоных песень і цудоўнае валоданне гітарай. Не дзіўна, што журы абрала яго для ўдзелу ў фестывалі "Пецярбургскі акорд".**

**Вольгу Залескую лічылі прадстаўніцай і Віцебска і Мінска, дзе яна часова жыла. Як прызналася сама, родным горадам называе Віцебск, куды зноў вярнулася. "Колькі сябе памятаю, амаль з дзяцінства пішу вершы, — гаворыць Вольга. — Вучылася ў музычнай школе і паступова пачала перакладаць на музыку сваю паэзію". У 1990-м яны стала лаўрэатам Усесаюзнага фестывалю ў Кіеве. З часам напісала больш як 120 песень. Але доўгія восем гадоў не выступала. Таму сёлета вельмі хвалявалася. Але журналістку Вольгу Залескую журы таксама вылучыла для ўдзелу ў фестывалі "Пецярбургскі акорд".**

**Спаборніцтва сярод дуэтаў выйгралі прадстаўніцы з Мінска Алена Пільнікава ды Алена Дзіхціеўская, якія з захапленнем выконвалі свой рэпертуар, яны таксама паедуць у Санкт-Пецярбург.**

**Лаўрэату, дыпламанту шматлікіх фестываляў трыо "Фіеста" не было з кім сапернічаць. Пасля яркага, прыгожага выступлення ў гала-канцэрце ансамбль быў названы ў ліку ўдзельнікаў пецярбургскага фестывалю.**

**З амаль што трыццаці ўдзельнікаў конкурсу па намінацыі "аўтар" толькі двое спявалі на роднай беларускай мове. І абодва — прадстаўнікі Магілёва. Адзін з іх, неўрапатолаг Васіль Аўраменка (дарэчы, няштатны аўтар "ЛіМа") піша песні як на свае вершы, так і на тэксты іншых паэтаў. У яго каля трыццаці песень. Прыгожы тэкст, яркія вобразы, сакавітая беларуская мова, яркія мелодыі, творчыя знаходкі, здаецца, нікога не пакінулі абыякавым.**

**Вось толькі шкада, што ў некаторых членаў журы існуе нейкая прадузятая думка супраць выканання на беларускай мове. Здаецца, што менавіта гэта перашкодзіла ўключыць таленавітага аўтара-спевака з Магілёва ў спіс удзельнікаў пецярбургскага фестывалю. Маўляў, там, у горадзе на Няве, дзе ў журы толькі прадстаўнікі Расіі, нашых не зауважаць, не зразумеюць. Але, па-першае, беларуская мова досыць зразумелая для ўсіх славян. Па-другое, калі ўсё ж не зразумеюць, можна прадставіць тэкст і па-руску.**

**Тое, што ў Беларусі прайшоў увогуле змястоўны Міжнародны фестываль аўтарскай песні, — заслуга яго арганізатараў і ў першую чаргу кіраўніка клуба аўтарскай песні Рэспубліканскага Палаца культуры "Юнацтва" Алы Бляяўскай. Яна і сама, разам з членамі журы, паспяхова выступіла ў заключным канцэрце, парадавала слухачоў сваім прыгожым голасам.**

**Вера КРОЗ**

## Па п'есе Алены Паповай



**Беларускі акадэмічны драматычны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебску ажыццявіў прэм'еру спектакля "...Таму што люблю" па п'есе Алены Паповай "Дзень карабля".**

*На здымку: пастаноўшчык спектакля Віталь Баркоўскі.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛТА*

# Час, занатаваны ў помніках

### МАНУМЕНТАЛЬНАЯ ПЛАСТЫКА МІНСКА АПОШНІХ ГАДОЎ

Як адбіваецца наш час у манументальнай аздобе Мінска? Ці ўваходзіць ён у гістарычны кантэкст сталіцы? У якой ступені адпавядае genuis loci — духу месца? Наш час — межавы, разломны. Яшчэ дзесяць гадоў таму ідэалагічныя арыенціры манументальнага мастацтва былі зусім іншымі. А мастацтва гэтае досыць спецыфічнае. Яно не так хутка рэагуе на сацыяльныя змены, як, скажам, сродкі масавай інфармацыі. Каб у гэтай галіне нешта змянілася, трэба час.

Праца мастака-манументаліста надзвычай складаная. Найперш з прычыны тэхнічных і матэрыяльных праблем, а таксама праблем сацыяльна-ідэалагічных. Чалавеку далёкаму ад мастацтва часам цяжка нават уявіць, што хаваецца пад бачнай часткай "айсберга". А гэта афармленне заказа, фінансаванне, здабыццё матэрыялу, адліўка і транспарціроўка, нарэшце вырашэнне архітэктурна-горадабудаўнічай сітуацыі. Таму іншым разам падаецца амаль неверагодным, што ў перыяд глыбокага ідэалагічнага і эканамічнага крызісу, у якім знаходзіцца наша грамадства на працягу 1990-х гадоў, у гістарычным цэнтры Мінска з'явілася некалькі манументальных твораў мемарыяльнага характару, у адносінах да якіх пэўную пратэкцыйнасць ролю адыгрывала Рэспубліканскае Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

6 жніўня 1993 г. у Траецкім прадмесці Мінска, на рагу вуліцы Максіма Багдановіча і ўзбярэжнай Свіслачы, быў адкрыты скульптурны помнік выдатнаму беларускаму мастаку і краязнаўцу Язэпу Драздовічу (скульптар І. Голубеў, архітэктар В. Марухін). Гэта даніна памяці не проста таленавітаму мастаку — асоба Я. Драздовіча стала адным з сімвалаў беларускага духоўнага Адраджэння.

Творчасць Я. Драздовіча унікальная і адначасова традыцыйная, наіўная і мудрая, рэалістычная і сімвалічная.

Жыццёвы шлях Я. Драздовіча праходзіў і праз Мінск. Тут на пачатку грамадзянскай вайны Драздовіч працаваў мастаком у беларускім літаратурным выдавецкім аддзеле камісарыята асветы, браў удзел у афармленні першага ў Савецкай Беларусі буквара-лемантара. На Траецкай гары на левабярэжжы Свіслачы знаходзілася вышэйшая жаночая школа, у якой ён выкладаў маляванне. Паблізу тых мясцін, дзе мастак любіў блукаць аглядаючы краявіды старога Менска, яму ўстаноўлены помнік. Здаецца, інакш і быць не магло. Але гэта толькі здаецца... Некалькі гадоў адліта ў бронзе скульптурная кампазіцыя, прысвечаная Я. Драздовічу, з сімвалічнай назвай "Вечны вандроўнік", не магла знайсці свайго месца ў горадзе, і спатрэбіліся значныя намаганні грамадскасці, каб помнік, у рэшце рэшт, паўстаў. Ведаючы ўсе акалічнасці стварэння і ўстаноўкі помніка, я яшчэ больш пераконваюся, што не толькі над зямным быццём, але і над памяццю Язэпа Драздовіча доўжыцца змаганне касмічных сіл Дабра і Зла.

Складаная па задуме скульптурная кампазіцыя "Вечны вандроўнік" была дыпломнай працай Ігара Голубева. Маладому скульптару ўдалося перадаць не толькі партрэтнае падабенства, але сутнасць гэтага творцы: высокі ідэалізм, чысціню душы, свядомую самаахвярнасць. Постаць мастака-вандроўніка ў сціплай сялянскай вопратцы ўкрывае дрэва-мроя, у кроне якога гурвасцяцца знаёмыя сілуэты вежаў беларускіх замкаў і храмаў побач з касмічнымі летуценнямі. Вельмі не простымі для скульптурнай пластыкі сродкамі раскрыты ўласцівыя для светапогляду Драздовіча суіснаванне рэальнага і фантастычнага, яго невычэрпная любоў да роднага краю і жыццё па законах Хрыста.



Аднак стаўленне да помніка Я. Драздовічу неадназначнае. Ёсць аналітыкі ад мастацтвазнаўства, якія бачаць у ім "старога, што выходзіць з крамы". Я лічу гэта відавочным блюзнерствам. На мой погляд, пластычная выразнасць і адпаведнасць скульптурнай кампазіцыі духоўнаму свету і творчаму крэда Я. Драздовіча амаль бездакорныя. Але гэта не азначае, што пытанняў няма... Як архітэктар, я пераканана, што помніку бракуе вырашэння адэкватнага архітэктурна-горадабудаўнічай сітуацыі. Не вырашана пытанне сумаштабнасці з навакольным асярод-

ВЕРСІІ

# Смерць Моцарта — рытуальнае масонскае забойства?

### АРГУМЕНТЫ АЛЯКСАНДРА ПУШКІНА І АНТОНІЯ РАДЗІВІЛА

***Ці можа мастацкі твор быць дакументам абвінавачвання пры расследаванні прычын смерці чалавека?***

***У маладосці Іван Паўлаў, праслухаўшы оперу "Барыс Гадуноў", заўважыў: "У сцэне смерці цара Барыса даецца клінічна дакладная карціна смерці ад грудной жабы"; як кажуць сёння — ад стэнакардыі. Фантазійная гіпотэза кампазітара Мусаргскага экспертна пацверджана выдатным навукоўцам. Зразумела, нам невядомыя прычыны смерці Барыса Гадунова, але тое, што мастацкі твор можа не толькі ў мастацкай, але і ў "клінічна дакладнай" форме зафіксаваць дыягназ — гэта факт бясспрэчны...***

I

Праз тыдзень пасля пахавання Моцарта па Вене папаўзлі чуткі пра магчыма гвалтоўную смерць кампазітара з-за атручвання. Спрэчкі пра загадкавае сканание венскага генія з таго часу не сціхаюць. "Сукупнасць усіх даступных дадзеных пра гэтае злачынства ўтрымліваецца ў двух кнігах, што апублікавалі ў г. Пэле (ФРГ) тры дактары медыцыны: Ёганэс Дальхоў, Гунтар Дуда і Дзітар Кернер ("В. А. Моцарт. Дакументацыя ягонай смерці" (1966) і "Смерць Моцарта" (1971). Доктару Кернеру належыць таксама апублікаваная ў канцы 1969 г. праца пра "Моцарта і Сальеры" Аляксандра Пушкіна, у якой падкрэсліваецца гістарычная дакладнасць сюжэтнай асновы гэтай трагедыі, энцыклапедычнасць інтарэсаў і ведаў вялікага паэта і дадаецца, што "ён ведаў многа, мабыць, зашмат многа...")

Трагедыя Пушкіна цалкам змешчана ў нямецкім выданні вышэйзгаданай кнігі, як адзін з неабвержных доказаў абвінавачвання Сальеры ў атручванні ім Моцарта. Што ж пераканала дактароў у творы Пушкіна? Вось гэтыя радкі, найперш:

*Ты, Моцарт, Бог, и сам того не знаешь*
*Я знаю, я!..*
*Вот яд, последний дар моей Изоры,*
*Осьмнадцать лет ношу его с собой...*

Значыць, на думку Пушкіна, Моцарт — Бог музыкі, які стаў ахвярай атручвання ядам, што быў прыгатаваны за 18 гадоў да здзяйснення злачынства. Запомнім гэту лічбу.

II

Чаму Антоні Радзівіл выкарыстаў Прэлюдыю і фугу c-moll В. Моцарта ў якасці ўверцюры да свайго "Фаўста"? Чаму не напісаў сваю? Кампазітар, які ўзяўся стварыць такую оперу, як "Фауст", які з бляскам справіўся з гэтай задачай, — каб такі кампазітар не мог напісаць да свайго твора уверцюру?!

Выбар фугі Моцарта — акт абсалютна ўсвядомлены, безумоўна ўхвалёны Гётэ, які неадноўчы гаварыў свайму асабістаму сакратару Экерману: "Моцарт — вось хто мог бы напісаць музыку да "Фаўста". Дарэчы, Гётэ, які ніколі да "Фаўста" і ніколі пасля ўвасаблення гэтага твора Радзівілам ні з кім з кампазітараў не супрацоўнічаў у якасці опернага лібрэтыста, прыняў ідэю, прапанаваную князем Антоніем адразу ж, без абумовак.

Бясспрэчна, за тытулам "Радзівіл — Гётэ — Фауст" стаіць абсалютнае разуменне кампазітарам і паэтам адно аднаго. Моцарт, яго духоўная аўра засёды вабіла і Гётэ і Радзівіла. Менавіта гэта абумовіла выкарыстанне ў партытуры "Фаўста" музыкі Моцарта ў якасці знака, сімвала.

"Чарадзейная флейта" — апошні оперны твор Моцарта — сталася яго духоўным завяшчаннем свету. Гётэ выказваў жаданне пісаць для кампазітара другую (літаратурную, зразумела) частку "Чарадзейнай флейты". Але смерць Моцарта адабрала ў чалавецтва магчымасць пачуць вынік супрацоўніцтва двух геніяў. Падаецца, што твор Гётэ — Радзівіла і быў... другой часткай "Чарадзейнай флейты". Напісанай без Моцарта, але, так скажам, "пад знакам Моцарта", філасофскім увасабленнем другой часткі ненапісанай Гётэ дылогіі.

С-moll-ную фугу Моцарта музыказнаўства ўжо ў XX ст. ахарактарызавала як фаўстаўскую. Радзівіл і Гётэ першымі зразумелі яе значэнне і, узяўшы ў якасці уверцюры да свайго твора, замацавалі тым самым узаемасувязь з духам Моцарта, — яго стваральным (Боскім — адсюль фуга) пачаткам творчасці дзеля ідэалаў Веры, Любові, Натхнёнага Дару.

III

Літаратурнаму "Фаўсту" папярэднічае Пралог, што складаецца з трох частак, трох раздзелаў: Прысвячэнне, Пралог у тэатры; Пралог на Небе.

Музычны (дзейсны) "Фауст" папярэджвае уверцюра, якая складаецца з чатырох раздзелаў: Уступ — музыка Радзівіла (парафраз на музыку Моцарта); Прэлюдыя і Фуга Моцарта; Завяршэнне — зноў музыка Радзівіла.

Калі разумець уверцюру як аналаг літаратурнага Пралога, то атрымліваецца, што:

| | | |
|---|---|---|
| Уступ Радзівіла | ёсць | Прысвячэнне |
| Прэлюдыя Моцарта | ёсць | Пралог у тэатры |
| Фуга Моцарта | ёсць | Пралог на Небе. |

Што сабой уяўляе Завяршэнне уверцюры? Па-першае — ракаход Уступа. Форма уверцюры дзякуючы гэтаму атрымлівае закончаны, збалансаваны выгляд, але...

Па-другое, гэта ж — Прысвячэнне. Прысвячэннем уверцюра пачынаецца, Прысвячэннем завяршаецца. Прысвячэннем каму? У Гётэ — сябрам на "Sturm und Drang", а ў Радзівіла?

На пачатку уверцюры Радзівілам напісана 9 тактаў, на заканчэнні — 13, але апошнія чатыры такты — звычайная рыторыка завяршэння. Поўнасцю супадаюць першыя 9 тактаў. Лічым, 9+9=18(!). Гэтая лічба дае нам адказ на пытанне, каму прысвячаў свайго "Фаўста" Антоні Радзівіл, Моцарту.

Крочачы па слядах Радзівілавай сімволікі (Фуга — ёсць Пралог на Небе) можна беспа-

дзем. Занадта груваcткія прыступкі п'едэстала, на якім ужо двойчы здымалі бронзавы надпіс-прысвячэнне. І ўсё ж павялічваць памеры скульптуры неабавязкова: гігантаманіяй мы, здаецца, ужо перахварэлі. Манументы горада зусім не павінны ўсе быць аднолькавага маштабу і ўспрымацца "пры руху па аўтамагістралі". Але, на маю думку, яркую і выразную скульптурную кампазіцыю неабходна было падтрымаць масай сцяны ці размясціць яе ў нішы. Так, напрыклад, блізкі па ідэйным змесце і маштабе помнік Крысцыёнасу Данілайцісу размешчаны ў нішы на сцяне будынка віленскага універсітэта (скульптар К. Багданас, 1964 г.). Падобныя нішы-табернакулы для разважання круглых скульптур шырока выкарыстоўваліся і ў нашым сакральным дойлідстве.

Пытанні маштабу і матэрыяльнай захаванасці больш рацыянальна вырашаны ў мемарыяльным комплексе, прысвечаным, па афіцыйнай версіі, "Сынам Айчыны, загінуўшым за яе межамі", а па сутнасці, ахвярам вайны ў Афганістане. Мемарыял размешчаны на процілеглым рагу Траецкага прадмесця, на выспе ў цячэнні Свіслачы. Урачыстае адкрыццё мемарыяла, створанага групай на чале са скульптарам Юрыем Паўлавым адбылося 3 ліпеня 1996 г. І зноў жа ў ім, як у люстры, адбіліся складаныя сацыяльныя праблемы апошняга дзесяцігоддзя, хаця і зусім іншага плана. Я не буду падрабязна ўспамінаць, які супраціў сустрэла сама ідэя помніка, месца яго размяшчэння, і тая акалічнасць, што аўтарскі калектыў з-за мяжы, з Украіны, — гэта справа ўжо мінулая. Але было і шмат прыхільнікаў. У выніку атрымаўся твор манументальнага мастацтва, які прызначаны для доўгага жыцця і захавання грамадскай памяці. Сапраўды, і непапулярнасць афганскай вайны (яе па аналогіі з в'етнамскай можна назваць "бруднай"), і віна дзяржавы перад загінуўшымі не зніжаюць грамадзянскую сацыяльнасць палеглых юнакоў, а таксама боль і смутак беларускіх мацярок. Ім і прысвечаны "храм-помнік" на "выспе слёз", дзе папярэдне была асвечана зямля, сабраная маці на магілах сваіх сыноў.

Ідэя "храма-помніка", як асновы жалобнага мемарыяльнага комплексу, літаральна лятала ў паветры на ўсіх магчымых мастацкіх конкурсах апошняга дзесяцігоддзя, пачынаючы ад конкурсу на Курапатах. На рэалізаваным прыкладзе ёсць падставы паразважаць пра яе слушнасць. Адразу паўстане пытанне: як разумець паняцці храм і помнік, напісаныя праз дэфіс? Што гэта — сапраўдны храм, сакральнае месца, дзе адбываецца літургія? Ці гэта — мемарыяльны знак, малая архітэктурная форма, якая толькі імітуе вобраз храма? Відавочна, што ў мемарыяльным збудаванні на "выспе слёз" галоўнай ідэяй было ўсё ж стварэнне каркаса-знака праваслаўнага храма, сілуэт якога выклікаў бы пэўныя асацыяцыі, хаця камусьці ён нагадвае звон, а камусьці — паніклую чатырохпялёсткавую кветку. Нельга не адзначыць, што гэта мемарыяльнае збудаванне мае выразную пластыку і дакладны маштаб адносна навакольнага асяроддзя, арганізуе ў адзіную панараму аморфную масу забудовы праспекта Машэрава, Палац спорту і яшчэ больш дыскрэтную забудову левабярэжжа Свіслачы. Аднак, як відома, архітэктоніка праваслаўнага храма, адпрацаваная літургічным канонам і традыцыяй, мае глыбокую рэлігійную сімволіку ва ўсіх сваіх формах і канструкцыях, што ў дадзеным выпадку цалкам праігнаравана.

У апошні час "храм-помнік" пачалі больш слушна называць капліцай, што не зняло, аднак, наяўнай супярэчнасці паміж архітэктурным вобразам і манументальнай аздобай аб'екта. У архітэктурным збудаванні, дзе галоўную ролю адыгрывае функцыя, вызначальнай з'яўляецца арганізацыя ўнутранай прасторы. Архітэктуру ўвогуле называюць прасторай, што апранута масай, ці, дакладней, падзеленая ёй. Схематычна гэта выглядае так: унутраная прастора — маса матэрыялу — вонкавая прастора. У той жа час у манументальным мастацтве, у прыватнасці скульптуры, маса суадносіцца пераважна з вонкавай прасторай, а прымусіць у ёй памастацку працаваць унутраную прастору даволі складана.

Каркас мемарыяльнага збудавання на "выспе слёз" складаецца з чатырох напаўзамкнёных каплічак, зверху асветленых ліхтарамі з каляровага шкла. Паміж сабою яны злучаны высокімі скразнымі аркамі, якія ўверсе аб'яднаны невялікім светлавым барабанам з купалам — чыста ўмоўным. Прастора свабодна перацякае праз касцяк архітэктурнай формы.

Аднак пры жаданні ўбачыць яе ўнутраную структуру (арыгінальныя фрэскавыя размалёўкі, бронзавыя рэльефы, імёны загінуўшых на сценах), наведвальніка паўсюдна сустракаюць краты. Звонку капліцы "апрануты" ў масіўныя пілоны з аднастайнымі шэрагамі скульптурных выяў смуткуючых жанчын пры ўсіх уваходах. Іх застылыя постаці з сумнымі тварамі ў вялікіх паніклых хустках, што сталі атрыбутам жанчын Вялікай Айчыннай вайны, залішне ўяўна нагадваюць аблічча жанчыны-маці з шырокавядомага мемарыяла ахвярам фашызму ў Пірчупісе (скульптар Г. Якубоніс, 1960 г.) і не адлюстроўваюць афганскай тэме. Да таго ж, колькасць і размяшчэнне фігур ператвараюць іх з вобраза-сімвала ў рытмічны элемент архітэктурна-скульптурнай пластыкі.



Увогуле мемарыял ахвярам афганскай вайны перанасычаны мастацкімі ідэямі, якія, "гаворачы" ўсе разам, супярэчаць адна адной. Тут і нацягнутыя струны ў самым цэнтры помніка, куды чамусьці пачалі кідаць грошы, як курортным русалкам і піфонам. Тут і каваныя краты, завершаныя коп'ямі і аздобленыя гербамі беларускіх гарадоў, а што гэта азначае — іх абаронцы ці агрэсіўны характар — невядома. Тут і сузіральны "японскі" сад камянёў з назвамі афганскіх гарадоў, і сцэла з маскіровачна-дэсантным мазаічным пакрыццём, і шматлікія надпісы. Гэта шматслоўе ідэй, матэрыялаў, тэхнік, фактур, на мой погляд, шкодзіць агульнаму мастацкаму ўражанню. Сітуацыю не выратоўвае прафесійнае майстэрства аўтараў мемарыяла. Сапраўды, найбольш шчырым з усяго выглядае "фантан слёз" з кволым хлопчыкам-анёлам. Магчыма, хапіла б яго аднаго... Шкада, што сакральнасць мемарыяла не іманентая, а знакавая.

27 верасня 1996 г. у дзень каталіцкага свята Архістратыга Міхаіла на плошчы Незалежнасці, у гісторыка-ахоўнай зоне касцёла святых Сымона і Алены (больш вядомага ў народзе як "Чырвоны касцёл") кардыналам Казімірам Свёнтакам і прадстаўніком папы Яна Паўла ІІ быў асвечаны, як сакральны, яшчэ адзін твор манументальнага мастацтва, ужо цалкам алегарычнага характару. Бронзавая скульптурная кампазіцыя вышынёю 4,5 і дыяметрам 3 метры (аўтар І. Голубеў) сімвалізуе перамогу нябеснага войска над сіламі цемры. Міхаіл-Арханёл з узнятымі ўгору крыламі пранізвае кап'ём шчэрачую пастку крылатага змея. Са старажытнасці Архістратыг Міхаіл лічыўся апекуном Беларусі і абаронцам яе шматпакутнага народа. Імклівы рух Арханёла з гнеўным рашучым тварам, раскіданымі пасмамі валасоў і расхінутымі крыламі, перадсмяротная агонія зрынутай пачвары надаюць кампазіцыі надзвычайны дынамізм і экспрэсію, пры захаванні агульнай мастацкай цэласнасці і ўнутранай логікі падзеі. Цікава, што "Міхаіл-Арханёл", створаны на спонсарскія сродкі, пастаўлены на галоўнай плошчы сталіцы па адной чырвонай лініі з помнікам Леніну перад Домам урада. Аб'екты розныя па ідэйным змесце, але з эстэтычнага боку яны зусім не супярэчаць адзін аднаму, складаючы разам са сваім архітэктурным асяроддзем два цалкам самастойныя і адметныя гісторыка-мастацкія комплексы, якія спалучаюцца па прынцыпе кантрасту.

Бясконцая гонка "за лідэрам", за кан'юнктурай, як заідэалагізаванай, так дэідэалагізаванай, характэрнай для мастацтва XX стагоддзя, прывяла да разбурэння традыцыяналісцкага метафізічнага духоўнага светаўспрымання. І гэта з усёй відавочнасцю, нашае грамадства адчула на ўласнай душы. Пошукі вышэйшага духоўнага пачатку ў манументальным мастацтве ў апошні час ажыццяўляюцца шляхам мэтанакіраванай сакралізацыі тэмы, ідэі, іншы раз у штучнай спекулятыўнай форме. Але дзе ёсць пошукі, там будуць і знаходкі.

**Тамара ГАБРУСЬ,**
**кандыдат архітэктуры**

---

мылкова адгадаць намер кампазітара: кожны раз, калі ён выкарыстоўвае музыку Моцарта, ці стварае алюзію на яе, гэта будзе не што іншае, як прысутнасць Усявышняга ў дзеянні, ці "выяўленне Ягонай Волі" (Н. Собалева).

Вось прыклады.

Сцэна ў садзе. Марта Швэрдляйн з'яўляецца з музыкай — алюзіяй пачатку І карціны "Чарадзейнай флейты", дзе за Таміна гоніцца змей. У Радзівіла — змей, дакладней змяя (Марта) спакушае Грэтхен аваладаць скарбамі, якія ёй не належаць, і выконвае тым самым функцыю біблейскага змея.

Марта і Мефістофель з'яўляюцца пад музыку менуэта з "Дон Жуана". Выкарыстанне гэтай цытаты не вымагае слоў і ўчынкаў для канкрэтызацыі ўзаемаадносін абодвух персанажаў. Менуэт Моцарта ў дадзеным кантэксце — сімвал парушэння хрысціянскай запаведзі, якой пагрэбаваў Дон Жуан — а, значыць, Марта і, зразумела, Мефістофель.

Сцэна ў храме (Requiem). Эпізод Tuba mirum выкладзены Радзівілам тым самым рытмічным малюнкам (нават адчуваецца меладыйнае падабенства), што і тэма Tuba mirum у Requiem'е Моцарта. Музыка Requiem'а Радзівіла гучыць як воля Госпада, які дарые Грэтхен ейныя правіны. Зноў праз знак Моцарта мы судакранаемся з бібліяй, на гэты раз з Новым Запаветам: шукайце — і знойдзеце, стукайцеся — і будзе адчынена вам.

Апошні эпізод "Фаўста" — сцэна ў турме. Тэма хору анёлаў, якія абвяшчаюць Уратаванне Грэтхен, ёсць алюзія на заключны хор (у тым ліку жрацоў Храма Мудрасці) з "Чарадзейнай флейты". Дарэчы, гэта мажорны варыянт першай тэмы Прэлюдый з Уверцюры, якая таксама належыць Моцарту.

Боская і д'ябальская сферы Радзівілам разведзены нават танальна: Боская сфера — Уверцюра — танальнасць до мінор.

Д'ябальская сфера — заклінанні Мефістофеля — танальнасць фа-дзіез мажор.

Цікава, што ноты "до" і "фа-дзіез" знаходзяцца паміж сабою ў трытонавым суадносенні — самым напружаным сярод інтэрвальных спалучэнняў ноты "до" з іншымі нотамі гукарада.

Радзівіл свядома развёў "Боскае" і "д'ябальскае" ў паралельныя суадносіны, дзе рысы не перакрыжоўваюцца.

Самы час успомніць радок з Пушкіна:

"Ты, Моцарт, Бог, и сам того не знаешь..."

IV

"Чарадзейная флейта" — твор, як вядома, прасякнуты масонскай сімволікай. Моцарт належаў да венскай масонскай ложы "Зноў увянчанай надзеі", для якой напісаў свой апошні ў жыцці твор — "Маленькую масонскую кантату". Масонам быў і Гётэ. III акт другой часткі "Фаўста" паэт прызначаў для выканання: першай паловы — лепшымі трагічнымі акцёрамі, другой — опернай, — лепшымі спевакамі і спявачкамі (гл. "Размовы з Экерманам" Гётэ Ё. В. за 25. 1. 1827). Як бачым, Гётэ мысліў гэты эпізод як оперу, ён назваў Экерману і ўзор — "Чарадзейную флейту" Моцарта.

І Моцарт, і Гётэ мелі планы стварэння новых масонскіх арганізацый, угрунтаваных больш дэмакратычна — дзеля руху наперад. У сваіх ложах абодва займалі амаль самыя высокія пасады. Як вядома, быў масонам і Аляксандр Пушкін.

Звернемся да загадкавай лічбы "18" і паглядзім, якое дачыненне мае яна да Моцарта.

Існуюць некалькі версій смерці В. А. Моцарта. Адна з іх сцвярджае: было рытуальнае забойства кампазітара сябрамі венскай масонскай ложы. Сэнс забойства ў паўторы наступстваў гвалтоўнай смерці Хрыста: ягонае вучэнне пры жыцці Ісуса Хрыста не мела таго ўплыву на розумы (не тое, што чалавецтва, але нават адносна вялікай колькасці людзей), якое атрымала хрысціянства пасля смерці Збавіцеля. На думку забойцаў Моцарта (маю на ўвазе версію), эстэтыка мастацтва найвялікай якасці, носьбітам якой быў венскі геній, мусіла атрымаць магутнае рапаўсюджванне пасля, і ў сувязі, з раптоўнай смерцю кампазітара. Так яно і здарылася.

Але ж якое дачыненне да гэтага маюць забойцы Моцарта? Уплыў Моцарта на мастацтва ва ўсім свеце быў даволі значны ўжо пры жыцці кампазітара!

Антыгуманныя сродкі выканання "гуманнай" задачы настолькі відавочныя, што не вытрымліваюць аніякай крытыкі, не ўкладваюцца ў межы здаровага сэнсу. Тым не менш — версія ёсць версія, і мы павінны яе разгледзець.

Зайздроснікі Моцарта, вядома ж, хацелі нейкім чынам схаваць сапраўдную сутнасць свайго злачынства за рытуалам. А масонства заўсёды прытрымлівалася сімвалаў і рытуалаў.

Згодна з сімволікай лічбаў атрымліваецца наступнае.

Моцарт нарадзіўся пад знакам Меркурыя (лічбавае выражэнне знака Меркурыя — 18). Значыць, і смерць Моцарта павінна была адбыцца ў XVIII (а не ў XIX) стагоддзі і не раней ці пазней 1791 года (1+7+9+1=18). Дарэчы, Моцарт (ён быў масонам, як і ягоныя забойцы) і сам цікавіўся сімволікай лічбаў, у прыватнасці, лічбы "18". Гэта відаць і ў ягоных творах: так, Зарастра ў "Чарадзейнай флейце" ўпершыню з'яўляецца на сцэне ў N 18. Уся опера прасякнута масонскімі рытуаламі. (Хто ж такі Зарастра — магістр ложы?) Папагене, паводле ейных слоў, 18 гадоў і 2 хвіліны. Апошні свой твор — "Масонскую кантату" — Моцарт напісаў на 18-ці партытурных аркушах. Прэм'ера кантаты адбылася (іронія лёсу!) 18 лістапада 1791 года. На наступны дзень Моцарт злёг канчаткова ў ложак — хвароў ён ужо амаль паўгода (180! дзён). На 18-ты дзень пасля прэм'еры, апошняй у жыцці кампазітара, ён быў пахаваны. Пражыў Моцарт 36 гадоў, а гэта — 18+18! Калі быць ужо абсалютна дакладным, дык трэба дадаць, што да 36-га свайго дня нараджэння Моцарт не дажыў 54 дні, ці 18+18+18.

Забойства ўчынена. Злачынцы павінны былі здавольіцца — яны стварылі новага Хрыста, у якога, адпаведна ідэі забойства, ёсць толькі адносна вядомае месца пахавання, а магілы няма.

"Ты, Моцарт, Бог, и сам того не знаешь. [А] я знаю..."

Такая інтэрпрэтацыя гэтага фрагмента паэмы Пушкіна больш чым відавочна паказвае на ўдзел Сальеры (на думку Пушкіна) у забойстве Моцарта ці то ў якасці натхняльніка, ці то ў якасці выканаўцы.

"Вот яд — последний дар моей Изоры **Осьмнадцать** лет ношу его с собой".

Цікавую інфармацыю ўклаў у вусны Сальеры Пушкін. Што гэта за атрута, пра якую вядзе гаворку зайздроснік? Даследаванні нямецкіх навукоўцаў сведчаць, што атручаны Моцарт быў хімікатам, у які ўваходзіць іртуць. У Мендзялеўскі час у хімічнай табліцы яна значылася пад нумарам... 18! Доследы пацвердзілі і слушнасць пушкінскага сцвярджэння: сапраўды, да 1791 года пярсцёнак, у якім Сальеры хаваў атруту, належаў яму 18 гадоў.

Сведчанняў знаёмства Пушкіна з Антоніем Радзівілам я не знайшоў, хаця гіпатэтычна гэта і магчыма. Радзівіл жа неадназова бываў у Пецярбурзе. Тым не менш, хутчэй за ўсё, знаёмыя яны не былі. Атрымліваецца, што два мастакі, якія жылі ў розных краінах, самастойна схавалі ў сваіх творах ідэнтычныя сведчанні:, у абодвух творах Моцарт — Бог, у абодвух творах ёсць лічба "18". Відавочна, абодва прытрымліваліся (ці ведалі напэўна?) менавіта гэтай версіі смерці Моцарта.

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

# Беларускія песні ў Празе

Наша песня не была чужой чэшскаму этнамузыколагу Людвіку Кубу. Лёс наканаваў яму доўгае жыццё — пражыў 93 гады. Нарадзіўся ж ён 16 красавіка 1863 года — 135 гадоў таму назад. І не лішне нагадаць, што Л. Куба адзін з першых пачаў даследаваць музычныя асаблівасці беларускай народнай песні. Яшчэ ў 1887 годзе ён выдаў у Празе "Беларускія народныя песні" з нотамі. Увогуле, вялікую каштоўнасць уяўляюць працы Л. Кубы "Славянства ў сваіх песнях", якія ён выдаваў з 1884 года. У іх, акрамя нотных узораў, колькасць якіх дасягае каля 4 тысяч, змешчаны апісанні мясцовых манер спеваў, побыту, народнага дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва. У 1886 і 1887 гадах Л. Куба наведваў Расію, Беларусь, Украіну.

**Н.К.**

# Свет радасці і музыкі

Цэнтральную выставачную залу г. Гомеля ўпрыгожыла экспазіцыя работ мясцовай акварэлісткі, члена Беларускага саюза мастакоў Марыі Ягоравай. На працягу сарака гадоў гэтая мастачка плённа працуе ў тэхніцы акварэлі. Яе творы прасякнутыя тонкім лірызмам, напоўненыя святлом.

Адным з галоўных жанраў у творчасці мастачкі з'яўляецца дзіцячы партрэт. Яна прадставіла на выставу вялікую серыю работ, у якіх хлапчукі і дзяўчынкі мараць, шукаюць шляхі ў самастойнае жыццё. У партрэтах "Алёша", "Юны Моцарт", "Натхненне" і іншых Марыя Ягорава перадае творчую ўзнёсласць сваіх юных герояў, іх любоў да музыкі. Марыя Карпаўна са сваім мужам Валянцінам Серафімавічам, дарэчы, таксама мастаком, пабывала ў розных кутках роднай Гомельшчыны, якія яна адлюстравала ў пейзажах. Кранаюць сэрца і нацюрморты Марыі Карпаўны. У іх — звон вясны і лета, вогненныя акорды восені глыбіня колернага ладу. У іх — песня беларускага краю.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## Для літаратуры няма правінцыі

СВЯТЛАНЕ КУРЫЛЁВАЙ — 70

**Нарадзілася Святлана Леанідаўна ў горадзе Жытоміры (Украіна) у сям'і вайеннаслужачага. Бацька памёр ад туберкулёзу, калі дзяўчынцы споўнілася трынаццаць гадоў. Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, С. Курылёва з маці была эвакуіравана ў Перм (Расія), затым у Казахстан. У 1944 годзе вярнулася на Украіну, скончыла сярэднюю школу ў Харкаве, а ў 1950 годзе — філалагічны факультэт Харкаўскага дзяржаўнага універсітэта і атрымала накіраванне ў Беларусь. З гэтага ж года да 1982-га выкладала рускую мову і літаратуру ў Камянецкай сярэдняй школе. З першымі матэрыяламі выступіла на старонках абласной газеты "Заря" ў 1952 годзе, а з 1960-га публікуецца і ў рэспубліканскім друку. Піша на рускай мове. Першая кніга "Жаворонок на улице" выйшла ў 1965 годзе. На творчым рахунку С.Курылёвай такія кнігі, як "И нелегко и непросто" (1975), "Формула успеха" (1979), "Доброта" (1983), "Самый короткий день" (1987)... Для пісьменніцы характэрна пільная ўвага да нашага сучасніка, уменне ўзнімаць надзённыя праблемы жыцця, у першую чаргу маральна-этычнага плана.**

**З 70-годдзем, шаноўная Святлана Леанідаўна! Поспехаў Вам ва ўсім!**

## Яго прыцягвала Палессе

**15 красавіка вядомаму рускаму-філолагу-славісту, акадэміку Расійскай і Аўстрыйскай акадэмій навук, Македонскай акадэміі навук і мастацтваў Мікіту Талстому споўнілася б 75 гадоў. На жаль, Мікіта Ільіч не дажыў да гэтага ўзросту, памёр у 1996 годзе. М. Талстой даследаваў гісторыю славянскіх літаратурных моў, а таксама вывучаў славянскую дыялекталогію, тапаніміку і этнаграфію. Пры гэтым у сваіх працах часта выкарыстоўваў беларускі матэрыял. І не столькі тое, што было напісана іншымі. У 1962—1965 і ў 1974—1981 гадах ён узначальваў экспедыцыю, якая займалася вывучэннем гаворак Беларускага Палесся, традыцый духоўнай культуры гэтага рэгіёна. М. Талстой быў рэдактарам і сааўтарам зборнікаў "Лексіка Палесся. Матэрыялы для палескага дыялектнага слоўніка" і "Палессе: Лінгвістыка. Археалогія. Тапаніміка", якія выйшлі ў 1968 годзе.**

## Чысцец для мовы

**Беларуская мова за часы чужаземнага панавання зазнала безліч нападаў на свой малаўмацаваны дзяржаўнымі падпорамі дом. Зачынялі на засаўку дзверы — незычлівы сусед лез у вокны, стульвалі аканіцы — плішчыўся праз комін. І пралазіў, і наводзіў свае парадкі ў хаце.**

**Ці не таму і сёння наша родная мова засмечана шматлікімі запазычаннямі, як гарод пырнікам. А чытаць некаторыя беларускія газеты, слухаць дзяржаўныя тэлебачанне і радыё проста невыносна — пра гэта сказана і паўторана многа разоў. І гэткае ганебнае становішча выправіць у бліжэйшы час наўрад ці ўдасца — не да пацераў, калі хата гарыць.**

**І ўсё ж ёсць рупліўцы, якія і ў наш адчайны час не сядзяць склаўшы рукі. Прафесар Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта Павел Сцяцко не адзін дзесятак гадоў змагаецца за чысціню роднага слова. Нядаўна ў Гродне пабачыла свет яго кніга "Праблемы нормы, культуры мовы". Грунтоўны і з навуковага боку, і паводле аб'ёму (амаль тры сотні старонак) навучальны дапаможнік разлічаны ў першую чаргу на студэнтаў. А мне ён бачыцца настольнай кнігай у кожнага журналіста, акцёра і нават пісьменніка. Шкада, што наклад гэтага ўнікальнага выдання ўсяго 200 асобнікаў, які імгненна раскупілі галоўнейшыя навучальныя ўстановы і бібліятэкі нашай краіны. Аднак верыцца, што як толькі беларуская дзяржава стане на ногі і, як належыць, зверне ўвагу на жахлівы стан зрусіфікаванай беларускай мовы, якой, безумоўна, спатрэбіцца чысцец, першы падручнік, які выдадуць мільённым тыражом для ўсіх без выключэння службоўцаў і ўрадоўцаў, будзе гэтая кніга П. Сцяцко.**

**Я. ЗЭЛЬВІЧ**

ВІНШУЕМ!

# Малады, бо... з маладымі

## Алесю МАСАРЭНКУ — 60

Канечне ж, шэсцьдзесят — гэта не пяцьдзесят і тым больш не сорак. Сцвярджаць, як чалавек адчувае сябе ў шэсцьдзесят, не бяруся — дай Божа, як кажуць, дажыць. А што да таго, як пачувае сябе Алесь Масарэнка ў гэтым узросце, самому яму лепш ведаць. Мне ж здаецца — няблага. У прыватнасці, гледзячы на яго, стольki яму не дасі. Відаць, па той прычыне, што Алесь Герасімавіч няйначай знайшоў сапраўдны эліксір бадзёрасці і маладосці.

Калі дакладна знайшоў — сказаць не магу. Ён звычайна самыя важныя свае сакрэты трымае, як кажуць, пры сабе. І роспыт у дадзеным выпадку нічога пэўнага не дасць. А.Масарэнка толькі будзе цвёрда трымацца, нібыта той "юнак на допросе", і гэтак загадкава, гледзячы табе ў самыя вочы (не ведаў бы яго, дык падумаў бы, што самая як ні ёсць святая наіўнасць перад табой!), будзе ўсміхацца. Маўляў, як хочаш, так і разумей гэтае маўчанне. Ці ўсё ж нейкі сакрэт у мяне ёсць, ці яго зусім няма і не было — гэта ўжо гледзячы на тваё ўспрыманне.

Тым не менш, некаторыя адзнакі Масарэнкавага амаладжэння пачалі назірацца недзе пачынаючы з 1989 года. А калі ўспомніць, што менавіта ў гэтым годзе ён стаў працаваць літаратурным кансультантам рэдакцыі газеты "Чырвоная змена", дык, відаць, выглумачваць усё трэба спрыяльнай атмасферай, што склалася ў калектыве. Хоць, калі разважыць, даводзілася яму і ў іншых калектывах працаваць (у прыватнасці, у штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва", выдавецтве "Беларусь", часопісе "Полымя" ды і гэты яго "заход" у "Чырвоную змену" быў не першым; чырвоназменаўцам ён станавіўся і ў канцы 60-х гадоў), дзе гэтаксама спрыяльная творчая атмасфера, але чамусьці выглядаў усё ж на свой тагачасны ўзрост. А цяпер чалавека — нібы падмянілі: узяў раптам дый памаладзеў, скінуўшы з плячэй гадкоў гэтак з... шчаць!

У чым тут справа? А ў тым, што, кансультуючы аўтараў "Чырвонай змены", А.Масарэнка неўзабаве адчаваў добрую традыцыю, што існавала пры рэдакцыі гэтай маладзёжнай газеты не адно дзесяцігоддзе, а потым чамусьці забылася. Пры ім зноў пачало працаваць літаратурнае аб'яднанне "Крыніцы". А калі пастаянна знаходзішся ля бруістых крыніц, ніякія лекі для падтрымання здароўя непатрэбны. А да ўсяго ў гэтыя самыя "Крыніцы" столькі моладзі завітвала! Маладыя празаікі, маладыя крытыкі, маладыя драматургі. І, канечне ж, маладыя, а то і зусім юныя паэтэсы. Хіба ў такім асяродку Алесь Герасімавіч мог прызнацца, што яму ўжо за пяцьдзесят?! Зразумела, не! І ён, расправіўшы па-маладому крылы, пачаў кансультаваць. Празаікаў, крытыкаў, драматургаў і, зразумела, паэтэс...

І праца гэтая яму настолькі спадабалася, што, каб не цярпець поруч канкурэнтаў (кансультантамі ў маладзёжнай газеце, зразумела, не супраць стаць многія), вырашыў ён пусціцца ў самастойнае плаванне па вірлівых хвалях жыцця і творчасці. Аднаму А.Масарэнку ведома, якіх неймаверных высілкаў яму каштавала, каб дабіцца нараджэння часопіса для самых маладых літаратараў. Але ў рэшце рэшт ён з'явіўся і цяпер усе яго добра ведаюць — "Першацвет". І, канечне, А.Масарэнка стаў ягоным галоўным рэдактарам, па сённяшні дзень працягваючы ўдзячную працу па выхаванні маладых талентаў. А каб выхаваць іх, трэба спачатку знайсці, падтрымаць. І ён шукае, і ён знаходзіць, і ён падтрымлівае.



А як шмат робіць ён у гэтым кірунку, можна пераканацца, калі перагарнуць нумары "Першацвета", якія выйшлі за гэты час. Разам сабраныя, яны складаюць унікальную бібліятэчку самай маладой беларускай літаратуры. Дарэчы, у чым чытачы ўпэўніліся, "Першацвет" заняўся і кнігавыданнем. Зразумела, сродкаў няма, таму першацветаўцы, дзякуючы ініцыятыве свайго галоўнага, знайшлі, як на сённяшні дзень, самае аптымальнае выйсце: пачалі з'яўляцца кнігі ў самім часопісе — паэзіі, прозы, крытыкі. І радасць для аўтараў — несумненная, і магчымасць А.Масарэнку лішні раз даказаць, што, працуючы з моладдзю, кансультуючы моладзь, нельга зважаць на гады. Калі сам будзеш малады душой і сэрцам, дык не пакінуць цябе ніколі маладыя памкненні і жаданні, а цяжар пражытых гадоў будзе адчувацца за спіной хіба што чыста намінальна.

Вось адкуль пастаянная маладосць Алеся Герасімавіча. Але ёсць для яе падставы і ў іншым. Жыццесцвярджальная, аптымістычная ў сваёй сутнасці і творчасць самога А. Масарэнкі. Асабліва алавяданні і аповесці, што ўвайшлі ў яго кнігі "Журавіны пад снегам" і "Сонца майго дня", у якіх столькі святла, сонечнасці, найперш, канечне, тады, калі аўтар піша пра харастве і чысціню людскіх узаемаадносін, пра вечную загадкавасць кахання.

Гэта, аднак, не значыць, што А. Масарэнка абыходзіць складаныя праблемы сучаснасці. Наадварот, яго проза закранае тыя надзённыя пытанні, без вырашэння якіх чалавеку не абысціся. Інакш разбурыцца асяродак, у якім ён існуе, разарвуцца, знікнуць спаконвечныя сувязі, раўнавага, што існуе ў свеце паміж усім жывым.

Надзіва актуальна гэтая тэма прагучала ў першай кнізе А. Масарэнкі, змест якой склала аповесць "На бабровых тонях". Менавіта ёй малады пісьменнік заявіў аб сабе, як аб творцы, які здатны быць першаадкрывальнікам, ступаючы ў асэнсаванні важкага жыццёвага матэрыялу па цаліку. Пабудаваная на дакументальным матэрыяле (бацька А. Масарэнкі ў свой час кіраваў аперацыяй па перасяленні баброў), аповесць вызначалася тонкім псіхалагізмам, умелай пабудовай сюжэта. І гэта пры ўсёй відавочнасці ў творы публіцыстычных матываў, але яны не кідаліся ў вочы, бо прысутнічалі ўнутрана, бо выяўляліся ў самой пазіцыі аўтара і пазіцыі яго персанажаў, якія выступалі ў абароне жывога, у абароне прыроды.

Аповесць "На бабровых тонях" была перакладзена на рускую мову і выйшла ў выдавецтве "Детская литература" ў Маскве.

Алесь Масарэнка свае творы не піша ў прамым сэнсе гэтага слова. Ён, перш чым узяцца за пяро, найчасцей унутрана перажывае, асэнсоўваючы будучую задуму, як правіла, маючы перад сабой выразную дакументальную аснову. Зразумела, можна гаварыць пра перавагі і недахопы менавіта такога творчага метаду. Але А. Масарэнку гэта прыносіць жаданы плён. І справа не толькі ў аповесці "На бабровых тонях". Гэта тычыцца і рамана "Баргузінскае лета". Перш чым узяцца за яго, пісьменнік сам прайшоўся шляхамі-пуцявінамі сваіх герояў. Пакінуўшы на некалькі месяцаў звыклую журналісцкую і пісьменніцкую працу, ён паехаў у далёкае Забайкалле, у Бурацію, каб заняцца тым, чым займаюцца і героі "Бургузінскага лета" — будаваць "геадэзічныя пункты і трыянгуляцыйныя знакі ў раёнах БАМа".

А ў выніку і з'явіўся раман. І не на так званую вытворчую тэму, якая на той час у літаратуры была моднай і браццa за якую пісьменнікаў падахвочвалі не толькі партыйныя кіраўнікі, а і крытыкі. А раман пра само жыццё ва ўсіх яго складанасцях, раман пра пошукі чалавекам свайго месца ў жыцці. Магчыма, на сённяшні дзень у творы асобныя акцэнты былі б расстаўлены крыху інакш, але гэта не прымяншае мастацкія якасці рамана, напісанага праўдзіва, з добрым веданнем прадмета.

І іншыя творы А. Масарэнкі (у тым ліку і раман "Асцё і зерне", над якім ён цяпер працуе, урывак з якога "Чый ты сын, Міхалка" чытачы "ЛіМа" маглі прачытаць у нумары за 23 студзеня сёлетняга года), таксама народжаны з перажытага. Гэтым разам перажытага людзьмі, да жыццёвага вопыту якіх звярнуўся пісьменнік. І ён паспяхова асэнсоўвае гэту праўду жыцця, каб прыйсці да праўды мастацкай...

...Канечне ж, шэсцьдзесят — гэта не пяцьдзесят і тым больш не сорак. Але ж жывуць людзі. І да ста жывуць!

З днём нараджэння, Алесь Герасімавіч! Усяго табе таго, што ў гэты дзень і ў наступныя жадаеш сабе сам!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Крыж ля весніц...

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

бадзяжных беспрытульшчыкаў. Нават паппку завёў: "неразавысленні музейнага фонду". Ніякай канкрэтнасці і на сёння. Экспанаты па чарговай "прапанове" ўлад выязджаюць з дома Шменкеля, што на плошчы Волі. Куды — пакуль невядома...

— Шмат праблем, Георгій Андрэевіч, і з захаваннем існуючых ужо на тэрыторыі музея помнікаў дойлідства?

— Гэта самае балючае для нас. Якім жа музеем мы застанёмся, калі не захаваем тое, што калісьці з такой цяжкасцю адшукалі па Беларусі, прывезлі і ўладкавалі на сваёй тэрыторыі? Навукова-рэстаўрацыйны аддзел захлынаецца ад клопатаў. Грыбок псуе драўніну. Патрэбны сучасныя хімікаты для прапіткі ўсіх нашых забудоў. Ад цвілі, ад загарання. Выбіваем грошы дзе толькі можна, падключаем вучоных-хімікаў. Але ў асноўным выкарыстоўваем народныя сродкі. Вяртаем да жыцця былыя сакрэты нарыхтоўкі драўніны, яе апрацоўкі. Продак не падмане. Вось нашы рэстаўратары ў яго і вучацца.

— Продак і прадбачыць не мог, якую ўладу грошы набудуць. Дык, можа, музею вашаму хаця б на нейкае частковае самафінансаванне ўзбіцца? Вунь якой камерцыяй, як кажуць, заняліся ў прыватным музеі "Дудуткі", што ў Пухавіцкім раёне.

— Так, тамтэйшы дырэктар Яўген Будзінас развярнуўся. Але з арыентацыяй не столькі на культуру, колькі на рубель. Больш за сто кароў, пэльнік. Малако, сыр, масла на продаж. Каўбасны цэх, вырошчванне грыбоў. Дзейнічаюць бровар, кузня, конны выезд. Усё — за грошы і на грошы. Нічога не маю супраць. Але музейная экспазіцыя там далёкая ад этнаграфіі. Хаатычнасць фондавага паказу, мала што прывязана да канкрэтных гістарычных вытокаў, няма ў ім паслядоўнасці, падпарадкаванасці нейкай ідэі. Цудоўна разумею, у іх свая мэта: выжыць любой цаной. А для нас галоўнае: захаваць гісторыю, узнёсласць, калі жадаеце, рамантызм, мудрасць нашых продкаў. Таму музей наш, нягледзячы ні на што, жывы, святы для чалавечых душ. Як бы цяжка ні было з грашыма, хочам застацца цэнтрам культуры, а не камерцыі. І ў кожнага з маіх калег такі ж погляд на справу. Не веру ў дрэннае!

— Дык якімі ж бачацца перспектывы?

— Музей урэшце ўключаны ў так званае "залатое" экскурсійнае кальцо. Хоць і невялікі, але ж прыбытак ад замежнага турыста. Дзяржаўныя ўлады, схамянуўшыся, усё больш дапамагаюць. Але што хачу сказаць. Грошы — рэч выключна важная, але не галоўная, калі гаворка пра душу. Упэўнены, што ёсць у нас будучыня і задуманае зробім да канца, бо для людзей, якія ў музеі працуюць, — гэта прызначэнне жыцця. Паслухайце наш жаночы музейны хор "Менка" (бадай што адзіны такі ў свеце!). У час царкоўнага набажэнства літургія гучыць так, што і ў замежніка-турыста слёзы наварочваюцца, і верыш тады, што толькі за светлым — будучыня... І музей беларускіх дарог зробім. Будзе ў нас тут і брукаванка, і гравійка, і грэбля. Абдарбуд ужо дапамагае, чым можа. І экспазіцыю забудоў з адселенай чарнобыльскай зоны пакрысе да ладу давядзём. І свой генеральны план забудовы і добраўпарадкавання Строчыцы ажыццявім, бо па віне чынойнікa занадта там ужо шмат самавольных парушэнняў у будаўніцтве. Не адразу. Паступова. Пры падтрымцы дзяржавы. А спыніцца ў развіцці ўжо ні сумленне, ні наведвальнікі, якіх з кожным годам усё больш, проста не дазволяць. Вось тады па вартасці называцца будзем не музеем драўлянага дойлідства, а дзяржаўным ландшафтна-этнаграфічным запаведнікам "Менка"...

**Яўген РАГІН**

# "І пачынаю йграць з трывогай нейкай..."

Высокі, зграбны пажылы чалавек, з сівою, ажно белаю галавою зайшоў у наш трохкутны рэдакцыйны пакойчык і нерашуча, неяк надта ж мякка, па-інтэлігенцку, на прыгожай, правільнай роднай мове папрасіў выслухаць яго. У руках ён трымаў даволі ёмістую папку. "Відаць, мемуары", — мільганула думка. Аднак я памылілася. У папцы былі вершы, нотныя запісы, розныя газетныя выразкі і выпіскі.

— Прыйшоў у "ЛіМ", бо даўні ваш чытач і прыхільнік, — загаварыў між тым наведвальнік, разгарнуўшы папку. — Вельмі люблю беларускую паэзію. Паўсюль, дзе толькі магу, выбіраю вершы пра Бацькаўшчыну, маці, каханне, прыроду і... пішу на іх музыку. І сам пішу тэксты для песень. Вось тут — плён маёй працы. Некалькі зборнікаў песень. Не мне, вядома, меркаваць аб іх якасці, але ж — мо гэта калі-небудзь і каму-небудзь прыдалося б? Калі б выдаць хоць бы адзін зборнік...

У рэдакцыю прыходзяць розныя людзі. На жаль, бываюць сярод іх і не вельмі, так бы мовіць, пажаданыя. Ну, скажам, так званыя графаманы, аматары версіфікатарства ці любіцелі пісаць "романы". Гаварыць з такімі людзьмі цяжка. Раіць ім што-небудзь — бескарысна, пераконваць у тым, што творы іхнія слабыя і нецікавыя — марна. Гэтыя людзі звычайна заводзяць і сябе, а заадно і цябе, і пасля іх застаецца ў душы горкае і непрыемнае адчуванне.

Прызнаюся, што нешта падобнае падумалася ў тыя хвіліны і мне: ведаю, што графаманы сустракаюцца не толькі ў літаратуры. Аднак жа штосьці гаварыла і за тое, што тут — не гэты выпадак. Гаварыла за тое найперш нейкая ўнутраная, няйначай прыродная сціпласць наведвальніка, яго-ная, зноў жа прыродная, інтэлігентнасць, нейкая як шляхецкая гжэчнасць слоў і паводзін.

— Выбачайце, я дасюль не назваўся, — сказаў ён і прамовіў з лёгкім паклонам: — Леў Уладзіміравіч Кіта!

— Кіта? — прозвішча прагучала ўсё ж дзіўна. — Леў Уладзіміравіч? — перапытала я. І не стрымалася: — А Барыс Уладзіміравіч Кіт — не родзіч ваш?

— Брат, старэйшы, — усміхнуўся наведвальнік.

— Дык чаму ж — Кіта?

— У брата канчатковае "а" прапала, страцілася за мяжою, у ангельскіх, нямецкіх ды іншых розных транскрыпцыях... А наша сямейнае, родавае прозвішча — Кіта.

Мы разгаварыліся. Высветлілася, што Леў Уладзіміравіч пражыў досыць цікавае і складанае жыццё. А сёння брат слыннага беларуса, сусветна вядомага вучонага ў галіне астранаўтыкі Барыса Кіта (правільней, значыць, — Кіты?) — звычайны, яшчэ савецкі, пенсіянер, сапраўды безаглядна захоплены музыкай і паэзіяй.

— Змалку іграю на домры, балалайцы, гітары, найбольш люблю скрыпку і акардэон, — гаварыў Леў Уладзіміравіч. — І з гэтае прычыны я самы багаты пенсіянер. Багаты на сустрэчы з людзьмі, у тым ліку і з самымі вялікімі: з Чайкоўскім, Шубертам, Дворжакам, Штраусам, Лістам... Што ні раблю, куды ні йду — у мяне ў галаве рытмы і мелодыі. Прыходжу дадому і занатоўваю іх у нотах...

А поруч з музыкай — паэзія. Купляць зараз кнігі не маю магчымасці, яны сталі занадта дарагімі, вось і хаджу па бібліятэках, кнігарнях, чытаю вершы. І тыя, што кладуцца на душу,ператвараю ў песні — пішу на іх музыку. Лічу, што душу ў песню закладвае акурат паэт, а кампазітар ужо надае гэтай душы крылы.

— Леў Уладзіміравіч, адкуль такая захопленасць, такая любоў да музыкі і паэзіі?

— Ад дзеда, бацькі, маці. Наш дзед Аляксандр працаваў у свой час у маёнтку графаў Храптовічаў у Шчорсах, быў вельмі кемлівым, разумным і музычна адораным чалавекам. Разам з маім бацькам, мы жылі тады ўжо ў Карэлічах, яны вельмі хораша ігралі на скрыпках і спявалі, і ніводнае вяселле ці свята без іх не адбывалася. Бацька меў унікальны слых, у самадзейным ансамблі ён вёў першую скрыпку. Гэтае яго захапленне музыкай і перадалося мне. Мама таксама мела вельмі прыгожы голас, глыбокі і задушэўны. Што ні рабіла, дык заўсёды з песняй. Яна была швачкай. Бывае, шые і так заспявае рамапс, што душа шчыміць. Маміна сястра, цётка Кацярына — спявала ў царкоўным хоры. Словам, уся наша сям'я была пявучая. Брат Барыс, дарэчы, таксама цудоўна спявае, нават і цяпер...

Даць музычную адукацыю бацькі мне за Польшчай не маглі, — працягваў Леў Уладзіміравіч. — Скуль было ўзяць грошы? На невялікім лапіку зямлі не разжывешся. Нястача вымусіла бацьку выехаць у Пецярбург, дзе ён вывучыўся на сувязіста. Бацька да любой справы ставіўся вельмі адказна, таму неўзабаве стаў тэлеграфістам высокай кваліфікацыі, нават і ў старасці са сваім унікальным слыхам мог працаваць з любой апаратурай — Морзе, Уінстан, Бадо і іншай. Пасля бацька вярнуўся ў Карэлічы і працаваў на тэлеграфе. У сорак першым ён прыняў і расшыфраваў тэлеграму аб пачатку вайны і агульнай мабілізацыі. У вайну бацька закапаў тэлеграф, а пасля вайны ўзнавіў, знанціраваў станцыю і наладзіў сувязь. Да выхаду на пенсію рабіў тэлеграфістам...

Выбачайце, я трошкі адхіліўся, — схамянаецца мой субяседнік. — Я ж пра музыку гаварыў... Бацька вельмі хацеў, каб я быў музыкантам. Купіў мне скрыпку, стаў вучыць мяне іграць на ёй. Вадзіць смычком па струнах навучыў мяне акурат ён. Але я, мусіць, нарадзіўся пад шчаслівай зоркай. Неўзабаве займеў свайго настаўніка сапраўднага прафесіянала. Па суседстве з намі жыла сям'я Дыдышкаў: іхні сын Леанід вучыўся ў Варшаўскай кансерваторыі і, прыязджаючы на канікулы, з ахвотаю даваў мне ўрокі музыкі. Леанід Мікалаевіч Дыдышка стаў славутым музыкантам, быў знаёмы з Рыгорам Раманавічам Шырмам, з Міхасём Забэйдам-Суміцкім, з многімі польскімі і беларускімі кампазітарамі. Сёння яму дзевяць дзесяткаў гадоў, жыве ён у вёсцы Руткавічы Карэліцкага раёна. Брат Барыс вучыўся спачатку ў Віленскай беларускай гімназіі сам, а пасля стаў і выкладаць у ёй. Прыязджаючы з Вільні дадому, ён прывозіў нам, меншым, мне і сястры, не толькі розныя цацкі, фарбы (ён цудоўна маляваў), але і кніжкі, найперш беларускія, і сам дух беларускі. Акурат ад брата пачалося нашае з сястрой Ірынай далучэнне да беларускай гісторыі, наогул да беларушчыны. Ён прывозіў часопісы "Студэнцкая думка" і "Новы шлях". Брата захапіў беларускі адраджэнскі рух. Ён разумеў, што дзеля таго, каб Беларусь стала незалежнай дзяржавай, трэба шмат працаваць, несці людзям веды, пашыраць асветніцкую справу. І пачынаць трэба было менавіта з беларускага школьніцтва, раскрываць падрастаючаму пакаленню нашу багатую гісторыю, ідэі беларускасці, пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару. Гады перадваенныя, калі Барыс настаўнічаў у Віленскай беларускай гімназіі, былі нялёгкія, яны пазначаны барацьбою з польскімі ўладамі за існаванне беларускіх школ. Барыс пачаў рыхтаваць і мяне да паступлення ў сваю гімназію, дзеля гэтага забраў мяне ў Вільню. Аднак пачалася вайна. Якраз 1 верасня 1939 года, калі я павінен быў ісці ў гімназію. Мне было тады 13 гадоў. Я добра памятаю, як імклівa нарасталі падзеі. 17 верасня Чырвоная Армія заняла Заходнюю Беларусь, у тым ліку і Вільню. Польская школьная адміністрацыя спыніла сваю дзейнасць, яе месца заняла беларуская, якой кіраваў Францішак Грышкевіч. Брат Барыс быў прызначаны дырэктарам Беларускай гімназіі ў Вільні...

Я не перапыняла аповед Льва Уладзіміравіча. Усё гэта было надзвычай цікава. Падзеі, што адбываліся амаль шэсцьдзесят гадоў назад, паўставалі і набывалі рэальнасць у гэтым нязмушаным сведчанні відавочцы.

— І вучні, і настаўнікі жылі ідэяй нацыянальнага адраджэння. Моладзь гаварыла на роднай мове, натхнялася духам, традыцыямі тых слаўных беларускіх патрыётаў, што працавалі і жылі тут, — братоў Луцкевічаў, Максіма Гарэцкага, Аркадзя Смоліча, Рыгора Шырмы, Антона Грыневіча. Аднак хутка Вільня (у снежні таго ж 1939 года) адышла пад Літву, і Віленская беларуская гімназія аказалася ў чужой краіне. На агульным сходзе было вырашана, каб дырэктар Барыс Кіта зрабіў захады для пераводу вучняў у Навагрудак, аднавіўшы там працу беларускай гімназіі. Гімназія ў Навагрудку была адчынена, пачала працаваць, і я вучыўся ўжо там. Але — нядоўга. Пачалася нямецкая акупацыя. Над галавой брата пачалі збірацца хмары: і за патрыятычную беларускую дзейнасць, і за тое, што быў савецкім адукацыйным чыноўнікам, і за гуманізм, за чалавечыя адносіны да яўрэяў і палякаў, і наогул за ягоную асабістую, чалавечую самастойнасць, свабодалюбства. Барыса арыштавалі, дапытвалі



у СД, здзекаваліся. На шчасце, яму ўдалося выбавіцца з няволі... А ў 1944 годзе, напярэдадні вызвалення Навагрудка, брат з сям'ёй (ён ужо меў жонку і сына) выехаў на Захад, па савецкіх законах настаўніцтва пад акупацыяй лічылася супрацоўніцтвам з фашыстамі. Сустрэўся ён з радзімай толькі праз 50 гадоў. І я з ім, натуральна, таксама зноў пабачыўся таксама праз 50 гадоў...

Леў Уладзіміравіч памаўчаў, пасля пачаў быў тлумачыць, чаму яны не маглі сустрэцца раней, але махнуў рукою, сказаўшы штосьці накшталт таго, што наўрад ці трэба тлумачыць гэта, зноў нагадваць тыя прычыны, па якіх родныя людзі, аказаўшыся па розныя бакі "жалезнай заслоны", дзесяцігоддзямі не маглі не толькі сустракацца, але і перапісвацца. Гэтыя прычыны сёння мы ўсе ведаем. Таму я, пагадзіўшыся з ім у гэтым, "падштурхнула" яго аповед:

— А што было далей? Як ваш лёс паварнуўся?

— Я ў час вайны не вучыўся ані ў якой школе. На гаспадарцы рабіў. А пасля вайны мяне адразу ж забралі ў савецкае войска. Дэмабілізаваўшыся, вярнуўся дадому. Што рабіць, чым заняцца? Лічылася, што меў я адукацыю сем класаў. Пакуль прыкідваў, куды паткнуцца, прыехаў вярбоўшчык, пачаў агітаваць моладзь на будаўніцтва Чэлябінскага металургічнага камбіната. Абяцалі пад'ёмныя, інтэрнат... Ну, я і паехаў. Пад'ёмныя сапраўды далі, а размясцілі ў бараках. Шэсць месяцаў вучылі. Атрымаў я спецыяльнасць электразваршчыка. І пайшоў працаваць на вышыні ў 100 метраў. Мароз — пад сорак, а мы ўкалваем, з дня ў дзень, у тры змены... А потым там жа, у Чэлябінску, пайшоў у вячэрнюю школу, скончыў дзесяць класаў. Скончыў, а тут якраз адчыніўся ў горадзе металургічны інстытут. Я паступіў туды, таксама на вячэрняе аддзяленне. У пяць раніцы — пад'ём. Дзень — працуеш, вечарам — на заняткі. А ў выхадныя дні — у клуб. Возьмеш акардэон у рукі — і спявае душа. Пасля інстытута стаў працаваць старшым майстрам па эксплуатацыі цеплавых сетак. Як маладому спецыялісту прапанавалі кватэру. Параілі выклікаць бацькоў, тады, маўляў, большую кватэру займееш, на сям'ю. Напісаў бацькам. А бацька ў адказ: "Нікуды, сынок, з роднай зямлі мы не паедзем". І заныла ў мяне пасля гэтых слоў душа. Не змог я больш жыць у Чэлябінску, пацягнула на радзіму гэтак моцна, што месца сабе не знаходзіў. І махнуў у Мінск. А тут няма ні жылля, ні прапіскі. Але спецыяльнасць мая была вельмі патрэбная, быў я спецыялістам па кацельнях, цеплатрасах. Узялі на працу. Працаваў старанна, самааддана. Начаваў у тых жа кацельнях, якія трэба было тэрмінова запускаць у работу. І ўрэшце "Прамналадка" дапамагла мне, як спецыялісту, з прапіскай і дала інтэрнат. З таго часу і жыву ў Мінску. Займеў жонку і сына, назваў яго Уладзімірам у гонар бацькі. Брат Барыс, дарэчы, таксама назваў сына гэтым імем. Бацька наш памёр у 1970 годзе, так і не пабачыўшы Барыса. А мы з братам сустрэліся ў 1992 годзе, дзякуючы Пятру Краўчанку, які тады быў міністрам замежных спраў Беларусі. Да таго часу вучонаму беларусу з сусветным імем была забаронена дарога на радзіму. А ён па ёй сумаваў. Каб быць бліжэй да яе, перабраўся з Амерыкі ў Германію, у Франкфурт-на-Майне. Памятаю, як толькі адчыніў дзверы да мяне ў хату, дык усклікнуў: "Бацька!.." Гэта я надта ж падобны на бацьку. Абняліся мы, паплакалі... Пасля прыслаў мне з Германіі цудоўнейшы акардэон, з якім я не разлучаюся цяпер...

Вось, прыкладна, такі аповед атрымаўся ў Льва Уладзіміравіча. Сапраўды, цікавы і складаны лёс выпаў абодвум братам Кітам. Слухаючы яго, я думала міжволі пра такую акалічнасць. Пра тую нацыянальную, патрыятычную закваску, калі можна гэтак сказаць, якая ніколі не пакідала братоў. І адзін брат, і другі, нягледзячы на пакручастыя і далёкія ад дому дарогі, не забыліся, хто яны і адкуль родам, зберaглі сваю беларускасць, сваю душэўную прыналежнасць да гэтай зямлі і гэтага народа. Чаму ж у савецкія гады дзеці беларусаў не набывалі гэтай самай нацыянальнай закваскі? Чаму яны не атрымліваюць, пазбаўлены яе і сёння?

Субяседнік мой, быццам угадаўшы гэтыя мае думкі, нечакана прамовіў:

— Да вайны народ наш, людзі нашы былі такія добрыя, шчодрыя, адкрытыя. Жылі бедна, але — дружна, душа ў душу. Дапамагалі адзін аднаму. Разам святкавалі святы, разам скакалі і спявалі. І спявалі сваё, не польскае. Ведалі, разумелі, адчувалі, усведамлялі, што жывём на сваёй, спрадвеку роднай зямлі... Гэта, мусіць, і сілу давала, і радасць. А сёння ўсе нейкія змрочныя, злосныя, зайздросныя, незадаволеныя... Паверце, сумна, горка ад усяго гэтага. Вось я — пенсіянер. Жонка — таксама пенсіянерка. Пасля пяцідзесяці двух гадоў працы атрымліваю пенсію, якая не дае раскашаваць. Адно — неяк зводзім канцы з канцамі, стараемся зводзіць. Зрэшты, мы ведаем цану жыццю, ніколі не раскашавалі раней, таму і сёння ашчаджаемся ва ўсім. А моладзі — шкада. Няма, як ні ўглядаюся, у многіх маладых людзей той духоўнасці, шчырасці, захопленасці адной ідэяй, адной страсцю вялікай, што было ў нас. Быццам непатрэбна ім тая духоўнасць... Вось і песні мае нікому непатрэбны. Паказваў некаторым нашым славутасцям. Нібыта падабаецца, параілі шукаць спонсараў для выдання... А дзе я знайду тых спонсараў? Багатых людзей, якія б гэтак любілі сваю Бацькаўшчыну, каб маглі фундаваць розныя праекты дзеля яе духоўнага росквіту, мала, здаецца, што й зусім няма. А між тым, Бацькаўшчына для ўсіх нас была і застаецца адна. Гэта — родная, любая сэрцу Беларусь. Яе я і слаўлю ў сваіх песнях. Бяру ў рукі акардэон і, як казаў вялікі Купала, пачынаю йграць з трывогай нейкай, сумам...

Задоўжылася наша гаворка з Львом Уладзіміравічам. Не ведаю, ці палягчыла яму на душы ад таго, што я ўважліва і цярпліва выслухала ягоную споведзь. А вось мне ягоны прыход і аповед прынеслі радасць, задавальненне і душэўную асалоду. Такія пачуцці заўсёды застаюцца пасля сустрэчы з добрым, шчырым, душэўна шчодрым, цікавым, увогуле неардынарным чалавекам. І шчыра хочацца, каб жыццё павярнулася да яго хоць бы трошачкі лепшым бокам. Ну, скажам, каб знайшоўся б той самы спонсар ды каб з'явіўся на свет зборнік ягоных песень? Чамусьці мне здаецца, думаецца, што ёсць у Льва Уладзіміравіча, павінны быць і такія, якія варты ўвагі людской: усё ж шчырасць, захопленасць — гэта таксама адзнакі таленту...

**Марыя МІХАЙЛАВА**

## Непрадузята пра паўстанне

**Мікалай Берг, з дня нараджэння якога 5 красавіка споўнілася 175 гадоў (памёр у 1884 годзе), увайшоў у гісторыю як гісторык, публіцыст, паэт, перакладчык, удзельнік паўстання 1863—1864 гадоў, якому і прысвяціў свае асноўныя даследаванні. Родам Мікалай Васільевіч — з Масквы. Калі пачалося паўстанне, знаходзіўся на тэрыторыі Каралеўства Польскага. Пра гэтае выступленне супраць царызму апублікаваў серыю нарысаў у газеце "Санкт-Петербургские ведомости" і ў часопісе "Библиотека для чтения". У 1864 годзе намеснік Каралеўства Польскага прапанаваў Мікалаю Васільевічу напісаць гісторыю гэтага паўстання. М. Берг згадзіўся, а ў выніку атрымаў доступ да ўнікальных дакументаў. "Заказчыкі", аднак, памыліліся, думаючы, што гэтая гісторыя будзе пададзена з афіцыйнага пункту гледжання. Мікалай Васільевіч да даручанай справы паставіўся так, як гэта дазваляла яму сумленне, таму падзеі аналізаваў непрадузята, аб'ектыўна даследаваў прычыны паўстання, асноўныя яго рухаючыя сілы. І не абмежаваўся толькі гэтым перыядам. На нацыянальна-вызваленчы рух на польскіх, беларускіх і ўкраінскіх землях зірнуў, пачынаючы з 1830 года. Першыя восем раздзелаў гэтай працы прыйшлі да чытача са старонак часопіса "Русский архив", а ў 1873 годзе пабачыла свет кніга "Запіскі пра польскія змовы і паўстанні 1831—1832". Наступныя раздзелы прысвячаліся канкрэтна паўстанню 1863—1864 гадоў. Частка гэтых матэрыялаў у 1879 годзе з'явілася ў часопісе "Русская старина". Далей публікацыя была забаронена, таму М. Берг мусіў выдаць свае "Запіскі пра польскія змовы і паўстанні 1831—1864 гг." у чатырох тамах у Познані, якая на той час уваходзіла ў склад Прусіі. Царская цэнзура забараніла ўвоз гэтай кнігі на тэрыторыю Расіі. Па сённяшні дзень галоўная праца М. Берга ўяўляе вялікую цікавасць, паколькі ў ёй ёсць шматлікія звесткі пра жыццё і дзейнасць Ф. Савіча, Ш. Канарскага, К. Каліноўскага... Як адзначалася, М. Берг карыстаўся многімі ўнікальнымі дакументамі, асобныя з якіх, на жаль, не захаваліся. Таму яго "Запіскі..." у некаторай ступені з'яўляюцца і першакрыніцай пра паўстанне 1863—1864 гадоў. А да ўсяго М. Берг пераклаў на рускую мову "Пана Тадэвуша" Адама Міцкевіча.**

## Майстрыха



**Не многія на Браслаўшчыне могуць параўнацца майстэрствам са старэйшай ткачыхай Алінай Іванаўнай Чапулёнак. Яна цудоўна ведае матэрыял і яго магчымасці, тонка адчувае спалучэнне колераў у малюнку ручніка ці пакрывала, абруса ці пояса. Працуючы ў Браслаўскім Доме рамёстваў, яна шчодра дзялілася сваім вопытам з маладымі ткачыхамі.**

*На здымку: старэйшая ткачыха з Браслава Аліна Іванаўна Чапулёнак.*

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

## Прэм'ера новага тома

**Пра чарговы том залатой бібліятэкі Беларусі — "Выбраныя творы" Уладзіміра Жылкі — "ЛіМ" нядаўна паведамляў. Цяпер рыхтуецца вечарына, прысвечаная выхаду гэтага выдання.**

**У вечарыне возьмуць удзел пісьменнікі і навукоўцы, бард Алесь Камоцкі выканае песні на творы гэтага самотнага паэта, які скончыў свой зямны шлях у Хрыстовым веку (1900—1933) у богам забытым Уржуме. Але вершам ягоным наканавана было вярнуцца на Беларусь і застацца тут назаўжды.**

**Прэм'ера кнігі пройдзе ў наступную сераду, 15 красавіка, у сценах сталічнага педуніверсітэта імя М. Танка, на факультэце беларускай філалогіі і культуры па адрасе: вул. Савецкая, 18, другі корпус, аўдыторыя N 500. Пачатак а 18-й гадзіне.**

# ПАРНІКОВЫ ЭФЕКТ

*(Працяг. Пачатак на стар. 8—9)*

Я чую, як яны крочаць да выхаду, але вачэй не адкрываю. Па павеках цячэ і цячэ пот, не хочацца перапыняць гэты прыемны працэс. Некалькі хвілін я сяджу ў поўнай адзіноце і думаю, што трэба было абавязкова ўзяць з сабой на адпачынак сына. У маім становішчы зрабіць гэта даволі проста, як кажуць, без праблем, але сын адмовіўся, ён сказаў, што цярпець не можа пенсійных адказных твараў, яму досыць глядзець на іх на дачы. Мне б змаўчаць, а потым зноўку распачаць размову пра адпачынак, але я не стрываў сябе і пачаў крычаць пра тое, што мне б вельмі хацелася паглядзець на твары, якія яму падабаюцца. Сын вельмі спакойна адказаў, што твараў, якія яму падабаюцца, шмат, варта паглядзець наўкола на вуліцы і бразнуў дзвярыма. Жонка пачала ў тысячны раз ушчуваць мяне за тое, што я не знаходжу агульнай мовы з хлопчыкам. Яе "хлопчыкам" раззлавала мяне яшчэ болей. Які ён хлопчык, пачаў я, ён дарослы чалавек, але з незразумелымі для мяне, ды і для яе, думкамі, нейкім сваім, патаемным жыццём, што яшчэ болей небяспечна. Жонка са мной пагадзілася і сказала, што ўсё — прамы вынік маёй няўдалай выхаваўчай дзейнасці. Я зразумеў, што зараз адбудзецца новая, працяглая сутычка, якая не мае ніякага сэнсу — кожны застанецца пры сваёй думцы (як здаралася даволі часта). Пачыналіся цэлыя "маўклівыя" тыдні, як называў наш сын час, на працягу якога мы з жонкай не размаўлялі.

Так, прыкладна год назад ён выйшаў з-пад майго ўплыву (калі ён быў наогул) і цяпер выглядае чужым чалавекам, які нікога (я маю на ўвазе нас з жонкай) не пускае да сябе ў душу. Тут, на адпачынку, як мне здаецца, я меў бы шанц паразмаўляць з сынам як след. Але ён бадзяецца па Каўказе з невядомай мне кампаніяй.

З невясёлымі думкамі я выйшаў у хол. Мае калегі па лазні пілі чай з вялікіх піялаў.

— Садзіцеся, калі ласка, — падштурхуў да мяне крэсла тэлевізійны каментатар. — Чай сёння надзвычай добры.

Я раблю некалькі глыткоў. Чай пахне мятай, чаборам.

— Некалі нашы продкі карысталіся толькі гэткім чаем і нядрэнна сябе адчувалі, — гаворыць паўнаваты чалавек з выцвілым тварам.

У люстэрку здалёк я бачу свой твар — распараны, чырвоны. Ён шырокі, гладкі, амаль без зморшчын. У думках я павялічваю памеры свайго аблічча і перада мной з'яўляецца шэф — галава на магутнай шыі, глыбокія пранізлівыя вочы (яны, праўда, могуць здацца螺 рознымі). Так, гэта ён. Наколькі я (добра, што мяне ніхто не чуе) раблюся падобным на яго. Згадзіцеся, усе мы ў большасці ненавідзім сваіх шэфаў (нават калі не паказваем гэтага самым блізкім людзям) за тое, што мы не на іхнім месцы, не мы кіруем імі, а яны кіруюць намі. Яны знаходзяцца на іншай наменклатурнай градацыі, харчуюцца ў іншых сталоўках (трэба бачыць, як наша "сяброўская" кампанія шпарує разам у "Кастрычніцкую", а потым разбягаецца па розных паверхах: нас не прымуць там, дзе, як дарагіх гасцей, чакаюць нашых шэфаў... Адносіны да шэфаў больш за ўсё праяўляюцца, калі яны ідуць на пенсію. Няма людзей больш адзінокіх. Прыходзяць на іх месца новыя, і ўсё пачынаецца зноў...

Мне здалося, што я нават заснуў, бо ледзьве не выпусціў піялу з рук. Скрозь думкі пра шэфа пачуў:

— Новая каманда... Ёй больш трэба... Вось і ўсё...

Адкрыў вочы. Так, гаварыў каментатар. Зноў, відаць, размовы пра Амерыку, альбо я прапусціў нешта галоўнае. Не разумею людзей, якія вядуць размовы ў лазні. Тым больш гэткія. Я зноў зрабіў глыток чаю.

— У вас выдатныя нервы, — сказаў каментатар, павярнуўшыся да мяне. — Заснуць імгненна...

Я крыху разгублена пакруціў галавой па баках. На мяне з цікавасцю паглядаў поўны чалавек з маленькімі вочкамі, нейкі няпэўнага ўзросту мужчына з пакатымі плячыма (казалі, што ён быццам бы з Дзяржплана) і яшчэ адзін, зусім незнаёмы чалавек з накачанымі біцэпсамі і пругкім позіркам, адразу можна зразумець што бабнік. Яны імгненна забыліся пра мяне.

— Тым не менш, яшчэ зусім нядаўна мы няблага жылі, — сказаў поўны.

Так, відаць, размова ў іх пачалася даўно.

— Што вы маеце на ўвазе? — спытаў каментатар.

— Толькі тое, што сказаў... Звычайныя чалавечыя адносіны. Мы менш аглядаліся па баках і не думалі пра царкоўную мараль... Я, напрыклад, быў больш вольным...

— Справа кожнага... Я заўсёды лічыў сябе вольным і заставаўся ім, — адказаў каментатар.

Чалавек з азызлым тварам рассмяяўся:

— Як жа ў такім выпадку з гэтым: "Цяжка жывецца простым амерыканцам"?!

— Прабачце, забаронены прыём! — каментатар гучна паставіў на стол піялу. — Мы людзі службовыя, ад нас нечага патрабуюць... Мы, дарэчы, на дзяржаўнай службе! Не менш, чым вы...

Невялічкі мужчына таксама ўсміхнуўся і сказаў:

— Добра з вамі, але ў лазні лепш...

Ён павольна пакрочыў да дзвярэй лазні, а за ім уся кампанія. У лазні зноў панавала маўчанне.

Нарэшце самы поўны з нас (вельмі падобны на майго шэфа) сказаў:

— Увесь час адчуваю пасля лазні — нечага не хапае...

— Звыклага і прыемнага.., — засмяяўся каментатар. — Няма нічога дзіўнага... У мяне тое ж самае пачуццё... Прапаную сабрацца ў маім катэджы. Маю тое-сёе, і доказ будзе... Той самы...

— А наогул у лазні доўга сядзець не рэкамендуецца, — сказаў поўны і ягоныя мяккія ногі патупалі па паліцах.

Збіраліся імгненна, хоць звычайна працэдура займала паўгадзіны. Ніхто нават не паглядзеў у бок чаю...

— Сувораў нездарма казаў, нездарма, — прабурчэў самы малады з нас.

Каментатар першым прыняў ваяўнічы выгляд — нацягнуў джынсы-варонкі і куртку.

— Чакаю вас праз дзесяць мінут у катэджы нумар чатыры, — сказаў ён.

— Дом, дзе памёр Жданаў? — спытаў супрацоўнік Дзяржплана.

— Крыху ніжэй. Ля самага возера.

Я апранаўся (пот усё яшчэ сцякаў і сцякаў па спіне) і думаў, што маладыя хлопцы з сектара гандлю ўсё ж выручылі, прынеслі некалькі пляшак "Белавежскай" і сказалі:

— Гэта, каб ты, наш любімы Піліп, не сканаў у глыбіні Расіі...

Я схаваў бутэлькі ў дыпламат, падзякаваў хлопцам (сапраўды выпадкі ў час адпачынку здараюцца розныя) і падумаў: а што, калі міліцыянер унізе патрабуе, каб я адчыніў "дыпламат" (некалькі разоў такія выпадкі здараліся). Але ўсё абышлося і толькі дома жонка насмешліва на мяне паглядзела. Словы яе былі з'едлівымі:

— Адзін збіраешся гэта зелле глытаць?!

Тады, перад ад'ездам на адпачынак я нічога не адказаў, а цяпер міжволі вымавіў урачыста:

— Тут збіраецца мужчынская кампанія...

І загарнуў адну бутэльку ў свежую газетку.

— Ты ў кампаніі?! — здавалася, што жонку страсянула токам.

— Уяві сабе. У кампаніі даволі прыстойных людзей...

Яна матлянула галавой:

— Магу выказаць ім толькі свае спачуванні. На ўсялякі выпадак — дзе цябе шукаць?

— Кватэра нумар чатыры поруч з домам, дзе памёр Жданаў...

— Нават у катэджы... Выдатныя факты, для персанальнай справы, — грымаса зрабіла твар жонкі непазнавальным.

Даўно я не бачыў, каб яна гэтак смяялася. Я схапіў бутэльку і выбег з пакоя, бразнуўшы дзвярыма. Зрабіў усё моўчкі. Я даўно прызвычаіўся нічога не адказваць ёй у пэўныя моманты. Не заўважыў як прабег міма драўлянага катэджа пад нумарам чатыры. Давялося вяртацца. Я зрабіў адзіны крок да дзвярэй і спыніўся. Катэдж быў стылізаваны пад сялянскую хату, але ўся мэбля ў ім таксама была фінская. На нефарбаванай падлозе ляжалі варсістыя дываны, уздоўж сцен у выглядзе паляўнічых здабыткаў віселі галовы дзікоў, ласёў...

Гаспадар быў у доўгім халаце.

— Вось нарэшце і апошні, — сустрэў ён мяне ля ўвахода.

Уся кампанія сядзела за вялікім сталом. Танклявай, амаль празрыстай жонкі каментатара не было бачна. Амаль на паўгалавы яна ўзвышалася над каментатарам, мела, мякка кажучы, непрыгожы твар, і ў сталоўцы яны звычайна з'яўляліся паасобку.

Мажліва, як гэта часта здаралася, ён невыпадкова сустрэў яе на жыццёвай дарозе, пры дапамозе бацькоў яна дапамагла яму ўзлезці наверх з ягоным рыпучым голасам...

Але навошта блазенскія думкі лезуць у галаву, каментатар ветліва ўсміхаецца мне, задаволеныя твары і ў астатніх членаў кампаніі, нарэшце можна ўзяць па кілішку і адчуць сябе яшчэ больш лёгка, амаль на крылах...

— Зробім наступным чынам — прымем па адзінай, а потым пачнём знаёміцца як след, — сказаў каментатар.

Ён разліў па тонкіх фужэрах "Віскі" з запацелай бутэлькі, крактануў: "З лёгкай парай!" і першым выпіў.

Праглынулася лёгка, нібы вада.

— Пачнём знаёміцца, — сказаў каментатар...

— Ну хто не ведае Вадзіма Міхайлавіча Філонава?! — спыніў яго чырванатвары чалавек. — Ды мы вас назіраем і слухаем, да таго ж вельмі ўважліва, шмат гадоў. Вас у нашым добрапрыстойным пансіёне нават дзеці пазнаюць. І тут няма нічога дзіўнага...

Філонаў падняўся, падкінуў паленцы ў камін.

— Мяне ж завуць Ігнат Мікалаевіч, — працягваў чырванатвары, — начальнік галоўнага ўпраўлення, член калегіі.

Пасля трэцяй, калі на душы прыкметна пацяплела, падышла і мая чарга прадстаўляцца.

— Піліп Мікалаевіч, — пачаў я, але Ігнат Мікалаевіч не дазволіў працягваць.

— Магу паспрачацца, што вы работнік партапарату, — сказаў ён, гледзячы на мяне з добрай усмешкай.

— Так, але як вы даведаліся?

— Вельмі проста —пазнаю сябе самога, — пачаў ён (і тут я заўважыў яшчэ раз, што мы вельмі падобныя адзін да аднаго), —у міністэрства я таксама трапіў адтуль жа... Так, таго самага... Толькі, мажліва, іншага памеру...

Значыцца, у маім выглядзе ёсць нешта такое, пра што вечна гаворыць жонка, інакш чаму б ён завёў цяпер размову пра нейкі памер...

— Ну і як? — задаў я зусім ужо недарэчнае пытанне.

— Параўнаць нельга! Самастойны ўчастак, чалавекам сябе адчуваеш.

— Вось і пачалося, — сумна вымавіў Эдуард Віктаравіч з Дзяржплана (той самы — невялічкі, маладжавы чалавек). — Не можам не гаварыць пра службу... З нас гэтага не выбіць ніякай сілай...

— І сапраўды, дарагія госці, — заўсміхаўся Філонаў. — Слаўная кампанія ў адной з цудоўных мясцін, якія гэтак часта бачацца ў снах за мяжой. Колькі ўсяго дзіўнага звязана з возерам. Адсюль па сутнасці Русь і пачалася...

Ён прапанаваў тост (вельмі доўгі і блытаны) за нашыя карані, святыні, якія трэба берагчы. Я адкаркаваў "Белавежскую", і ўсе не проста выпілі, а пачалі смакаваць, пацягваць яе, быццам пілі лёгкі жаночы лікёр.

— Выдатны напітак, — зазначыў Філонаў. — Аднойчы мне нехта з вашых падараваў у Нью-Йорку, а я потым пачаставаў славутага амерыканскага аглядальніка. А ён, магу вам сказаць з упэўненасцю, вядомы дока па моцных напітках. Дык не мог нахваліцца, казаў, што нічога больш цудоўнага ў жыцці не спрабаваў. Аказваецца ёсць яшчэ сапраўдны водар, а я думаў вашыя майстры вымерлі...

— Майстры, як ні дзіўна засталіся, робяць сваю справу, і ў нас будзе магчымасць пасля лазні яшчэ пазнаёміцца з іх майстэрствам...

Тут усе пачалі паціху адсоўвацца ад стала, хоць на ім упэўнена стаялі яшчэ некалькі пляшак, што прыхапілі з сабой іншыя госці. Ля каміна Эдуард з Дзяржплана пачаў раптам спрачацца з Філонавым на тэму дапамогі для афрыканскіх краін, амаль крычаў, што мы выкідваем мільёны на вецер, альбо яшчэ ў горшае месца, людзі тыя самыя, якія ў краіне жывуць не лепей за тых афрыканцаў, пра гэта не ведаюць, а самім афрыканцам на нашу дапамогу абсалютна напляваць, яны ў наш бок і глядзець не хочуць, бо няма на што глядзець...

Філонаў яму нешта цярпліва даказваў, ён гаварыў, што з многім у ягоных

словах можна пагадзіцца, але ж нельга быць настолькі катэгарычным у вельмі далікатным пытанні.

Я сумна назіраў за іхняй размовай. Да мяне падсеў Ігнат Мікалаевіч, прапанаваў паспрабаваць ягонага напітку, не гэткага славутага, як "Белавежская", але таксама даволі прыемнага, якога ў свабодным продажы, а таксама ў сталах заказаў, даўно ўжо немагчыма адшукаць. Я згадзіўся. І сапраўды гарэлка была надзіва мяккая, амаль без паху.

— Вы на мяне не крыўдуеце? — спытаў ён нечакана.

— За што?

— Самі разумееце... За тое, што я адразу вызначыў у вас таго, кім вы з'яўляецеся... Свайго былога калегу.

Я рассмяяўся:

— А, можа, мне было нават прыемна...

Ён не зрэагаваў. Праз некаторы час заўважыў:

— Апошнім часам мы ўсе больш асуджаем Яго, — ён выразліва паглядзеў наверх. — І справядліва, не падумайце, што я... Ненавіджу людзей, якія лічаць інакш. Сапраўдныя выкапні, каб іх... Але я зараз пра іншае. Мы клянём яго, народ кляне, — ён зноў узняў галаву ўверх, — але паглядзіце, якую трывалую, хоць і жахлівую машыну ён стварыў. У кожнага гэтая машына выклікае нянавісць, але ніхто (не буду называць прозвішчаў і пасад) не можа зламаць яе, спыніць на момант, каб зразумець, куды ісці, рухацца далей. А яна рухаецца, ясна, што няправільна, ясна, што не туды, і кожны ў ёй павінен адчуваць сябе маленькай дэталлю, якая нічога не вырашае, не можа вырашаць нават нягледзячы на тое, што камусьці ўдаецца вырвацца амаль наверх, на самую вяршыню, пра якую мараць многія... Машына знішчае бракаваныя дэталі, якія не вытрымліваюць ціску, велізарнай нагрузкі, альбо пачынаюць занадта высока думаць пра сябе, задумвацца над тым, куды і навошта рухаецца машына... Я таксама радаваўся, што вырваўся, але хутка зразумеў, што трапіў у яшчэ больш стары, наскрозь пражавелы механізм.

Ён змоўк, зноў наліў мне і сабе. Але тут да стала наблізілася ўся кампанія.

— Я думаю, што гарэлка вельмі добрая, — сказаў Філонаў, — Але дзякуючы гэтым маладым, надзвычай сімпатычным людзям яна можа хутка знікнуць.

Ігнат Мікалаевіч разліў у астатнія бакалы.

— Давайце вып'ем за мужчынскае братства. На мой погляд, няма нічога больш святога на гэтай зямлі, — урачыста прамовіў ён.

Усе дружна асушылі бакалы.

Сон пераблытаўся з рэальнасцю.

Філонаў блізка-блізка схіліўся да мяне.

— Дзіўнае ў вас імя, — кажа ён. — Піліп, а чаму не Філіп?

— Беларускае імя, — спакойна адказваю я. — У нашай вёсцы было шмат Піліпаў.

— А што значыць беларускае? — пытаецца Філонаў.

Я здзіўлена гляджу на яго.

— Не разумею вашага пытання.

Ён смяецца:

— Усё прыдумана — украінскае, беларускае... Ёсць адзінае — рускае. Ведаеце, як некалі Антон Іванавіч Дзянікін, а гэта быў, скажу вам, неблагі чалавек, адказаў на скаргу ўкраінскіх людзей пра заняпад мовы?

— Нешта чуў, — няўпэўнена адказаў я.

— Дык вось... Ён сказаў, што не ведае ніякай украінскай мовы. Ёсць толькі пагоршаная руская.

— Паслухайце, дарагі, ды ці не аддаюць вашыя словы?! Самі ведаеце чым.

— Не шый, браце, мне шавінізм, не атрымаецца. Ярлыкоў мы ў свой час навешалі адзін аднаму...

Я адкрыў вочы і паглядзеў у столь.

— Бог мой, — выдыхнуў я. — Здаецца, я абазваў яго шавіністам...

— Каго? — спыталася праз некаторы час жонка.

— Ды яго, Філонава. А ён чалавек вядомы, мае сувязі. Высокія сферы.

— З-за чаго?

— Усё маё імя — Піліп...

— Імя і сапраўды ідыёцкае, — адказала жонка і перавярнулася на другі бок.

І тут я ўцяміў, што бачыў сон, не больш-не менш. Але адкуль ён узяўся? Я амаль не памятаю, як мы разыходзіліся, пра што размаўлялі ў канцы вячэры. Перада мной больш за астатнія мільгацелі твары Філонава і Ігната Мікалаевіча, якія, мажліва, больш за іншых гаварылі. Няўжо і сапраўды ў нас была гэткая размова?!

— Не магу зразумець. Мусіць, сон... А, можа, усё было на самай справе?!

— У тваім узросце, даражэнькі, не варта адпіваць мазгі, — адказала жонка. — Інакш можна згубіць нават тваю пасаду.

Зноў пачынаецца?! Калі-небудзь яна абавязкова давядзе мяне да пэўнай кандыцыі сваімі паўнамёкамі і тады будзе шкадаваць, яна павінна добра памятаць, якім неўтаймаваным я быў у маладосці (чым, паводле прызнання маіх шматлікіх родзічаў, нагадваў нябожчыка-бацьку). Сам я з бацькам не пазнаёміўся як след. Пабіты на вайне і фізічна і маральна ён сканаў праз некалькі гадоў пасля яе заканчэння. Добра, што засталіся браты (абодва адразу пасля вайны "адпачылі" па некалькі гадоў у лагерах), яны шмат расказвалі пра малодшага брата, які трымаў у страху ўсё наваколле ў маленькай вёсачцы пад Магілёвам. Даўно ўсё было... Не засталося нікога і нічога. Неяк я паехаў у гэтую вёску разам з мясцовым начальнікам, доўга хадзіў пад таўшчэзнымі дубамі, пад якімі некалі гуляў бацька, але людзей, што памяталі тое, далёкае, амаль нерэальнае жыццё, не знайшоў.

— Гляджу на цябе і здзіўляюся — дарослы чалавек і ніяк не можа паразумнець, — гаворыць жонка, не адрываючыся ад часопіса.

Я сціснуў зубы і не вымавіў ніводнага слова. Сварка распачнецца імгненна, і ёй нічога не змагу даказаць. Лепш уявіць яе на месцы... Скажам, аднаго з маіх першых "пацыентаў" (любімае слова шэфа, які некалі ў маладосці хацеў стаць ветэрынарным урачом). Гэта было даўно, на самым пачатку, калі я толькі-толькі пераступіў праз парог вялікага Дома. Сяржант на ўваходзе доўга ўглядаўся ў пасведчанне, пасля ўсміхнуўся і сказаў:

— Праходзьце, калі ласка...

Я адразу ж зрабіў вывад, што і сяржантаў у Дом бяруць не абы-якіх, а, можа, нават з вышэйшай адукацыяй. Увечары, калі я пачаў угрызацца ў розныя паперы, выклікаў шэф (тады ён быў яшчэ не поўным, а каржакаватым) і сказаў, працягваючы папку:

— Лічу, што вам трэба пачынаць з сапраўднай справы... Вось асабістая справа, нічога страшнага няма, ёсць сігнал... Трэба праверыць. Гісторыйка нячыстая, але не крымінальная... Чалавека можна наказваць на ўсю раскрутку, можна мілаваць, а лепей за ўсё павыхоўваць, як след. Чалавек яшчэ можа спатрэбіцца дзе-небудзь на сярэдніх пасадах... — Ён злавіў мой здзіўлены позірк: што можна рабіць пасля гэткай інструкцыі?!, усміхнуўся і сказаў: — Прывыкайце, у нашай справе патрэбны вопыт... Заўсёды ёсць вялізнае поле дзейнасці, шмат варыянтаў і варыяцый, як у музыцы альбо шахматах, варта знасці той самы, які б адпавядаў нашай партыйнай справе. Зразумелі?

Мне нічога не заставалася, як матлянуць у знак згоды галавой.

— Пастарайцеся пагаварыць з ім, як след, даведацца, што за чалавек, чым жыве... Пасля я выслухаю вас і мы разам вырашым, як праводзіць расследаванне, калі яно наогул спатрэбіцца.

— Прабачце, але чаму можна разглядаць на сярэднюю пасаду, — неяк нечакана для сябе крэкчучы, спытаў я.

Зрабіў гэта дарэмна, бо твар шэфа адразу змяніўся. Выцягнуўся, спахмурнеў, але, мусіць, успомніўшы; што перад ім стаіць навічок, адразу ж падабрэў, разгладзіўся, пакруглеў.

— Гэта самае складанае ў нашай рабоце. У кожнага ёсць свая столь над галавой. У мяне, у вас... Часам, здараецца, што гэтая столь аддаляецца некуды ўверх, часам нечакана ляціць уніз, завісае над галавой... Для гэтага ёсць самыя розныя прычыны. Але калі кіравацца законамі, якія зразумелыя толькі для вопытных людзей, то нечаканасцей амаль не бывае. У вашага часовага пацыента (так, ён упершыню выкарыстаў гэтае слова), як бы гэта лепей сказаць, не ўсё ў парадку з біяграфіяй. Такім людзям можна давяраць і нават трэба, але нельга губляць класавага пачуцця, хоць на сённяшні дзень, на жаль, мае словы гучаць даволі дзіўна. Аднойчы, калі звярнуцца да гісторыі, мы забыліся на іх і ведаем, што атрымалася. Калі вы чытаеце некаторыя выданні, то выдатна мяне разумееце. А вунь што адбываецца цяпер — едуць куды захочуць, ды і кажуць, пачнуць хутка вяртацца... Так што можна трымаць, але на адлегласці. Хай сабе працуюць, прыносяць карысць, але не болей...

Я зусім разгубіўся і міжволі пачаў вышукваць вачамі месца дзе б прысесці. У нагах маіх з'явілася слабасць. Як я змагу працаваць пад кіраўніцтвам гэтага, даволі складанага па натуры і па розуму чалавека. Прабіцца праз ягоныя думкі цяжка. Мне гаварылі пра гэта, а цяпер я сам усё выдатна зразумеў і мне зрабілася страшна.

— Дык вось, - працягваў шэф, — ваш часовы пацыент якраз адносіцца да гэткай катэгорыі людзей. Таму яму — і вызначана месца дзе-небудзь пасярэдзіне нашай лесвіцы. Толькі хай сабе жыве і не падазрае аб гэтым. Такія ўмовы нашай дзейнасці.

Паступова дрыготка ў маіх нагах скончылася.

— Некалькі разоў пад яго падбіраліся, але ананімна. Мы амаль не звярталі на пісьмы ўвагі. Чаму? Іх было зашмат. Зразумейце, гэта павінна насцярожваць. Але вось напісала адна дзяўчына. Рэальная... Я гутарыў з ёй... Чамусьці захацелася паверыць... Зноў-такі класавае пачуццё. Па-першае, з простай сям'і, падругое, вера ў ідэалы... не прыдуманая, натуральная... Але гэта не прысуд, паглядзіце як след, паглядзіце бліжэй.

— На дзяўчыну? — спытаў я.

— Ды не, на свайго пацыента. Потым ланцужок працягнецца. Усё залежыць ад таго, што вы высветліце. Думаю, што ў дапамогу вам прыйдзецца даць некалькі чалавек, можа, нават створым камісію, а, можа, усё закрыем. Вось так, дарагі таварыш Карзуба і пачынаецца ваша неабходная людзям служба ў нас...

Я адчуў, як чырванею, падзякаваў (няведама за што) і выйшаў з кабінета. Ішоў па мяккай дывановай дарожцы, але мае ногі быццам адбівалі крокі па бетонным пляцы.

У кабінеце я паклаў папку перад сабой і, уздыхнуўшы, паглядзеў у акно. З яго добра была бачна званіца царквы, што стаяла на старой плошчы. Дзядзька расказваў, як на гэтай мінскай плошчы на пачатку дваццатых выступаў Троцкі. Натоўп сабраўся вялізны, тысяч дваццаць, а мо і болей, мікрафонаў не было ніякіх, але голас Троцкага быў чутны ўсім.

— Як ты мог слухаць Троцкага?! — вырвалася ў мяне, калі дзядзька пачаў пераказваць змест прамовы (я ў той час працаваў на маленькай апаратнай пасадзе ў камсамоле).

— Дзівак ты! Я слухаў, як і ўсе астатнія... А што мне было рабіць, калі ён выступаў. Заставалася толькі слухаць, — сказаў дзядзька і выпіў кілішак моцнага віна. Я бачыў, што ён пакрыўдзіўся на мяне.

— Ад каго-каго, але ад цябе, чалавека адукаванага, адказнага таварыша зусім іншых часоў, такога не чакаў, — сказаў у рэшце рэшт дзядзька.

— Не разумею, чаго ты пакрыўдзіўся, — сказаў я.

— На маім месцы зразумеў бы! Аднойчы, даўно гэта было, калі цябе на зямлі, а... Словам расказаў я пра гэта аднаму чалавеку, а пасля мяне выклікалі і дамоў я не вярнуўся... Следчы таксама пытаўся: як ты мог слухаць Троцкага, як ты мог?! І раптам гэткае пытанне задаеш ты...

Дзівак чалавек, падумаў я, а ты вазьмі ды пастаў сябе на месца таго самага следчага. Кожны хоча адчуваць сябе толькі ў сваёй уласнай скуры, вось у чым справа. Пакрыўджаны чалавек ніколі не можа быць аб'ектыўным...

Толькі пра гэта дзядзьку я ў той раз не сказаў. Шмат гадоў прайшло, ягоны помнічак цяжка знайсці на могілках, але нічога не зробіш, я і сёння думаю гэтак...

— Чаго ўтаропіўся ў акно?! — пачуў я голас суседа па кабінеце Пасюкевіча, хударлявага, высачэзнага чалавека, які ў моманты хвалявання рабіўся заікам, якога цяжка было і слухаць і разумець. Пасюкевічу ўвесь час даводзілася займацца сваім носам, які ў час змены надвор'я пачынаў расцвітаць самымі рознымі колерамі, на ім выраслі купіны, адны з іх былі чырвоныя, другія амаль блакітныя, калі, што гэтыя дні асабліва цяжкія для Пасюкевіча, калегі (варта ўлічыць, дзе ён працаваў і з кім кожны дзень сустракаўся) пачыналі гаварыць, што Пасюкевіч пачаў запіваць (бо ніводзін чалавек у нашай арганізацыі не ведаў гэткай хваробы, ад якой нос пачынаў гарэць рознымі фарбамі), на яго пазіралі з жалем, але ўсё было наадварот — Пасюкевіч не піў наогул (невядома толькі з якой прычыны), нос чырванеў ад нервовага напружання, ці яшчэ ад чаго-небудзь. Казалі, што ў дні росквіту "зацвітання" свайго носа Пасюкевіч быў асабліва карысны на рабоце, ён раскручваў па-майстэрску самыя розныя справы, і начальства, нават сам шэф, былі ім задаволеныя.

— У чым справа?! — не зразумеў я ягонага пытання.

— Не зявай, выклікай свайго падначаленага. Я быў толькі што ў шэфа, можа так здарыцца, што мяне дадуць табе ў дапамогу.

— Ты нагадваеш чалавека, які падышоў да апошняй рысы жыцця!

Хто гэта ўзяўся, адкуль? Ага, жонка. Яна ляжыць на канапе з часопісам у руках, паказвае мне сваё акругленае калена (некалі яно было гладкае, ружовае). — Выгляд гэткі, быццам цябе толькі што вынялі з магілы, каб крыху праветрыць... Сядзіш змярцвелы. Не магу зразумець, пра што ты можаш думаць?!

Я нічога не адказаў і выйшаў на вуліцу. Побач былі тэнісныя корты. Убачыўшы Філонава з ракеткай у руках, я здзівіўся: учора ён быў не намнога лепшы за мяне, а, можа, нават больш цяжкі... Вось што значыць жыццё за мяжой. Пот сцякае па ягоным твары ручаямі, дзяўчына на другой палове корта ледзьве паспявае за мячом. Так, ён трэніраваны, ён не адчувае свайго ўзросту, але дапамагла б ягоная трэніроўка, калі б ён у якасці пацыента зайшоў у мой кабінет?! Не, вядома, не цяпер, мы б пагаварылі як след, а нават тады, у далёкі час, калі мая кар'ера пачыналася надзіва добра і я пачынаў думаць, што перайду рысу, якая аддзяляла людзей сярэдніх пасад ад іншых, прывабных для ўсіх — мяне, жонкі, мусіць, нават майго сына і дачкі...

*ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ*

# Кароткія ногі хлусні

ПРАЧЫТАЎШЫ Ў ГАЗЕЦЕ "Белоруссия" (N 22, 20—23 красавіка 1998 г.) артыкул А. Аўруціна "Примешь ты смерть от коня своего, или О том, как целые государственные структуры оказались в оппозиции президенту", лічу абавязкам свайго сумлення выказацца наконт гэтага артыкула менавіта на старонках пісьменніцкага выдання, — не ўпэўнены, што "Белоруссию" чытаюць усе сябры нашай пісьменніцкай суполкі, а "ЛіМ", думаю, калі не ўсе, то — пераважная большасць. Да таго ж, размова пойдзе аб некаторых чыста літаратурных фактах, хоць артыкул Аўруціна — палітычны.

Кожны мае святое права на ўласную думку, на ўласныя перакананні, мае права выказваць іх публічна, кепска толькі адно — калі чалавек лічыць сваю думку адзіна правільнай і ўсіх, хто думае інакш, запісвае ў варожую "пятую калону". Ды яшчэ спяшаецца пры гэтым заручыцца падтрымкай вышэйшых дзяржаўных інстанцый, літаральна вылузваецца са скуры, каб засведчыць высокаму начальству сваю "сверхверноподданность", прадэманстраваць сваю найвышэйшую палітычную пільнасць. Праўда, гэта мы ўжо некалі "праходзілі", спадар Аўруцін зусім не піянер звышпільнасці — падзагаловак ягонага артыкула спісаны са старонак газет 1937 года, — я ў свой час, калі іх "рассакрэцілі", занатаваў загалоўкі публікацый тагачасных "Звязды" і "Советской Белоруссии": "Ворагі народа акапаліся ў Белкаапсаюзе", "Варожае гняздо ў прэзідыуме Акадэміі Навук", "Ачысцім кандытарскую фабрыку ад ворагаў народа!", "Трацкісцка-бухарынская банда арудуе ў сістэме Дзяржстраха", "Павуцінне здраднікаў і шпіёнаў у наркамаце шляхоў зносін", "Калектыў радыёкамітэта выкрывае гнюсных двурушнікаў!". Ворагі, ворагі, ворагі — ва ўсіх дзяржаўных структурах! Так што ў асобе спадара Аўруціна маем мы дастойнага прадаўжальніка справы пільных.

Але што так напалохала і палохае Аўруціна? Што за "пятая калона", якая "мерещится" яму на кожным кроку? А гэта, шаноўнае спадарства, усе тыя, хто ўсё яшчэ размаўляе і піша па-беларуску... Спадар Аўруцін спадзяваўся, што пасля рэферэндуму 1996 года, які, аб чым напамінае нам аўтар артыкула, "узаконил равенство языков", "узаконил двуязычие", беларуская мова, нарэшце, пацясніцца перад рускай, што скончыцца яе суцэльнае панаванне на Беларусі, і гэта будзе цалкам справядліва, бо, як вынікае з артыкула нашага рускамоўнага "пиита", руская мова пры ўсёй яе роўнасці з беларускай усё-ткі "более равная". Таму што яна — мова "інтэграцыі". Так, маўляў, наканавала гісторыя. І ніякіх дыскусій на гэты конт! "Дискутировать по данной проблеме", — піша Аўруцін, — "вполне было демократичным и законным до референдума, а теперь волю народа следует лишь исполнять!" І той, хто "дискутирует", ландскнехт "пятай калоны". Недаравальна, ледзь не крычыць Аўруцін, мірыцца з такім становішчам, калі беларуская мова па-ранейшаму выціскае рускую!

Я нават не лічу патрэбным спыняцца на гэтай лухце, на гэтай зласлівай хлусні — усе, у каго ёсць слых і вочы, ведаюць, што ўсё якраз з дакладнасцю наадварот.

Але кожны, нават самы сакрэтны куфэрачак, адчыняецца ўрэшце вельмі проста. Проста адчыняецца і "куфэрачак" Аўруціна. І каб паказаць, што схавана ў ім, прывяду адну цытату — на мове арыгінала, каб лішні раз не заціскаць мову аўтара: "...противники интеграции, так любящие порассуждать об "адраджэнні", на самом деле стремятся превратить певучий и мелодичный белорусский язык в средство угнетения значительной части населения страны (прежде всего, городского, являющегося интеллектуальной элитой общества), в средство унижения представителей иной, будем откровенны, заметно более высокой культуры, извечно питавшей культуру белорусскую, наконец, в инструмент выпячивания собственного "Я" на фоне унижаемого, пусть даже более одарённого творчески конкурента, которому только потому, что он говорит и творит по-русски, сегодня вновь перекрывается так толком и не успевшая открыться дорога и на радио, и на ТВ, и в государственное издательство".

Без сумневу, гарадскі інтэлектуал, прадстаўнік "эліты", прадстаўнік больш высокай культуры, больш творча адораны канкурэнт "пяцікалоннікаў" — гэта ён, Анатоль Аўруцін. А, скажам, Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Янка Брыль, доктар філасофіі Мікалай Крукоўскі, акадэмік Радзім Гарэцкі, сотні іншых беларускіх літаратараў, беларуская універсітэцкая і акадэмічная прафесура — не інтэлектуалы. Ну, ну!..

Вядома, Аўруцін маскіруе, прыхоўвае сваё асабістае пакрыўджанае самалюбства (напэўна, нехта недзе яго "недаацаніў", пагладзіў супраць поўсці), малюючы жахлівую карціну наступлення "пятай калоны" на ўсё рускае наогул. Напрыклад, на Рускі драматычны тэатр імя Горкага, у рэпертуары якога няма рускай класікі. Прызнаюся, я не магу зразумець, пры чым тут "пятая калона" — тэатр жа рускі! Няўжо галоўны рэжысёр гэтага тэатра Барыс Луцэнка, нядаўна адзначаны прэзідэнтам урадавай узнагародай, таксама дыверсант-"пяцікалоннік"?

Аднак хачу суцешыць спадара Аўруціна. Ён, відаць, не заўважыў, што становішча з рускім класічным рэпертуарам выпраўляе якраз тэатр беларускі — у Нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы ідзе спектакль па п'се Сухаво-Кабыліна "Смерць Тарэлкіна" (пахвалюся, у маім перакладзе на беларускую мову), а сёлета купалаўцы збіраюцца паставіць п'есу А. Астроўскага "Не было ані гроша, ды раптам алтын" — у канцы мінулага года я па просьбе тэатра пераклаў гэты твор вялікага рускага драматурга. Ды, відаць, спадара Аўруціна гэта не суцешыць, наадварот — яшчэ раз пераканае яго ў засіллі ненавіснай яму беларушчыны. Гэта ж трэба, Рускі тэатр расійскую класіку не ставіць, а Нацыянальны беларускі — ставіць! На мове "угнетения значительной части населения страны!"

Яшчэ адзін боль і клопат Аўруціна — гэта тое, што ў Беларусі ігнаруюць творчасць таленавітых паэтаў і празаікаў, якія пішуць па-руску. У прыватнасці, Аўруцін называе В. Блажэннага, паэта, які, паводле Аўруціна, "уже много лет прозябает в безвестности", у той час, як "его дарование отмечали еще Б. Пастернак и А. Тарковский".

Вось і спынімся на Блажэнным!

Сапраўды, В. Блажэнны (Веніямін Міхайлавіч Айзенштадт) амаль усё сваё жыццё "прозябал в безвестности" — пакуль жыў у Расіі. Адзначаючы яго дар, ні Б. Пастэрнак, ні А. Таркоўскі, ні многія іншыя славутыя расійскія паэты і пальцам не паварушылі, каб дапамагчы гэтаму і на самай справе таленавітаму паэту надрукавацца. І пашчасціла паэту толькі на Беларусі — на старасці год Веніямін Айзенштадт пасяліўся ў беларускай сталіцы. Неўзабаве пасля яго пераезду ў Мінск, з Масквы на імя Навума Кісліка прыйшоў ліст ад паэта Аляксандра Межырава, у якім вядомы рускі паэт пісаў, што "ў вас у Мінску жыве выдатны, проста геніяльны паэт Веніямін Айзенштадт, — вы зробіце вялікую высакародную справу, калі дапаможаце яму надрукаваць хоць некалькі вершаў. Надрукаваць яго ў маскоўскіх часопісах няма аніякай магчымасці". (Чаму ў Маскве няма такой магчымасці, Межыраў дыпламатычна не патлумачыў). Навум Кіслік пазнаёміў з гэтым лістом мяне і Аляксандра Дракахруста, разам мы адшукалі Айзенштадта, паехалі да яго на кватэру, некалькі гадзін запар слухалі яго вершы. Пасля рукапіс вершаў мы далі пачытаць Рыгору Барадуліну, а Барадулін, прыйшоўшы ў захапленне, пазнаёміў з вершамі Айзенштадта Пімена Панчанку, іншых вядомых беларускіх паэтаў. І ўсе ў адзін голас вырашылі: гэта трэба друкаваць! Трэба "прабіваць" у друк гэтага паэта з нязвыклай для сучаснай паэзіі рэлігійнай, містычнай тэматыкай, аўтара, глыбока засяроджанага на праблеме смерці і жыцця пасля смерці, на адносінах чалавека з Богам. І "прабілі"! Вершы Айзенштадта сталі з'яўляцца ў беларускім "Дні паэзіі", у часопісах "Родник", "Нёман", а з цягам часу Рыгор Барадулін дапамог паэту выдаць першую ў яго жыцці кніжку. Друкуецца Айзенштадт і ў нашы дні — нядаўна былі надрукаваны яго вершы ў тым жа "Нёмане", вялікую нізку вершаў і аўтабіяграфічнае эсэ Айзенштадта-Блажэннага надрукаваў часопіс "Монолог" (выходзіць у Мінску такі рускамоўны, дарэчы, вельмі цікавы часопіс). І зноў жа зусім нядаўна на Беларускім тэлебачанні прайшла паўгадзінная перадача, прысвечаная жыццю і творчасці В. Айзенштадта. Якое ж гэта "прозябание в безвестности"?

Непрыгожым ва ўсёй гэтай гісторыі з Айзенштадтам-Блажэнным выглядае толькі адзін момант — няўдзячнасць паэта, які ў сваім інтэрв'ю адной з урадавых газет таксама "пакаціў бочку" на беларушчыну, пачаў разважаць аб "больш высокай культуры", скардзіцца, што, маўляў, яму стала цяжка дыхаць на Беларусі. Але калі Блажэннаму яшчэ можна дараваць ягоную, скажам так, "забывчивость" (ён хворы і зусім стары чалавек, яму пад восемдзесят), то Аўруціну дараваць нельга, таму што ён проста хлусіць, наўмысна скажае факты. І не толькі ў тым, што тычыцца старога Блажэннага: няпраўда і ўсё тое, што ён сказаў пра іншых нібыта пакрыўджаных, заціскаемых, замоўчваемых рускіх паэтаў і празаікаў нашай краіны. Навум Кіслік, напрыклад, усе свае кніжкі, а іх трынаццаць плюс два тамы "Выбранага", выдаў у Мінску, у Мінску нарадзіўся як паэт Ігар Шклярэўскі, чыю першую кніжку "Я иду!" падтрымаў, вырваў з кіпцюроў цэнзуры Пятрусь Броўка, чыё імя "походя" лягнуў у сваім артыкуле Аўруцін. З дзесятак кніг аповесцяў і апавяданняў выдаў у Мінску Аркадзь Савелічаў, і я не думаю, што яму лягчэй выдавацца на радзіме, у Расіі, куды ён даўным даўно з'ехаў. Выдаў свае кнігі ў Мінску і Анатоль Сульянаў, першую, дарэчы, пры падтрымцы Васіля Быкава, які нават прадмову напісаў да яе, падмацаваў сваім аўтарытэтам. Ніхто ніколі не заціскаў і Святлану Яўсееву, бяда адно ў тым, што яна піша хоць і таленавіта, але вельмі мала. Ці, можа, і ў гэтым вінаватыя ландскнехты "пятай калоны"?

І, нарэшце, сам Анатоль Аўруцін. Ці не Міхась Стральцоў некалі апякаў яго, дапамагаў друкавацца, "працiскаў" Аўруціна ў Саюз пісьменнікаў, "прабіваў" нашага "больш творча адоранага"? У падзяку спадар Аўруцін пасля смерці Міхася са смакам расказаў пра ягонае няшчасце — пра тое, што Міхась піў...

Усе гэтыя "публіцыстычныя філіпікі" Аўруціна наконт "пятай калоны" нагадваюць мне паводзіны прыжывайлы, якому надакучылі гаспадары хаты, у якой ён жыве, — пасяліць бы іх дзе-небудзь у падсобцы, а яшчэ лепш — у хляве. Бо дужа яны малакультурныя, усё яшчэ чапляюцца за сваю "деревенскую" мову, панавешвалі на сценах партрэты сваіх малакультурных продкаў, напрыклад, нейкую Цётку!

Я не перабольшваю: Аўруцін сапраўды лічыць карэктным супрацьпастаўляць Цётцы Аляксандра Блока, маўляў, куды ёй да яго! Як і ўсёй вашай беларускай паэзіі! І няўцям нашаму інтэлектуалу, што ён "сморозил очередную глупость", што толькі павярхоўны "щелкопёр" можа рабіць падобныя параўнанні. Гэта тое самае, што супрацьпастаўляць ружу — рамонку, вяргіню — васільку у той час, як усе яны — цуд прыроды, цуд яе творчасці. Акрамя таго, зневажаць чужыя святыні — звычайная свінства.

Думаецца, ідыёсінкразія Аўруціна на беларускую мову, на ўсё беларускае, ідыёсінкразія, ад якой у яго болькі і на сэрцы і на языку, ад таго, што ён глухі да беларускай мовы, хоць і называе яе па звыклым, зацяганым шаблоне "певучей и мелодичной". А глухі да мовы — глухі і да паэзіі. Наўрад ці ён па-сапраўднаму ведае і разумее беларускую паэзію, таму пачытаў бы кнігі Рыгора Саламонавіча Бярозкіна, такія, як "Спадарожніца часу" і "Звенні", "Постаці" і "Свет Купалы", у якіх беларуская паэзія разглядаецца ў кантэксце сусветнай паэзіі як адзін з яе яскравых, глыбокіх і загадкавых феноменаў. Уяўляю сабе, як абурыўся б, які боль адчуў бы Рыгор Бярозкін, прачытаўшы "фантазіі" вершаскладальніка Анатоля Аўруціна на тэму "больш высокай культуры"! У літаратурах свету, спадар Аўруцін, няма карлікаў і няма "великанов". Ёсць галіны аднаго дрэва, адна крона над ім — крона чалавецтва, у якой спяваюць самыя розныя птахі. І які-небудзь шчыгол ці нават верабей нічым не горшыя за салоўку. Калі ёсць крылы!

І апошняе. Не хачу, каб мяне папракнулі, што я абышоў, пабаяўся закрануць адну балючую тэму, абазначаную Аўруціным. Маю на ўвазе яго "выпад" супраць Наталлі Арсенневай, гэтай, як ён піша, "посредственной поэтессы", "супруги командира белорусской дивизии СС, лично выдававшей подпольщиков гестапо". Думаю, што ў мяне, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны, беларускага партызана, ёсць крыху большае, чым у Аўруціна, маральнае права сказаць на гэты конт сваё слова.

У свой час, калі імя Наталлі Арсенневай і яе творчасць выйшлі з-пад забароны, я на старонках "ЛіМа" выступіў з артыкулам "Пра Наталлю Арсенневу" і не толькі...". І тое, што сказаў тады, магу паўтарыць і сёння: калабаранцтва Наталлі Арсенневай — факт яе біяграфіі, які не выкрасліш. Як не выкрасліш такі ж факт з біяграфіі, скажам, Кнута Гамсуна, асабістага сябра Гітлера, чалавека, які паслаў у СС сваіх сыноў. І ў часы акупацыі Нарвегіі нарвежцы з абурэннем кідалі праз агароджу ў сад Гамсуна яго кнігі. Але іх нельга выкінуць з гісторыі нарвежскай літаратуры, з гісторыі сусветнай літаратуры, таму зусім натуральна, што яны вярнуліся ў нашы бібліятэкі. Сам Гамсун заплаціў за здраду Нарвегіі гадамі ганьбы, але чаму за яго калабаранцтва павінны плаціць яго кнігі? Яны існуюць незалежна ад таго, кім і чым быў іх аўтар у гады вайны. Тое ж і з Арсенневай, хай сабе маштаб яе таленту непараўнальны з магутным талентам Гамсуна. Аднак яе творчасць — старонка гісторыі беларускай паэзіі, да таго ж, старонка, аплачаная трагічным асабістым лёсам: партызаны забілі яе сына, зусім хлопчыка. І я не магу гэтаму радавацца. Як не магу пратэставаць супраць выдання кніг Арсенневай — паэзія засталася паэзіяй. А якая гэта паэзія — хай адзнакі ставіць чытач. І гісторыя. Нам, сучаснікам, ды яшчэ прадузятым, палітызаваным — лепш устрымацца.

Ды, зрэшты, хай Аўруцін ставіць свае адзнакі каму хоча і якія хоча. Мяне дзівіць іншае. Тое, як ён, накідваючыся на калабарантаў, не заўважае, што спявае тыя ж самыя чарнасоценныя псалмы, што і сённяшнія расійскія, і не толькі расійскія, ура-патрыёты, чый "патрыятызм" — нешта накшталт шавіністычнай ліхаманкі, імперскай хваробы нянавісці да прадстаўнікоў "больш нізкай культуры".

Мусібыць, спадара Аўруціна аглушыў "славянскі набат" — і ён ужо сам не чуе, што спявае. Як той глушэц на такавішчы.

**Валянцін ТАРАС,**
**адзін**
**з "пятай калоны"**


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985

**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2332-204
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4275
Нумар падпісаны ў друк 9.4.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 1978/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12